30 кастрычніка 2015 | № 41 (458)

Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

На шляху ад пераследу да талерантнасці стар. 6





**5** ДАРМАЕДЫ, ПРЭКАРЫЯТЫ І ЗАМОЖНЫЯ ШВЕЙЦАРЦЫ

Пакуль беларускія ўлады шукаюць, з каго б яшчэ стрэсці грошы, швейцарскія — плануюць падзяліцца з народам прыбыткам



**29** ЦІ ДАПАМОГУЦЬ ХАНЫ ЕЛБАСЫ?

Пра тое, навошта Назарбаеву спатрэбіўся культ ханаў і што ў выніку атрымалася, распавядае казахскі грамадскі актывіст Курман Канураў



**9–24** Літаратурная Беларусь

**30** ПРАЗ СІБІР І КАНАДУ ПЯЯЦЬ ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

У Беларусі Пётра Конюх да сёння застаецца асобай малавядомай. Няма не толькі прысвечаных яму кніг, але і артыкулы можна пералічыць на пальцах

# Польшча будзе за сваіх

**Надзеі на новы ўрад Польшчы з боку беларускіх аналітыкаў, хутчэй, перабольшаныя**



Сяргей ПУЛЬША

Такога ў Польшчы яшчэ не было. Парламент Польшчы цалкам правы. Упершыню ўрад будзе не кааліцыйным. Акрамя таго, зноў і прэзідэнт, і ўрад належаць да адной ідэйнай платформы, што дае значна больш магчымасцяў у прыняцці рашэнняў. Таму вынікам польскіх выбараў у Беларусі надаецца вялікая ўвага. Якой будзе польская палітыка ў дачыненні да Беларусі?

Адказ на гэта пытанне шматлікія аналітыкі ўжо далі: у афіцыйнага Мінска ўзнікае моцны галаўны боль. Справа ў тым, што PiS традыцыйна надавала шмат увагі палякам замежжа. Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі зазначыў, што праблема «афіцыйнага» Саюза палякаў, які прызнаецца беларускай уладай, але не прызнаецца Польшчай, і «неафіцыйнага», які не прызнаецца ўладай, але мае падтрымку ў Польшчы, — можа значна абвастрыць адносіны паміж нашымі краінамі.

Больш радыкальна выказаўся на гэтую тэму палітык і гісторык Анатоль Сідарэвіч. «Гэты ўрад будзе адстойваць і абараняць правы польскай меншасці ў Беларусі, пра што я дакладна ведаю», — заявіў ён у інтэрв'ю Радыё «Свабода».

Таксама PiS традыцыйна ўспрымае як, па меншай меры, «не сябра», Расію, і марыць бачыць Беларусь дэмакратычнай еўрапейскай краінай. І не толькі марыць. Менавіта падчас знаходжання PiS ва ўладзе, у 2006–2007 гадах (прэзідэнтам быў Лех Качыньскі, а прэм'ерам — Яраслаў Качыньскі) былі рэалізаваныя такія праекты, як «праграма Каліноўскага», тэлеканал «Белсат» і вяшчанне «Радыё Рацыя». На гэты ж перыяд прыпадаюць і найбольш складаныя адносіны Беларусі і Польшчы — менавіта з-за Саюза палякаў.

Як зазначыў у інтэрв'ю сайту charter97.org былы дарадца-намеснік пасла Польшчы ў Беларусі Марэк Буцька, зараз Польшча будзе заклапочаная павышэннем свайго статусу ў ЕС, каб «зрабіць так, што Польшча будзе мець голас у ЕС, прапарцыйны яе геаграфічнаму становішчу, эканамічнаму і дэмаграфічнаму патэнцыялу». Акрамя таго, PiS «цалкам ўсведамляе тую небяспеку, якая зыходзіць ад расійскага імперыялізму. І тут проста не можа быць розначатання: новы ўрад адназначна зоймецца аднаўленнем моцы польскай арміі».

«З іншага боку, PiS усведамляе, што толькі цалкам незалежныя Беларусь і Украіна адпавядаюць інтарэсам бяспекі Польшчы. Калі раней падтрымка дэмакратычнай супольнасці ў Беларусі і падтрымка Украіны засноўваліся хутчэй на ідэалістычных матывах, то зараз ёсць дакладнае ўсведамленне таго, што гэта звязана з пытаннем нашай уласнай бяспекі», — адзначыў Буцька.

Такім чынам, у адносінах афіцыйнага Мінска і Варшавы настаюць больш складаныя часы. Зразумела, што пытаннем польскай меншасці і дэмакратызацыі Беларусі Варшава дасць новы штуршок. Але таксама цалкам зразумела, што адна Польшча ніяк не здолее «дэмакратызаваць» Беларусь ці прыняць нейкія захады, якія б істотна паўплывалі на становішча ў нашай краіне.




**У адносінах Мінска і Варшавы настаюць больш складаныя часы**

А доўгатэрміновая палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі застаецца няўцямнай. Можна сказаць, што такой палітыкі нават не існуе. Напрыклад, зараз Еўропа мае намер прыпыніць санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. Нагадаем, што санкцыі ўводзіліся ў 2006 годзе як адказ на беларускія «выбары» і парушэнне правоў чалавека. З таго часу ані ў выбарах, ані ў правах чалавека нічога не змянілася. Тым не менш, санкцыі прыпыняліся ў 2008 годзе, потым зноўку ўводзіліся ў 2010-м, зараз зноўку прыпыняюцца... Ну, палітыку ЕС вы зразумелі.

Апроч таго, Мінск зараз «нармалізуе адносіны з Захадам». Гэтая «нармалізацыя» можа паўплываць на тое, што польскія заўвагі і інтарэсы могуць быць адкладзеныя ўбок, дзеля агульных інтарэсаў ЕС, як ужо не раз здаралася.

Польшча, найперш, будзе вырашаць свае праблемы з Захадам. Па-другое, будзе праводзіць больш радыкальную антырасійскую палітыку і палітыку ўласнай бяспекі. І толькі на трэцім месцы ў яе стаяць адносіны з Беларуссю. Да таго ж, як сказаў tut.by палітолаг, дактарант Польскай акадэміі навук Аляксандр Папко, «ёсць пэўныя колы сярод польскіх кансерватараў, якія лічаць, што не трэба ўступаць ні ў якія супярэчнасці з Лукашэнкам, можа лепш з ім дамовіцца, каб ён не здаў Беларусь Расіі, і не злаваць яго спробамі падтрымкі дэмакратызацыі».

Такім чынам, Польшча, хутчэй, будзе вырашаць у адносінах да Беларусі лакальныя задачы, якія найперш адпавядаюць інтарэсам гэтай краіны і інтарэсам польскай меншасці тут. Іншая справа, што і гэтыя пытанні могуць напружыць адносіны. Але ў глабальным плане нічога звышрадыкальнага ад новага польскага ўраду чакаць не даводзіцца. Хутчэй за ўсё, агульная палітыка Польшчы ў дачыненні да Беларусі будзе палягаць на пазіцыях палітыкі ЕС.


Фота Генадзя Кеснера

# Па 9 мільёнаў за нацыянальны сцяг

Генадзь КЕСНЕР

**Суд Цэнтральнага раёна Мінска 28 кастрычніка прысудзіў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолю Лябедзьку і апазіцыйнаму дзеячу Вячаславу Сіўчыку па 50 базавых велічыняў (9 мільёнаў рублёў) штрафу кожнаму за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, якая прайшла ў цэнтры Мінска 10 кастрычніка. Гэта было «Шэсце нацыянальнага сцяга», як назвалі яго арганізатары.**

Вяла працэс суддзя Вікторыя Шабуня, якая ўжо разглядала не адну справу падобнага кшталту, выносячы абвінавачўчыя вердыкты. Таму яна і знаходзіцца ў спісе асобаў, якім забаронены ўезд у краіны Еўрапейскага Саюза.

Лябедзька адмовіўся ад адваката. «У мяне багаты досвед падобных справаў, таму я буду абараняць сябе сам», — сказаў палітык. Ён адразу заявіў адвод суддзі, бо, на думку апазіцыянера, яна не вольная ў сваіх рашэннях, а сапраўднай судовай сістэмы ў Беларусі няма. «Яна знікла ў нашай краіне пасля рэферэндуму 1996 года, калі быў разагнаны Канстытуцыйны суд. Таму ніякага даверу да цяперашняй так званай судовай сістэмы няма, як і да суддзі, якая ўжо займалася такімі рэчамі», — упэўнены лідар АГП.

Суддзя Шабуня, параіўшыся колькі хвілінаў сама з сабою ў пакоі «для нарадаў», натуральна, адмовіла Лябедзьку ў задавальненні хадайніцтва.

Сведкамі на працэсе выступілі супрацоўнікі міліцыі Андрэй Сувораў, Валянцін Грышкевіч і Аляксандр Сакольчык. Яны сведчылі, што бачылі Лябедзьку пасля 17-й гадзіны 10 кастрычніка каля мінскай ратушы ў натоўпе, што збіраўся пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Па іх словах, палітык выкрыкваў «Жыве Беларусь!» і «Байкот выбараў!».

Сведкі не змаглі адказаць на пытанне Лябедзькі, ці ўгледзелі яны склад адміністрацыйнага правапарушэння ў тых падзеях. Ніхто з іх таксама не змог сказаць, што гаворыцца ў артыкуле 45 Выбарчага кодэкса, у якім грамадзянам гарантуецца права на сходы дзеля абмеркавання праграм кандыдатаў. Апроч таго, сведчанні міліцыянтаў абмяжаваліся прысутнасцю Лябедзькі ля ратушы, — і не больш за тое.

Цікавы момант у іншым. Сама акцыя адбылася 10 кастрычніка, але пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да Лябедзькі быў складзены маёрам Віталем Шантарам з Цэнтральнага РУУС толькі 15 кастрычніка. Шантара выклікалі ў суд па хадайніцтве Лябедзькі. Маёр паведаміў, што атрымаў рапарты ад згаданых вышэй міліцыянтаў і правёў іх апытанне 13 кастрычніка. А ў складзеным і перададзеным у суд пратаколе гаворка ішла пра шэсце ад Плошчы Свабоды да Плошчы Якуба Коласа, пра якое сведкі на судзе нават не згадвалі.

Лябедзька, натуральна, звярнуў увагу суддзі на такія нестыкоўкі, аднак спадарыня Шабуня да ўвагі гэта не прыняла.

«Я яшчэ да суда прагназаваў, што вырак падрыхтаваны загадзя. Але не чакаў, што будуць такія нестыкоўкі ў паказаннях сведкаў і ў пратаколе, які склаў Шантар. І яшчэ вельмі характэрна, што супрацоўнікі міліцыі нават не ўяўляюць, якія правы дае грамадзянам артыкул 45 Выбарчага кодэкса. Яны не трымаюцца і Канстытуцыі», — канстатаваў кіраўнік АГП.

Ён не выключае, што абскардзіць рашэнне суда Цэнтральнага раёна сталіцы ў Мінскі гарадскі суд.

У той жа дзень тым жа судом за тую ж акцыю таксама на 9 мільёнаў штрафу быў асуджаны і Вячаслаў Сіўчык.

# Беларусі патрэбныя партызаны

Юрый ДУБІНА

**Неабходна выпрацаваць адмысловы закон па ідэалагічнай працы ў войску ды стварыць заканадаўчую базу для партызанскага руху. Да такой высновы прыйшлі вайсковыя эксперты, якія абмяркоўвалі законапраект аб абароне, распрацаваны кіраўніком «Belarus Security Blog» Андрэем Паротнікавым.**

Укруглым стале прымалі ўдзел падпалкоўнік запасу Станіслаў Суднік, адзін з арганізатараў Беларускага згуртавання вайскоўцаў Алесь Станкевіч, адмысловец у галіне абароны мяжы Леанід Спаткай, ваенны гісторык Аляксандр Гелагаеў, «афганцы» Аляксандр Камароўскі і Алег Волчак, эксперт Аляксандр Алесін. Абмеркаванне законапраекта прайшло ў межах праграмы «Урад для народа», якую рэалізуе аргкамітэт Беларускай хрысціянскай дэмакратыі супольна з Інстытутам дэмакратыі і сацыяльнага рынку.

Эксперты прыйшлі да высновы, што неабходна ўзмацніць ідэалагічную працу і беларускамоўную падрыхтоўку не толькі ў войску, якое жыве па савецкай ідэалогіі, але пашыраць сістэму гістарычнай і нацыянальнай падрыхтоўкі будучых вайскоўцаў са школы. «Неабходна прымаць закон аб ідэалагічнай працы ў войску, якое цяпер пабудавана на савецкай дактрыне і гістарыяграфіі. Да чаго гэта прыводзіць, мы бачылі па ўкраінскім войску ў першыя месяцы вайны», — падкрэсліў сустаршыня БХД Павел Севярынец.

Гаворка ідзе і пра стварэнне адмысловага закона «Аб партызанскім руху». Існуюць пэўныя юрыдычныя складанасці для прыняцця такога закона, аднак эксперты лічаць, што яго ў любым выпадку неабходна абмяркоўваць.

Андрэй Паротнікаў вылучае пяць наватарскіх падыходаў, закладзеных у законапраект.

Сярод іх — права галоўнакамандуючага наўпрост без правядзення ўказа праз парламент, уводзіць ваеннае становішча.

Прапануецца шырока ўцягваць грамадскасць у абаронную сферу. Праект прадугледжвае стварэнне грамадскіх аб'яднанняў, якія змогуць аказваць альбо садзейнічанне (у ДАСААФа могуць з'явіцца канкурэнты), альбо прымаць непасрэдны ўдзел у абароне — па прыкладу прыбалтыйскіх ды скандынаўскіх апалчэнняў, якія працуюць у цеснай сувязі з Міністэрствам абароны.

Праект прапісвае дакладныя ўмовы і абставіны, пры якіх магчымая адпраўка беларускіх вайскоўцаў за мяжу. Акрамя міжнародных аперацый, падтрымкі саюзных краінаў, прапісана магчымасць прымянення войскаў у выпадку пагрозы жыццю грамадзян Беларусі, этнічным беларусам і іх нашчадкам, а таксама пры пагрозе маёмасці краіны за мяжой.

Дакумент прадугледжвае права на прэвентыўную абарону. Калі ёсць рэальныя падставы падазраваць падрыхтоўку агрэсіі, могуць прымацца захады па яе зрыву, не чакаючы самой агрэсіі: то бок, прымяненне ўзброенай сілы першымі.

Пятая адметнасць выведзена на аснове ўкраінскага вопыту: калі існуе пагроза абстрэлу ці тэрыторыя Беларусі абстрэльваецца з-за мяжы, то Галоўнакамандуючы можа аддаць загад на перасячэнне мяжы беларускімі войскамі і на ліквідацыю пагрозы.

Па словах Паротнікава, праект з'яўляецца «канцэптуальным, у межах існуючай канстытуцыйнай сістэмы ён не можа быць прыняты».

# Вельмі дарагая роба

**За тое, што прыйшоў на працу ў паласатай робе, баранавіцкі актывіст Рыгор Грык пакараны штрафам у 30 базавых велічыняў.**

Справа пачалася 24 верасня, калі Рыгор Грык прыйшоў у краму «MART INN», дзе ён працаваў грузчыкам, у паласатай робе, стылізаванай пад канцлагернае адзенне. Як распавёў спадар Грык, такім чынам ён выказваў пратэст супраць таго, што яму не выдаюць працоўнае адзенне.

«Я прыйшоў на працу ў канцлагерный адзежы. Дырэктарка захацела, каб я пераапрануўся, а я сказаў, што павінен быць чыстым, а мая адзежа чыстая, але ў палосачку. Іншай у мяне не было. Справа ў тым, што мне ніколі не выдавалі спецадзенне», — патлумачыў свой учынак Грык. Тады ў краму прыехала міліцыя, але Грыка не забрала, бо паводзіў ён сабе карэктна.

У той жа дзень Грык быў звольнены нібыта «за прагул», хаця ў той дзень, за які яго звольнілі, актывіст працаваць быў не павінен.

Судзілі Грыка «па сукупнасці»: за паводзіны ў краме і за выбарчы пікет Таццяны Караткевіч, які ён ладзіў у Баранавічах 27 верасня. Варта зазначыць, што сведка-міліцыянт на працэсе заявіў, што не чуў, каб Грык 24 верасня на працы лаяўся. Другі сведка, таксама супрацоўнік міліцыі, выступаў у справе пікета Грыка 27 верасня, і паведаміў, што складаў рапарт пра пікет Грыка, і распавёў, як выглядаў пікет.

Відэазапісаў з крамы, дзе быццам бы лаяўся Грык, не праглядалі. Выявілася, што іх ужо не існуе.

Суддзя Васіль Петрыў даў Рыгору Грыку штраф па дзвюх адміністрацыйных справах у памеры 30 базавых велічыняў (5 мільёнаў 400 тысяч рублёў). «У нас самы справядлівы суд у свеце. У гэтай краіне, дзе пануе няпраўда, хлусня і мана. Зразумела было, што калі змянілі суддзю, Петрыў засудзіць мяне сто працэнтаў. Той акцыяй, якую я правёў, я хацеў паказаць, як прыніжаюць і здзекуюцца з працоўных», — зазначыў Грык пасля вынясення прысуда.

Рыгор Грык разам з праваабаронцамі будзе вырашаць, ці абскарджваць яму прысуджаны штраф.

**Паводле Радыё «Свабода»**

# Чаго баяцца ў Свіслачы?

**Улады імкнуцца перашкодзіць правядзенню Дня памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы. Пра гэта паведаміў адзін з арганізатараў акцыі Уладзімір Хільмановіч.**

«Мне патэлефанавалі з Гродзенскага аўтапарка. Жанчына вельмі спалохапным голасам паведаміла, што аўтапарк не зможа забяспечыць нас аўтобусам, які быў замоўлены і аплачаны. Я асабіста замаўляў аўтобус на 28 чалавек на праезд у Свіслач на Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. Такім чынам, улады імкнуцца перашкодзіць правядзенню фэсту памяці, калі напярэдадні Дзядоў людзі едуць у Свіслач і ўшаноўваюць нашых нацыянальных герояў. Я не ведаю, якое тлумачэнне дасць кіраўніцтва аўтапарка. Але, хутчэй за ўсё, яны будуць хаваць вочы, адмоўчвацца ці казаць пра тэхнічныя прычыны. Хоць зразумела, што гэта не так. Тым больш, аўтобус быў зарэзерваваны загадзя, аплачаны і збіраўся выехаць у Свіслач. Не выключаю, што ў гэтай справе буду звяртацца ў суд», — сказаў Хільмановіч.

Традыцыйнае ўшанаванне памяці паўстанцаў Каліноўскага запланавана ў Свіслачы на гэтую суботу, 31 кастрычніка. Як вядома, у Свіслачы пахаваны старэйшы з братоў Каліноўскіх — Віктар, які лічыцца ідэолагам нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года.

**Паводле Радыё «Рацыя»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Праляцелі міма?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Што ні кажы, але выбарчая кампанія зрабіла адну добрую справу. Была настолькі актуалізаваная тэма расійскай ваеннапаветранай базы ў Беларусі, што пра яе дасюль забыцца не могуць.**

Фота www.news.rambler.ru

Спачатку, яшчэ перад прэзідэнцкімі выбарамі, Аляксандр Лукашэнка заявіў, што пра базу ён нічога не ведае, і размова пра гэта не ішла, а размова ішла толькі пра самалёты, якімі будуць кіраваць пілоты-беларусы. На мінулым тыдні міністр абароны Беларусі Андрэй Раўкоў выказаў меркаванне, што сэнсу размяшчаць у сінявокай расійскія «птушкі» ён не бачыць. Маўляў, калі гэты крок з'явіцца адказам на ўзмацненне NATO ў Польшчы, то ёсць і больш адэкватныя адказы. «Развагі такія: нашы суседзі, асабліва новаабраны прэзідэнт Польшчы, просіць NATO — і яны пагадзіліся — размясціць чатыры базы рознага прызначэння, у тым ліку і авіяцыйнага, у непасрэднай блізкасці ад мяжы Беларусі. І адказ просты: дык, можа, мы возьмем нейкія сродкі паразы, якія могуць своечасова ў патрэбным месцы нанесці паразу гэтым аб'ектам? Гэта будзе нашмат больш эфектыўна, чым авіяцыйная база», — заявіў міністр у эфіры АНТ.

А на гэтым тыдні па праблеме авіябазы выказаўся міністр замежных справаў Уладзімір Макей. У яговых развагах, надрукаваных расійскай газетай «Коммерсант», выказваецца думка, што стварэнне расійскай авіябазы ў Беларусі не толькі не знізіць «ваенна-палітычную напружанасць» у рэгіёне, але і «выкліча раздражненне ў адрас і Мінска, і Масквы».

Макей адзначыў, што ў Беларусі цяпер «знаходзіцца столькі авіябазаў, што там у лічаныя гадзіны можна размясціць сотні самалётаў». На яго думку, для Мінска больш актуальна абмяркоўваць магчымасць «даць аператыўны адказ на выпадак росту напружанасці ў рэгіёне або пагрозы бяспекі Беларусі і Расіі». І адзначыў, што перамовы па лініі дыпламатычных ведамстваў на гэтую тэму не вяліся.

Усе разумеюць, што ў нашай краіне чыноўнікі, асабліва на ўзроўні міністраў, мала самастойныя ў сваіх выказваннях. Гэта азначае, што гандаль па авіябазе працягваецца. І працягваецца ён ужо ў іншым рэчышчы.

Зараз Расіі няма сэнсу размяшчаць у Беларусі авіяцыю. Я думаю, ні для каго не было сакрэтам, што падляванне пытання расійскай авіяцыі ў Беларусі было спробаю ціску на Украіну. Асабліва ў тыя часы, калі нашая паўднёвая суседка актыўна скарыстоўвала авіяцыю ў барацьбе з сепаратыстамі. Зараз канфлікт у Данбасе ідзе да замірэння, а ў старэйшага брата ўзнікла новая кропка напружанасці, дзе патрэбныя самалёты, — Сірыя. З Беларусі да Дамаска не так блізка, як да Данецка.

З другога боку, Аляксандр Рыгоравіч даўно прасіў у Расіі зусім іншую зброю: зенітна-ракетныя сістэмы С-400 і аператыўна-тактычныя комплексы «Іскандэр». Пра гэта ідзе размова як мінімум ад 2009 года. Аднак расіяне цягнулі ката за хвост, нічога з жаданага галоўнаму вайсковаму саюзніку не прадаючы і не перадаючы. Зусім не таму, што маскавіты такія кепскія. Проста адзіны расійскі завод у Воткінску, дзе робяць такія ракеты, загружаны пад завязку замовамі Мінабароны РФ. Таму што акрамя ракет для «Іскандэраў» выпускае яшчэ і прадукцыю для «стратэгаў» і маракоў. А менавіта — для комплексаў «Булава», «Ярс» і «Тапаля». Зараз, у сувязі з сітуацыяй у Сірыі, «ракетчыкі» ўвогуле перайшлі на трохзменны графік працы, і займацца беларускім «леваком» ім проста нестае часу.

**Вынік гандлю паміж Мінскам і Масквой у тым, якія ўзбраенні патрэбныя Беларусі, і якія адказы NATO больш адэкватныя, можа скончыцца даволі непрыемным сюрпрызам**

Дайшло да таго, што Беларусь на парадзе, які прайшоў у гэтым годзе ў Мінску, паказала свету ўласнаручна створаную сістэму залпавага агню «Паланэз». Пра яе вядома толькі тое, што яна здольная пацэліць на 200 км. Што не дацягвае, канешне, да «Іскандэраў», асабліва ў мадыфікацыі «Іскандэр-М» з 500 км далёкасці.

Што самае небяспечнае ў гэтых гульнях у вайнушку? Тое, што Лукашэнка можа пераканаць Пуціна ў непатрэбнасці авіябазы. І Пуцін адкліча сваю пастанову аб яе стварэнні ў Беларусі. Пасля гэтага вэрхал вакол авіябазы сціішыцца. А калі ён сціішыцца, таксама цішком Пуцін падпіша іншую пастанову: аб стварэнні ў Беларусі адной-двух ракетных базаў. Адна з «Іскандэрамі», другая з С-400. Маўляў, як Лукашэнка калісьці: «Вы прасілі дождж? Я даў вам дождж». Вы прасілі «Іскандэры»? Калі ласка, атрымайце. У выглядзе базы? Ну і што?

І вожыку зразумела, што такая «ратацыя» ваенных базаў — змена шыла на мыла, альбо на яшчэ большае шыла. Калі ў дачыненні да авіябазы незразумела, будуць там знішчальнікі выключна супрацьпаветранай абароны, альбо з магчымасцю несці тактычную зброю, то «Іскандэр» — гэта выключна зброя наступу. Якая, дарэчы, таксама, як і ў пытанні з самалётамі, можа несці і ядзерную зброю. Адпаведна, як і з авіябазай, ракетная база з'яўляецца ў выпадку магчымага канфлікту «мэтай першага ўдару». То бок, небяспекі для Беларусі гэта не здымае, а можа, нават і дадае.

Змяшчэнне ў краіне зброі, якая патэнцыйна можа несці ядзерныя боегалоўкі, таксама, як і з авіябазай, ставіць пад сумнеў без'ядзерны статус Беларусі. І таксама, паводле выразу Макея, не знізіць «ваенна-палітычную напружанасць» у рэгіёне, і выкліча яшчэ большае «раздражненне ў адрас і Мінска, і Масквы».

А яшчэ напружвае ў гэтай сітуацыі беларуская АЭС. Як вядома, расіяне ўжо адгрузілі корпус ядзернага рэактара для першага энергаблока Астравецкай станцыі. З 14 кастрычніка ён павольна рухаецца ў Беларусь, транспарціроўка павінна заняць недзе 70 дзён. Пасля заканчэння будаўніцтва, у нашую краіну пойдуць і расійскія радыеактыўныя паліўныя элементы, бо хто дзяўчыну вячэрае, той яе і танчыць: хто будуе станцыю, той і паліва для яе пастаўляе. А вось ці могуць у давесак да паліва прычапіць, скажам, вагон з ядзернымі боегалоўкамі для «Іскандэраў», калі яны тут будуць? Па-мойму, гэта элементарная маскіроўка.

Так што вынік гандлю паміж Мінскам і Масквой у тым, якія ўзбраенні патрэбныя Беларусі, і якія адказы NATO больш адэкватныя, можа скончыцца даволі непрыемным сюрпрызам для нашай краіны.

І вельмі цікава ўсё супадае па часе: авіябаза, ад якой мы адхрышчваемся, павінна была з'явіцца ў краіне ў 2016-м, пра «больш адэкватнае ўзбраенне» мы загаварылі зараз, і першы блок Астравецкай АЭС таксама плануем запусціць у будучым годзе. Сапраўды супадзенне?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Сяргей Сідорскі



**Экс-прэм'ер, чалец Калегіі (міністр) па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі заступіўся за беларускія прадукты.**

У кулуарах X міжнароднай канферэнцыі «Еўразійская эканамічная інтэграцыя» ў Маскве Сідорскі заклікаў не называць беларуска-расійскія канфлікты адносна паставак тых ці іншых прадуктаў харчавання «гандлёвымі войнамі». «Не трэба пра вайну! Вайна — гэта ў Сірыі. Заканчвайце кідацца такімі жорсткімі фармулёўкамі. Ёсць пытанні, якія сёння перашкаджаюць свабоднаму руху тавараў. Трэба садзіцца і дамаўляцца, а не даводзіць да крайнасцяў», — сказаў Сідорскі.

Але і свайго «не аддадзім», папярэдзіў ён. «Усе супакоіліся, працуюць, але зноў камусьці карціць! Камусьці цікавы пальмавы алей — гэтую тэму спрабуюць навязаць усім і ўся. Не трэба Беларусі навязваць гэтыя пытанні. Беларусь пастаўляе ўсе высакаякасныя прадукты, прычым толькі па ДАСТах! А ДАСТ прадугледжваў нават у былым Саюзе выкарыстанне толькі натуральных прадуктаў. І ўсё, што спрабуе нехта выявіць, — на якімсьці базары ў Омску, ужо ўсім нагнала аскому».

На пытанне, што з гэтым рабіць, міністр адзначыў: «У абодвух профільных міністэрствах ёсць кантралюючыя органы — і па пастаўках сыравіны, і па пастаўках гатовай прадукцыі. Гэтыя органы павінны сустракацца ў прысутнасці міністраў і абмяркоўваць усе гэтыя надзённыя пытанні. У чымсьці, магчыма, саступіць. Але дзесьці не саступаць! Мы ніяк не ўплываем на ваш рынак».

### Сяргей Бахун



**Грамадскі актывіст мае намер судзіцца з беларускай міліцыяй. Падстава ўсё тая ж — затрыманне на футбольным матчы з-за герба «Пагоня» на шаліку.**

Гісторыя гэта цягнецца ўжо год. Бахуна затрымалі ў Барысаве 26 жніўня 2014 года, калі БАТЭ прымаў «Слован» з Браціславы. БАТЭ тады выйграў 3:0, Сяргей гэтага не пабачыў — у сярэдзіне першага тайма яго вывелі з трыбуны і трымалі амаль да канца матча ў апорным пункце стадыёна.

«Трымалі для таго, каб начальнік змог прыйсці і правесці гутарку. Прыйшоў недзе праз гадзіну — маёр Вячаслаў Паўлавец. Сказаў, што на маім шаліку «Пагоня», гэта незарэгістраваная сімволіка. У выніку я шалік схаваў пад куртку. Тады мяне пусцілі назад на трыбуну. Але матч ужо падыходзіў да канца», — расказвае заўзятар.

Бахун напісаў скаргу на дзеянні маёра Паўлаўца кіраўніку Барысаўскага РАУС і ў пракуратуру Барысаўскага раёна. З абодвух органаў адказалі, што парушэнняў не выявілі. Сяргей наняў адваката, пісаў скаргі ў пракуратуру Мінскай вобласці і начальніку УУС Мінаблвыканкама. Вынік той самы.

Актывіст працягвае абскарджваць дзеянні міліцыі, патрабуючы кампенсацыі квітка і грошай на дарогу. Зараз ён чакае новага адказу. «Калі міліцыя чарговы раз не знойдзе парушэнняў у дзеяннях маёра Вячаслава Паўлаўца, будзем з адвакатам пісаць заяву ў суд», — гаворыць Сяргей Бахун.

### Эдуард Занкавец



**Былы галоўны трэнер зборнай Беларусі стаў скаўтам (разведчыкам) лепшага клуба НХЛ — «Чыкага Блэкхокс» — уладальніка Кубка Стэнлі – 2015.**

У задачы скаўта ўваходзіць пошук перспектыўных гульцоў для клуба. «У скаўцкім аддзеле «Чыкага» — больш за 10 чалавек. І ў кожнага свая зона адказнасці. Хтосьці адсочвае хакеістаў дзіцяча-юнацкага, моладзевага ўзроўняў. Хтосьці — гульцоў у розных лігах. Мой участак — гэта чэмпіянат КХЛ. Шукаю галоўным чынам гульцоў ад 22 да 26 гадоў, якія ўжо цяпер могуць выступаць за «Чыкага» або якія будуць гатовыя ў хуткім часе», — расказаў Знакавец.

Знакавец стаў першым беларусам, які працуе ў НХЛ скаўтам.

# Беларусы чакаюць дэвальвацыю

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**У краіне запаволілася інфляцыя, ваганні курсаў валют працяглы час знаходзяцца ў межах ста рублёў. Ці азначае гэта, што краіна прыйшла да нейкай стабільнасці? Адмыслоўцы кажуць: зацішша перад бурай.**

Уапошнім выпуску макраэканамічнага дайджэста, які падрыхтавалі аналітыкі Еўразійскага банка развіцця (ЕАБР), канстатуецца запаволенне інфляцыйных працэсаў у краіне. Эксперты звяртаюць увагу, што прырост спажывецкіх цэн у гадавым выражэнні ў Беларусі знізіўся з 17,1% у студзені да 11,9% у верасні 2015 года і з другога квартала знаходзіцца ніжэй за абвешчаны Нацбанкам мэтавы (18%) параметр на 2015 год.

«Нягледзячы на тое, што ў верасні 2015 года інфляцыя некалькі паскорылася, тэндэнцыя запаволення інфляцыйнай дынамікі ў гадавым выражэнні захоўваецца», — гаворыцца ў макраэканамічным дайджэсце ЕАБР.

Падавалася б, што гэта вельмі добра: улады нарэшце могуць наблізіцца да запаветнай мары стрымаць гадавую інфляцыю ў межах 12%. Але насамрэч, у аналітыках ЕАБР узнікаюць пытанні да прычыны запавольвання інфляцыі.

На іх думку, гэтая прычына палягае ў тым, што беларусы проста чакаюць непазбежнай дэвальвацыі. «Запаволенне інфляцыі ў гадавым вымярэнні, верагодна, звязана з тым, што высокія дэвальвацыйныя чаканні паскараюць працэс свабоднай канвертацыі рублёвай масы ў замежную валюту, тым самым запавольваючы тэмпы росту рублёвай грашовай масы і паскараючы рост грашовага агрэгата М3, які ўключае ў сябе дэпазіты ў замежнай валюце», — мяркуюць эканамісты ЕАБР.

То бок, беларусы пазбаўляюцца ад айчынных рублёў, пераводзячы іх у доларавыя банкаўскія ўклады. І гэта цалкам пацвярджаецца лічбамі: паводле таго ж дакумента, у верасні 2015 года прырост «паказчыка М3» у гадавым выражэнні склаў у Беларусі 40,7%.


Фота www.interfax.by

Пры гэтым, дэвальвацыя можа здарыцца зусім нечакана і «без дай прычыны», сцвярджае фінансавы аналітык Уладзімір Тарасаў у артыкуле на сайце belrynok.by. Усё ад таго, што нашая эканоміка напампаваная «замежнымі» доларамі.

Тарасаў звяртае ўвагу на цікавы факт: эксперты «Райфайзенбанка» выявілі, што ў Расію вяртаецца «ценявы капітал». У верасні ў банкаўскай сістэме Расіі адбыўся прыток валюты ў памеры $10 млрд 800 млн., у асноўным дзякуючы паступленню $9 млрд. на разліковыя рахункі карпаратыўных кліентаў. Прыток валюты, лічаць эксперты банка, тлумачыцца тым, што «геапалітычная абстаноўка падвысіла рызыкі захаванасці прыватнага капіталу расійскага паходжання ў замежнай юрысдыкцыі (зараз для некаторых бяспечней захоўваць валюту ў лакальных банках)».

Гэтая падзея, па меркаванні Тарасава, адбілася на валютным рынку Беларусі. Расійскія банкі не толькі імкнуцца прадаваць «лішнюю» валюту, але і размяшчаюць яе на дэпазітах у замежных банках, да ліку якіх адносяцца і беларускія. Гэтым і тлумачыцца дзіўная стабільнасць валютнага кошыка для беларускага рубля ў верасні-кастрычніку.

Праблема ў тым, што такі прыток валюты, калі ён меў месца, сказіў баланс паміж попытам і прапановай, утрымаўшы курс рубля ад зніжэння, якое павінна было адбыцца. Калі гэты капітал сыдзе з нашай краіны (а рана ці позна гэта адбудзецца), на курс беларускага рубля будзе аказаны дадатковы ціск, і ён абваліцца без якіх-небудзь бачных эканамічных прычын з боку беларускай эканомікі. Напрыклад, калі Цэнтрабанк Расіі адновіць куплю валюты на ўнутраным рынку, павыкупляе лішкі валюты, расійцы забяруць свае сродкі з Беларусі, пасля чаго курс беларускага рубля можа абваліцца.

Так што нацыянальная беларуская забаўка пад назвай «чаканне дэвальвацыі» працягваецца. Засталося толькі пачуць абавязковы для яе пачатку лозунг вышэйшых чыноўнікаў: «Дэвальвацыі не будзе!». Пасля гэтага можна бегчы ў абменнік.

# Структурныя рэформы? А якія?

Генадзь КЕСНЕР

**Усё часцей з вуснаў чыноўнікаў, набліжаных да першай асобы дзяржавы, гучаць выказванні пра неабходнасць структурных рэформаў у эканоміцы. Прынамсі, гэтую тэму рэгулярна закранае памочнік прэзідэнта, доктар эканамічных навук Кірыл Руды.**


Фота www.blender.my1.ru

Уартыкуле для «Белорусского экономического журнала» ён разважае пра новую эканамічную ідэю. «Для новага эканамічнага рыўка неабходная грамадская энергія, маральна-псіхалагічная матывацыя, натхненне, накіраванае не столькі на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, будаванне новага ў эканоміцы, — адзначае Руды. — Дзеля гэтага трэба зарадзіць найбольш крэатыўную частку грамадства (навукоўцаў, прадпрымальнікаў, дзяржаўны апарат) новай вялікай ідэяй, якая б з'яднала ўвесь соцыум. Такой ідэяй можа стаць, напрыклад, «калектыўны лібералізм», які мае на ўвазе не плюралізм рознанакіраваных думак і рухаў, а грамадскую засяроджанасць на вырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы».

І дадае цікавую і важную рэч: «Без палітычнай волі не будзе ні падтрымкі, ні даверу да рэформаў».

Ужо на міжнароднай канферэнцыі «Праблемы прагназавання і дзяржаўнага рэгулявання сацыяльна-эканамічнага развіцця» той жа Кірыл Руды заявіў, што структурныя рэформы маюць за мэту змяненне стратэгіі, але «гэта немагчыма ва ўмовах ручнога кіравання эканомікай».

Такія артыкулы і заявы памочніка кіраўніка дзяржавы — што гэта? Заяўка, што беларускі рэжым у цяперашніх варунках нарэшце ўцяміў тое, што адмаўляўся разумець дваццаць гадоў, маецца на ўвазе, правядзенне сапраўдных структурных рэформаў у эканоміцы (і не толькі)? Ці гэта проста чарговая шырма для знешніх назіральнікаў, каб атрымаць новыя крэдытныя ўліванні ў тое, што завецца беларускай эканомікай і сацыяльна-эканамічнай мадэллю?

На думку эксперта «Ліберальнага клуба» Антона Болтачкі, такія заявы Кірыла Рудага не маюць характар будучых рэформаў і не закладваюцца ў нейкую праграму перспектыўных зменаў у Беларусі. «Сёння мае месца бессістэмнасць, улада не мае дакладнага бачання таго, якая мадэль мусіць быць сфармаваная ў Беларусі пасля структурных рэформаў, — адзначае эканаміст. — Апроч таго, ва ўладзе сфармавалася некалькі груп, якія па-рознаму бачаць далейшае развіццё эканомікі і інструменты яе рэфармавання. І трэці момант: ёсць пэўнае неразуменне таго, як выглядае рынкавы механізм, дзеля якога і праводзяцца рэформы».

Антон Болтачка таксама, як і Кірыл Руды, звяртае ўвагу на важнасць палітычнай волі для правядзення рэформаў. «Сёння адсутнічае палітычная воля незалежна ад таго, якія рэформы патрэбныя Беларусі. Чыноўнікі будуць імкнуцца стварыць такую сістэму, якая не вельмі моцна будзе адрозніваецца ад той, што мы маем цяпер», — лічыць аналітык.

Эканаміст Леў Марголін адзначае: вельмі важна, хто і што разумее пад структурнымі рэформамі. «Мы разумеем пад структурнымі рэформамі, перад усім, змяненне формаў уласнасці на прадпрыемствы, і калі мяняецца форма ўласнасці, тады новая структура выбудоўваецца натуральным чынам. Калі ж не вядзецца гаворка пра прыватызацыю, пра прыцягненне сур'ёзных інвестараў, то структуру вызначае чыноўнік. І паколькі свае грошы ён сюды не ўкладае і імі не рызыкуе, то, адпаведна, ён нічога не губляе, нават калі ён і памыліцца. Вось, Руды вырашыў, што ў нас павінна быць такая структура эканомікі: умоўна кажучы, МАЗ альбо МТЗ закрыць, а вось прадпрыемства выраблае вагоны, і яго трэба павялічыць, пашырыць і гэтак далей. Наколькі гэта адпавядае рэальнай сітуацыі на рынку, ніхто сказаць не можа, таму што на гэтае пытанне можа адказаць толькі сам рынак», — падкрэслівае эксперт.

Чаму ж улада загаварыла пра структурныя рэформы, ад якіх адмахвалася два дзесяцігоддзі? Справа ў тым, працягвае Леў Марголін, што структура беларускай эканомікі не адпавядае сённяшнім патрабаванням. Зараз эканоміка мусіць быць эканомікай навукі, эканомікай ведаў, а ў нас яна застаецца па-ранейшаму «эканомікай металу». А гэта вымагае вялікіх выдаткаў. Такія вытворчасці, звяртае ўвагу эканаміст, вядучыя дзяржавы выводзяць у краіны, якія развіваюцца, краіны «другога» ці «трэцяга» свету, таму «на такім багажы выехаць нельга».

«Я не веру, што структура, якая вызначаецца зверху, з'яўляецца жыццяздольнай. Яшчэ хачу дадаць, што сама структурная рэформа ніяк не пагражае рэжыму персаналісцкай улады. Калісьці, годзе ў 2009-м, Лукашэнка запачаткаваў мадэрнізацыю малочнай галіны, потым дрэваапрацоўчай. Гэта ёсць не што іншае, як структурныя рэформы зверху, калі нехта вырашыў, што ў нас вось павінна быць дрэваапрацоўка, а хтосьці іншы вырашыў, што нас выцягне сельская гаспадарка, у прыватнасці, малочная галіна. Як бачым, ні тое, ні другое не надарылася», — канстатуе суразмоўца.

Калі рэформы пачынае праводзіць дзяржава такім чынам, што яна сама ў іх не ўдзельнічае, а прыцягвае інвестараў, тады яна нічым не рызыкуе, адзначае Леў Марголін. Інвестар знаходзіць рэсурсы, прыцягвае свае магчымасці, рынкі, тэхналогіі, свае кіраўніцкія рэцэпты. «Калі ж гэтым пачынае займацца дзяржава, то гэта чарговае раздзярбаньванне дзяржаўных сродкаў, бо, па-першае, спосаб вызначае чыноўнік, а па-другое, чыноўнік яшчэ думае, як бы яму не абысці міма сваёй кішэні. Таму пры існуючай у Беларусі сістэме ніякіх перспектываў у такіх рэформаў няма. Пакуль у нас не памяняецца структура ўлады, нічога не зменіцца. У нас Лукашэнка не бачыць для сябе іншага варыянта, пра што ён заяўляў і да выбараў, і пасля выбараў. Пра гэта сказаў і старшыня праўлення Нацыянальнай акадэміі навук: наша мадэль сябе апраўдала, яе трэба толькі ўдасканальваць. Так што рабіце высновы», — падсумаваў эканаміст.

# Дармаеды, прэкарыяты і заможныя швейцарцы

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Пакуль беларускія ўлады шукаюць, з каго б яшчэ стрэсці грошы, швейцарскія — плануюць падзяліцца з народам прыбыткам. А між тым на пачатку 1990-х была папулярная ідэя зрабіць з Беларусі «ўсходнееўрапейскую Швейцарыю». Потым, прыкладна праз дзесяціголдзе, гэтую ідэю ў апазіцыі перахапіла ўлада.**



Калаж «Новы Час»

Кіраўніцтву краіны вельмі падабаецца, калі прыезджыя знакамітасці перад тэлекамерамі называюць Беларусь «усходнееўрапейскай Швейцарыяй». Гучыць усё гэта настолькі прывабна, што абывацель і сам ужо гатовы паверыць, што жыве ў настолькі дабрадайным краі. Але што ж на самай справе?

### Швейцарыя: дзяржава дзеліцца прыбыткамі

Нядаўна ў Швейцарыі прайшоў збор подпісаў у падтрымку новага закона — пра так званы «безумоўны асноўны прыбытак» (БАП). І, калі меркаваць па настроях у грамадстве, закон гэты будзе хуткім часам прыняты. Сутнасць яго ў тым, што кожны дарослы грамадзянін Канфедэрацыі штомесяц, незалежна ад свайго матэрыяльнага становішча і занятасці, будзе атрымліваць нейкую гарантаваную суму. Зараз гаворка ідзе пра 2500 франкаў (прыкладна 2000 еўра).

Гэта не дапамога па беспрацоўі (той, хто працуе, таксама атрымае гэтыя грошы) і не сацыяльная дапамога (мільянеры будуць атрымліваць грошы нароўні з астатнімі). Гэта грошы, якія дзяржава выплачвае сваім грамадзянам, дзелячыся з імі сваімі прыбыткамі. І, што самае цікавае, швейцарцы ўпэўненыя, што гэтыя выплаты зусім не будуць стымуляваць бяздзейнасць, а, наадварот, апынуцца карыснымі для грамадства.

Па іх меркаванні, гарантаваныя мінімальныя выплаты не пазбавяць людзей жадання працаваць. Хутчэй, наадварот: матэрыяльная забяспечанасць дазволіць працаваць па-сучаснаму. Прадуктыўнасць працы вырасце, паколькі ўсе будуць займацца тым, што ім сапраўды па душы. Пры гэтым ніхто не будзе баяцца змяняць працу і эксперыментаваць. Аўтары законапраекта зыходзяць з таго, што большасць іх суграмадзян працуюць, паколькі бачаць у сваёй працы сэнс і адчуваюць яе ўхвалу грамадствам. Затое, з іншага боку, пры наяўнасці гарантаванага прыбытку кожны чалавек зможа больш часу прысвячаць выхаванню дзяцей і дагляду за хворымі сваякамі.

Для выплаты БАП у памеры 2500 франкаў для дарослых і 625 франкаў для дзяцей неабходныя 200 мільярдаў франкаў у год. Цяпер выдаткі дзяржавы на сацыяльныя выплаты складаюць 70 мільярдаў — і гэта без уліку выдаткаў на бюракратычны апарат, які вырашае, каму належыць сацыяльная дапамога, а каму — не. БАП зробіць бюракратыю ў гэтым пытанні непатрэбнай. Грошы будуць атрымліваць усе.

Ідэя ўвесці БАП імгненна знайшла сваіх прыхільнікаў — патрэбныя 100 тысяч подпісаў былі сабраныя хутчэй, чым за любую іншую ініцыятыву ў гісторыі краіны. 4 кастрычніка 126 тысяч завераных подпісаў былі перададзеныя ў федэральную канцылярыю. Цяпер ва ўрада ёсць максімум 5,5 гадоў, каб вынесці праект закона аб «безумоўным асноўным прыбытку» на рэферэндум. Але, відаць, галасаванне адбудзецца ўжо ў наступным годзе.

### Беларусь: дзяржава палюе на грамадзян

Апошнія прыкладна паўтара года ў Беларусі прайшлі пад сцягам гучнага змагання з дармаедамі. Наўрад ці гэта выклікана толькі жаданнем папоўніць бюджэт. Справа тут не ў грошах. Больш верагодна, што прэзідэнцкія аналітыкі з Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ) канстатавалі: у краіне хутка з'явіцца крытычная маса людзей, якія эканамічна не залежаць ад дзяржавы. І галоўнае — не жадаюць ад яе залежаць, разлічваюць на ўласныя сілы і ставяцца да чыноўнікаў з кепска прыхаванай пагардай.

У выніку як «дармаедаў» улада стала пазіцыянаваць людзей, якія на самай справе працуюць — проста працуюць на сябе і не гарацць жаданнем аддаваць дзяржаве ільвіную долю заробленага. Каб зразумець, хто стаў зараз «сацыяльнымі ворагамі», досыць паглядзець на паведамленне Міністэрства па падатках і зборах ад 16 студзеня гэтага года. Паводле яго, нелегальным рэпетытарам і цырульнікам (і не толькі ім, гэта толькі прыклад) давядзецца выплаціць адзіны падатак у пяцікратным памеры. Новаўвядзенне датычыць напрамкаў дзейнасці, што пералічаныя ў арт. 295 і 296 Падатковага кодэкса. Гэта значыць, сюды таксама патрапляюць, напрыклад, паслугі хатніх прыслужніц, салонаў прыгажосці, музычнае абслугоўванне і правядзенне ўрачыстых мерапрыемстваў (вяселляў, юбілеяў і г.д.), гадоўля і продаж кацянят і шчанюкоў і шмат што яшчэ.

По сутнасці, беларускія ўлады свядома знішчаюць тых, з каго мог бы сфармавацца сярэдні клас — аснова росквіту той жа Швейцарыі — і жадаюць замяніць яго новым сацыяльным класам, паняцце аб якім з'явілася ў палітычных навуках зусім нядаўна. Яго ў 2011 годзе ўвёў у абарачэнне брытанскі даследчык Гай Стэндынг. Гэты новы клас, народжаны капіталізмам ва ўмовах постіндустрыяльнай эканомікі, завецца «прэкарыяты». Гэта працаўнікі, якім становяцца недаступныя раней гарантаваныя працоўныя адносіны. І якія змушаныя існаваць коштам такіх відаў занятасці, як падрадная праца, працоўны кантракт на абмежаваны тэрмін, занятасць на няпоўны працоўны час пры малых або наогул адсутнічаючых сацыяльных гарантыях, самастойная праца, праца па выкліку і г. д. Сюды ж адносіцца так званая пазыковая праца (аўтстафінг, лізінг персанала) — калі камерцыйная фірма наймае ў свой штат працаўнікоў, часавых або сталых, выключна для выканання замоваў на паслугі гэтых працаўнікоў.

«Прэкарыяты» — гэта цэлы клас людзей, пазбаўленых большай часткі сацыяльных правоў. Гай Стэндынг піша пра гэта так: «Лічылася, акрамя ўсяго іншага, што варта падвысіць гнуткасць рынка працы, а гэта значыла перакласці цяжар рызык (паніжэння прыбыткаў, беспрацоўя) на плечы працаўнікоў і іх сем'яў, робячы іх яшчэ больш уразлівымі, у прыватнасці, перад крызісамі, перад беспрацоўем, магчымай непрацаздольнасцю, старасцю». Менавіта з-за такога падыходу, як лічыць Стэндынг, у Еўропе і паўстаў новы клас — «прэкарыяты», якому ўласцівыя тры характэрныя асаблівасці. Па-першае, адсутнасць гарантый занятасці. Па-другое, адсутнасць гарантый пенсій, дапамогі па беспрацоўі, медыцынскай страхоўкі. Па-трэцяе, звужэнне, а часта і адсутнасць грамадзянскіх, палітычных і эканамічных правоў.

**Ці разумеюць беларускія чыноўнікі, што менавіта яны цяпер робяць? Наўрад ці. Яны раслі і выхоўваліся на марксізме-ленінізме**

Але ці разумеюць беларускія чыноўнікі, што менавіта яны цяпер робяць? Наўрад ці. Гэтыя службоўцы раслі і выхоўваліся на дактрынах марксізму-ленінізму. Яны памятаюць, што сацыяльная структура краін класічнага капіталізму ўключае з аднаго боку — капіталістаў, з іншага — пралетарыят. А паміж імі малаважныя прамежкавыя пласты: дробная буржуазія, сялянства, духавенства, дзяржслужачыя і людзі вольных прафесій. Працоўны клас пры гэтым з'яўляецца большасцю.

Але такі расклад быў характэрны для канца XIX і першых двух трацін XX стагоддзяў. То бок для індустрыяльнага грамадства. Аднак для развітога свету ўжо даўно характэрная наступная стадыя развіцця — постіндустрыяльная. Але яе нашы ідэолагі не прызнаюць — бо ў іх падручніках аб ёй нічога не было сказана. Тым не менш, ужо і беларуская эканамічная, сацыяльная мадэль усё ў большай ступені становіцца постіндустрыяльнай. З усімі спадарожнымі праблемамі. Бо постіндустрыяльная эпоха тым і адрозніваецца ад індустрыяльнай, што ў ёй колькасць пралетарыяту рэзка падае, а яго грамадская роля — зніжаецца.

У дачыненні да Беларусі клас прэкарыятаў можа стаць адной з крыніцаў сацыяльнай нестабільнасці. Сёння дзяржава адкрыла на самазанятых людзей сезон палявання — іх фактычна пазбавілі шанцу атрымліваць пенсіі, іх выводзяць за межы прававога поля і пачынаюць даіць. Адбываецца вось што: людзей, якія рухаюцца ў бок фармавання сярэдняга класа, ператварэння сябе ў прадстаўнікоў тэгага самага сярэдняга класа, дзяржава — у тым ліку прэзідэнцкім дэкрэтам «Аб дармаедах» — «выціскае» зусім у іншы клас — у прэкарыяты.

У Беларусі, калі верыць кіраўніку дзяржавы, цяпер мінімум паўмільёна чалавек не плацяць падаткі. Але колькі сярод іх тых, якія насамрэч апусціліся на «дно», — асацыяльных элементаў? Думаю, меншасць. Большая ж частка — людзі, якія працуюць без падпісання працоўнай дамовы або наогул займаюцца самазабеспячэннем, выжываюць коштам агародаў. Калі яны працуюць, то яны бяспраўныя ў адносінах са сваімі працадаўцамі; калі не працуюць, то не атрымліваюць ніякай дапамогі і не маюць афіцыйнага працоўнага стажу, а значыць, пазбаўляюцца права на пенсію. Пакуль яны карыстаюцца паслугамі бясплатнай медыцыны, але пытанне аб праве гэтых людзей на медыцыну ўжо задаецца на вышэйшых узроўнях улады.

Што будзе далей? Калі цяперашняя палітыка працягнецца, прэкарыятамі стануць тыя самыя нелегальныя рэпетытары і цырульнікі, якіх гатова адлоўліваць наша Міністэрства па падатках і зборах. І ўжо згаданыя хатнія прыслужніцы, супрацоўніцы салонаў прыгажосці, вясельныя музыкі, заводчыкі кацянят і шчанюкоў... Журналісты-фрылансеры і праграмісты-адзіночкі, якія працуюць на замежных заказчыкаў. Шабашнікі, якія рамантуюць кватэры і будуюць катэджы. Нелегальныя таксісты, якія працуюць па начах на свой страх і рызыку. Ашмянскія цётачкі-кантрабандысткі, якія цягаюць у Вільнюс гарэлку і цыгарэты, а з Вільнюса — шырспажыў. Гэта, на самай справе, велізарная колькасць людзей, — нашмат больш, чым агучаныя 500 тысяч.

# На шляху ад пераследу да талерантнасці

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**«Няма ніякай талерантнасці. Ёсць злосць. Якая выліваецца ў такія трагедыі», — напісала ў Фэйсбуку Святлана, сяброўка Міхаіла Пішчэўскага, гея, жорстка збітага каля мінскай кавярні «Underworld». Міша памёр. А Дзмітрый Лукашэвіч, які яго знявечыў выйшаў па амністыі. Гэта трагедыя, а таксама стаўленне нашага грамадства да ЛГБТ-супольнасці сталі нагодай, каб узгадаць, што адбывалася ў савецкія часы.**



Фота doctor.t30p.ru

## Крымінальны артыкул

У крымінальных кодэксах саюзных рэспублік, прынятых у 1926 годзе, не было згадак пра «мужаложства» — гомасексуальнасць была дэкрыміналізаваная, пра што афіцыйныя асобы з СССР з гонарам за сваю «сацыялістычную радзіму» казалі за мяжой на сексалагічных кангрэсах. Але сталінскі рэжым усё змяніў.

13 снежня 1933 года намеснік старшыні Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) Генрых Ягода накіраваў сакратару ЦК УКП(б) Іосіфу Сталіну запіску, у якой прапаноўваў рэкрыміналізаваць «педэрастыю». На запісцы з'явілася ўхвальная рэзалюцыя Сталіна, і ўжо 16 снежня Палітбюро ЦК УКП(б) прыняло пастанову «Аб крымінальнай адказнасці за педэрастыю».

7 сакавіка 1934 года Прэзідыум ЦВК СССР прыняў пастанову «Аб крымінальнай адказнасці за мужаложства», у якой былі зменены ў параўнанні з першапачатковым праектам фармулёўкі і ўсталяваныя ніжнія межы пакарання. Пастанова была абавязковай для выканання цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі ўсіх саюзных рэспублік.

У Крымінальны кодэкс Беларускай ССР адпаведны артыкул 2351 быў уведзены 30 красавіка 1934 года. Пакаранне за мужаложства засталося і ў Крымінальным кодэксе Беларускай ССР, які ўступіў у дзеянне з 1 красавіка 1961 года, артыкул меў іншы нумар (119) і зменeную фармулёўку. Дзеянне гэтага артыкула было адмененае толькі з 1 траўня 1994 года пад ціскам міжнародных арганізацый, у якія незалежная Беларусь уступала.

Беларускія юрысты стараліся ніяк артыкул 119 КК БССР не каментаваць. Так, у беларускім падручніку па крымінальным праве для студэнтаў-юрыстаў тлумачэнне гэтага артыкула зводзілася да пераказу крымінальнага кодэкса сваімі словамі. Змест тэрміну «мужаложства» тлумачыўся праз сінонімы «гомасексуалізм», «педэрастыя», а таксама праз вызначэнне: «мужаложствам з'яўляюцца палавыя зносіны мужчыны з мужчынам». Нават лацінскага тэрміну coitus per anum аўтары падручніка пабаяліся (а можа, яго і не ведалі). Адпаведна, студэнты-юрысты ў БССР нават не вельмі выразна сабе ўяўлялі, што ж пераследавалася крымінальным кодэксам.

Праўда, у гэты самы час некаторыя расійскія юрысты не толькі разбіралі ў сваіх публікацыях сутнасць артыкула, але і выказваліся за скасаванне яго першай часткі, то бок дэкрыміналізацыю добраахвотных аднаполых стасункаў паміж поўнагадовымі мужчынамі.

Па-свойму «даследавалі» праблематыку спецыялісты ад судовай медыцыны. Так, супрацоўнік Бюро судова-медыцынскай экспертызы Масквы і Маскоўскай вобласці І. Блюмін. Ён распрацаваў даволі падрабязную інструкцыю па «экспертызе гомасексуалізму» і нават абараніў кандыдацкую дысертацыю, цалкам прысвечаную судмедэкспертызе «мужаложства». Дысертацыя насіла завуаляваную назву «Матэрыялы да экспертызы палавых станаў».

Блюмін абапіраўся на аўтараў другой паловы XIX стагоддзя (Амбруаза Тардзьё, Ёгана Каспера ды іншых) і выказваў шкадаванні, што з таго часу судовая экспертыза не займалася «мэтанакіраванымі даследаваннямі па дадзеным пытанні». Судова-медыцынскі эксперт прапускаў міма сваёй увагі, што ў большасці краін Еўропы на час абароны яго дысертацыі (1970 год) гомасексуальнасць была дэкрыміналізаваная.

## Сухія лічбы

Як вядома, у СССР большая частка статыстыкі была сакрэтнай. Гэта тычылася і крымінальнай статыстыкі. Апублікаваных дадзеных пра абсалютную колькасць пакараных за «мужаложства» няма, але цэнзура дазволіла агучыць, што ў 1961–1973 гадах судзімасць па артыкуле 119 у БССР складала ад 0,02% да 0,7% ад ліку асуджаных за злачынствы супраць асобы.

Каб знайсці дадзеныя ў абсалютных лічбах, я звярнуўся да статыстыкі Міністэрства юстыцыі БССР, якая захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Крымінальная статыстыка БССР рассакрэчаная толькі па 1960 год уключна. Даваенныя фонды Міністэрства юстыцыі захаваліся вельмі ўрыўкава, статыстыка даваеннага часу не захавалася. Звесткі пра колькасць асуджаных па розных артыкулах крымінальнага кодэкса можна атрымаць з запоўненых бланкаў формы №10. У гэтых бланках, якія выпрацоўваліся ў Маскве і былі аднолькавымі для ўсяго СССР, была асобная графа для артыкула 154а КК РСФСР («мужаложства») і адпаведных артыкулаў крымінальных кодэксаў іншых рэспублік.

**ТАБЛІЦА 2.** КОЛЬКАСЦЬ АСУДЖАНЫХ ПА АРТЫКУЛЕ 119 КК БССР, АРТЫКУЛЕ 121 КК РСФСР І АНАЛАГІЧНЫХ АРТЫКУЛАХ КРЫМІНАЛЬНЫХ КОДЭКСАЎ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК (1961–1972 ГАДЫ). ДАДЗЕНЫЯ ПА БССР ПУБЛІКУЮЦЦА ЎПЕРШЫНЮ

| Год | Колькасць асуджаных па СССР | Колькасць асуджаных па БССР |
|---|---|---|
| 1961 | 705 | 10 |
| 1962 | 767 | 1 |
| 1963 | 831 | 13 |
| 1964 | 777 | 4 |
| 1965 | 627 | 5 |
| 1966 | 770 | 3 |
| 1967 | 940 | 25 |
| 1968 | 756 | 20 |
| 1969 | 993 | 13 |
| 1970 | 1223 | 33 |
| 1971 | 1206 | 20 |
| 1972 | 1255 | 10 |

Статыстыка першых пасляваенных гадоў недакладная — часта клеркі з абласных аддзелаў юстыцыі блыталі нумары артыкулаў ці ўпісвалі колькасць асуджаных па адным артыкуле ў графу асуджэнняў па іншым.

Так ці інакш, але колькасць асуджаных у 1945–1960 гадах заставалася мізэрнай. Звяртае на сябе ўвагу, што ў некалькіх выпадках тэрмін зняволення асуджаных быў ніжэй за ніжні парог магчымага па артыкуле 2351 (тры гады).

У некалькіх выпадках артыкул 2351 быў прыменены да зняволеных. Можна меркаваць, што ён выкарыстоўваўся адміністрацыяй карных установаў, каб прынізіць непакорных зняволеных і пакінуць іх у месцах пазбаўлення волі на больш працяглы тэрмін.

Карыстаючыся спасылкамі англійскага даследчыка Дэна Хілі на фонды Дзяржаўнага архіву Расійскай Федэрацыі, атрымалася знайсці статыстыку наконт асуджаных па Беларускай ССР з 1961 года і пазней.

Як і ў цэлым па СССР, у БССР заўважны істотны рост колькасці асуджаных па артыкуле «мужаложства» ў хрушчоўскія і брэжнеўскія гады, з адзінак да дзясяткаў асуджаных у год.

Заўважна, што ў некаторыя гады праходзілі аблавы на гомасексуальных мужчын. Інакш цяжка патлумачыць, чаму ў 1966 годзе было асуджана толькі 3 чалавекі, а ў 1970 — 33. Падобнае бачна і ў статыстыцы па Эстоніі, апублікаванай Ціітам Вейспакам: 1967 год — 17 асуджаных, 1968 год — 1 асуджаны.

## Пытанне рэабілітацыі

Мне не вядома, каб нехта раней у Беларусі ставіў пытанне пра рэабілітацыю людзей, асуджаных па першай частцы артыкула «мужаложства» Крымінальнага кодэксу Беларускай ССР (стасункі па ўзаемнай згодзе паміж мужчынамі, якія дасягнулі 18 гадоў). Такая рэабілітацыя, з верагоднай далейшай выплатай кампенсацый былым асуджаным і іх сем'ям, неабходная. Пры цяперашнім палітычным рэжыме гэта можа здавацца фантастычным, але на выпадак яго змены неабходна мець распрацаваны падыход да праблемы.

Дарэчы, гэта тычыцца не толькі асуджаных за «мужаложства». У Беларусі ў асноўным былі рэабілітаваныя тыя, хто ў свой час патрапіў пад дзеянне палітычных артыкулаў крымінальнага кодэксу БССР (за так званыя «контррэвалюцыйныя злачынствы» ці «антысавецчына»). Але ў крымінальных кодэксах як 1926-га (са шматлікімі зменамі і дапаўненнямі), так і 1961 года было вельмі шмат юрыдычных нормаў, якія дазвалялі адвольна рэпрэсаваць практычна кожнага.

Напрыклад, у 1930–1931 гадах быў уведзены ў дзеянне артыкул КК БССР 941, які прадугледжваў адказнасць за «злоснае невыкананне пастаноў і правіл, якія забяспечваюць пасяўную калектывізацыю сельскай гаспадаркі, у тым ліку злосны забой і распродаж жывёлы». Артыкул 118а «уцёкі з месца абавязковага пасялення або з дарогі да яго, а таксама паяўленне ў мясцовасці, дзе жыць данай асобе забаронена» мог шырока выкарыстоўвацца супраць ссыльных «кулакоў» ці прадстаўнікоў «антысавецкі настроеных» этнічных груп, якія спрабавалі вярнуцца на радзіму.

І такіх артыкулаў былі дзясяткі. Можна было трапіць у зняволенне за спазненне на працу і сыход з фабрычна-заводскага навучання, невыпрацоўку абавязковага мінімуму працадзён у калгасе, здзяйсненне абортаў ды многае іншае.

Некаторыя артыкулы сталінскіх гадоў, зрэшты, захаваліся. Да такіх належыць, напрыклад, «выраб і распаўсюд парнаграфіі», па якім можна асудзіць любога прышчавага падлетка, што размясціў у сваім «ВКонтакте» спасылку на парнаролік. Дадамо, што ў сталінскія гады каралася таксама захаванне «парнаграфічных твораў», то бок тэрмін да пяці гадоў можна было атрымаць за томік Баркова ў хатняй бібліятэцы.

**ТАБЛІЦА 1.** КОЛЬКАСЦЬ АСУДЖАНЫХ ПА АРТЫКУЛЕ 2351 КК БССР (1945–1960 ГАДЫ). ДАДЗЕНЫЯ ПУБЛІКУЮЦЦА ЎПЕРШЫНЮ

| Год | Колькасць асуджаных |
|---|---|
| 1945 | 0 |
| 1946 | 1 |
| 1947 | 0 |
| 1948 | 2 |
| 1949 | 0 (1?)1 |
| 1950 | 0 |
| 1951 | 1 |
| 1952 | 2 |
| 1953 | 1 |
| 1954 | 0 |
| 1955 | 0 (1?) |
| 1956 | 4 |
| 1957 | 4 |
| 1958 | 6 |
| 1959 | 4 |
| 1960 | 0 |

Неабходна заняцца сур'ёзнымі даследаваннямі складу рэпрэсаваных паводле артыкулаў і ставіць пытанне пра паўторную масавую рэабілітацыю. Прычым гэтая рэабілітацыя, як, напрыклад, у выпадку з ахвярамі артыкула «мужаложства», не мусіць абмяжоўвацца толькі сталінскімі гадамі ці толькі гадамі СССР, бо дзеянне некаторых артыкулаў працягвалася і пазней.

***Аўтар выказвае падзяку Ірыне Ралдугінай (г. Масква), якая ўдзельнічала ў архіўных росшуках***



## 2 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**11.40** Меладрама «Я цябе кахаю..».
**13.35** Меладрама «Адзін на ўсіх».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.00** 90 секунд.
**15.50** Меладрама «Адзін на ўсіх».
**17.40** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.35** Навіны.
**23.55** Дзень спорту.
**00.05** Меладрама «Раскажы мне пра мяне».



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**18.55** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Хроніка Мінскага гета.
**23.15** Мастацкі фільм «Квінтэт».
**01.15** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.40** Званая вячэра.
**11.30** «24 гадзіны».
**11.35** Сямейныя драмы.
**12.30** Не хлусі мне!
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Ведай нашых!
**14.25** Такі лёс.
**15.10** Іншая краіна.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Вялікі горад.
**17.25** «Меншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**20.55** «СТБ спорт».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Даўнія палюбоўнікі».
**01.15** «Дакументальны праект».



**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў Украіна.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.40** Серыял «Сябры анёлаў».
**11.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**12.55** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**15.00** Камедыя «27 вяселляў».
**17.00** Перазагрузка.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.35** КЕНА.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.05** Рэпарцёр.
**23.50** Трылер «Прывіды».
**00.50** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».



**07.10** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Пачуцце». Ваенная драма (Італія, 1954 г.).
**10.10** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**11.05** «Наперад у мінулае».
**11.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.05** «Музеі Беларусі». Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі і рэлігіі.
**12.30** «Кліч Палесся». Дакументальны фільм.
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.10** «Да скарбаў авіякатастрофы». Прыгодніцкая драма (Аўстралія, Новая Зеландыя, ЗША, 1981 г.).
**15.00** «Справы фамільныя». «Добрушская папяровая фабрыка».
**15.25** «Стралец непрыкаяны». Трагікамедыя (Расія, 1993 г.).
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Доблесць зямлі беларускай». «І адзін у полі воін». Дакументальны фільм.
**17.25** «Дачка камандзіра». Ваенная кінааповесць (СССР, 1981 г.).
**18.30** «Доблесць зямлі беларускай». «Штурм «Мядзведжага валу». Дакументальны фільм.
**18.45** «Доблесць зямлі беларускай». «Спынены бліцкрыг». Дакументальны фільм.
**19.00** «Аленевае паляванне». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Першыя выпрабаванні». Кінараман. 1-я серыя (СССР, 1960 г.).
**23.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.25** «Першыя выпрабаванні». Кінараман. 2-я серыя (СССР, 1961 г.).
**00.50** «Я - часовы вандроўнік». Творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.
**01.20** «Калейдаскоп».
**01.35** «Геапалітыка: свет за тыдзень».



**07.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Саўтгэмптан - Борнмут.
**09.15** Авертайм.
**09.45** Гандбол. БГК ім. Мяшкова - Нексе.
**11.10** Баскетбол. НБА. Нью-Арлеан - Голдэн Стэйт.
**12.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Эвертан - Сандэрлэнд.
**14.55** Баскетбол. НБА. Бостан - Сан-Антоніа.
**16.25** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**18.30** Час футболу.
**19.15** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. КХЛ. Дынама (Мінск) - Дынама (Рыга).
**21.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.35** PRO спорт. Навіны.
**23.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Тотэнхэм - Астан Віла.
**00.55** Еўрапейскі покерны тур.



**07.00** ПраСвет.
**07.35** Зона «Свабоды».
**08.10** Людскія справы: Выбарчае выданне.
**08.45** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**09.15** Дзеці Гітлера, д/ф.
**10.15** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Крэва.
**10.30** Мова нанова: Грошы.
**10.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.20** ПраСвет.
**11.55** Зона «Свабоды».
**12.30** Невядомая Беларусь: Дзеці ксяндза Шаплевіча, д/ф.
**13.00** Горад роспачы, д/ф.
**13.55** Кінаклуб: «Дараванне крыві».
**14.05** Дараванне крыві, м/ф.
**15.55** Сведкі: 1988.
**16.10** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**16.55** Горад роспачы, д/ф.
**17.50** Мова нанова: Грошы.
**18.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Людскія справы.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Абʼектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**22.05** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Андрэй Лянкевіч.
**22.35** Кінаклуб: «Дараванне крыві».
**22.45** Дараванне крыві, м/ф.
**00.40** Студыя «Белсат».

## 3 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК



**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Каханне - не бульба».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.05** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Кат».
**23.00** Фільм «Кін-дза-дза».



**01.20** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Мэверык».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Меншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Тэрыторыя памылкі.
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**01.20** «Дакументальны праект».



**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**11.05** Зразумець і абяшкодзіць.
**12.05** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.55** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Пульс.
**18.15** Адзін дзень з жыцця.
**18.35** Усёзнайка.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**22.05** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**22.45** Футбол.



**07.10** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «На дне». Крымінальная драма (Вялікабрытанія, 1936 г.).
**09.40** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**10.35** «Першыя выпрабаванні». Гістарычны кінараман. 1-я серыя (СССР, 1960 г.).
**12.00** «Я - часовы вандроўнік». Творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.
**12.30** «Першыя выпрабаванні». Гістарычны кінараман. 2-я серыя (СССР, 1961 г.).
**14.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці дырыжора Юрыя Цырука.
**14.25** «Калейдаскоп».
**14.40** «Славянскі базар-2011». Юбілейны канцэрт арт-групы «Хор Турэцкага».
**16.10** «Тапёр». Драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1989 г.).
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.55** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 1-я серыя (СССР, 1977 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Полымя і попел першай сусветнай. Крэпасць Асавец. Рускія не здаюцца». Дакументальны фільм.
**21.25** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 2-я серыя (СССР, 1977 г.).
**22.40** «Дыя@блог». «Пра мову».
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці дырыжора Юрыя Цырука.
**23.35** «Калейдаскоп».



**07.35** PRO спорт. Вынікі.
**08.05** Хакей. КХЛ. Дынама (Мінск) - Дынама (Рыга).
**10.00** Тэніс Турнір ВТА. Жухай.
**12.05** Сэлфі.
**12.20** Час футболу.
**13.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**14.00** Тэніс Турнір ВТА. Жухай.
**18.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Астана - Атлетыка.
**19.55** Спорт -кадр.
**20.25** Хакей. Ліга чэмпіёнаў Спарта - Кярпят.
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**00.50** PRO спорт. Навіны.
**22.45** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**01.00** Еўрапейскі покерны тур.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Людскія справы.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.35** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**11.05** Ціхі хаос, м/ф.
**13.00** Студыя «Белсат».
**13.30** Людскія справы.
**14.00** Студыя «Белсат».
**16.15** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.40** Ратаўнікі, серыял.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Абʼектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнаморцава: Чаму і праз 20 гадоў пасля аднаўлення незалежнасці ў Беларусі не асуджаны камунізм?
**22.15** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж.
**22.35** Горад роспачы, д/ф.
**23.30** Дзеці Гітлера, д/ф.
**00.25** Студыя «Белсат».



## 4 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Каханне - не бульба».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Дэтэктыў «Карчма на Пятніцкай».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Справа была ў Пянькове».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Фільм «Паласаты рэйс».



**14.40** КВЗ.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** КВЗ.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Кат».
**23.00** Камедыя «Аслепленыя жаданнямі».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**08.30** «Квартэт».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Выключэнне з правілаў».
**22.00** Глядзець усім!
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**01.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».



**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**11.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**12.10** Дэтэктыў «Марыя Верн: Зніклы хлопчык».
**13.50** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.50** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.25** Тэлебарометр.
**22.10** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.45** Футбол.



**07.10** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1977 г.).
**10.45** «Балканская пастка. Таямніца Сараеўскага замаху». Дакументальны фільм.
**11.35** «Трактарысты». Меладрама (СССР, 1939 г.).



**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Юрыя Палякова.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Размаўляем па-беларуску».
**13.45** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. Урачыстае адкрыццё.
**15.20** «На дне». Крымінальная драма (Вялікабрытанія, 1936 г.).
**16.50** «Без эпітафіі». Жыццёвы творчы шлях Цішкі Гартнага.
**17.40** «Збянтэжаны Саўка». Кароткаметражны фільм.
**18.15** «Полымя і попел першай сусветнай. Крэпасць Асавец. Рускія не здаюцца». Дакументальны фільм.
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.55** «Размаўляем па-беларуску».
**19.00** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 3-я серыя (СССР, 1977 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Балканская пастка. Таямніца Сараеўскага замаху». Дакументальны фільм.
**21.45** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 4-я серыя (СССР, 1977 г.).
**23.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Юрыя Палякова.
**00.05** «Калейдаскоп».



**07.25** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Козел пра футбол.
**07.55** Баскетбол. НБА. Маямі - Атланта.
**09.30** Спорт-кадр.
**10.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**16.05** Козел пра футбол.
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Манчэстар Юнайтэд - ЦСКА.
**19.30** PRO спорт. Навіны.
**19.40** Баскетбол. НБА. Маямі - Атланта.
**21.20** Формула-Е. Гран-пры Кітая.
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**00.50** PRO спорт. Навіны.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**07.50** Студыя «Белсат».
**10.05** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнаморцава.
**10.35** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж.
**10.55** Горад роспачы, д/ф.
**11.50** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.35** Мова нанова: Грошы.
**12.55** Студыя «Белсат».
**13.25** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.55** Студыя «Белсат».
**16.05** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнаморцава.
**16.40** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж.
**17.00** Горад роспачы, д/ф.
**17.55** Зоры не спяць.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Крэўская унія.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Абэктыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.25** Людскія справы.
**23.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.35** Парадокс, серыял.
**00.20** Студыя «Белсат».

## 5 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Вострасюжэтная драма «Зоя» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.40** Вострасюжэтная драма «Зоя» (Расія).



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Неслужбовы раман.
**10.05** Камедыя «Службовы раман».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Трэба разабрацца.
**21.30** Шматсерыйны фільм «Кат».
**23.25** Мастацкі фільм «Вялікі год».
**01.10** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Выключэнне з правілаў».
**10.05** Сардэчна паскардзіцца.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Культурная сталіца». Брэст.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Абсалютная ўлада».
**22.05** Глядзець усім!
**22.10** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**01.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».



**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.20** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**12.20** Дэтэктыў «Марыя Верн: Цені з мінулага».
**13.55** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.55** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.00** Панаехалі.
**01.00** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».



**07.10** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 3-я і 4-я серыі (СССР, 1977 г.).
**10.50** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм першы «Сябры-ворагі». Дакументальны фільм.
**11.35** «Палкоўніку ніхто не піша...» Драма (Іспанія, Мексіка, Францыя, 1999 г.).
**13.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі Беларусі Аляксандры Ніклаевай.
**13.55** «Калейдаскоп».
**14.10** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. Канцэрт Аляксандра Іванова і групы «Рондо».
**15.30** «Ажаніцца - не журыцца». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.
**17.25** «Сіла веры».
**17.55** «Іммануіл Кант. Філасофская сцежка». Дакументальны фільм.
**18.45** «Калейдаскоп».
**19.00** «Размаўляем па-беларуску».
**19.05** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 5-я серыя (СССР, 1977 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм першы «Сябры-ворагі». Дакументальны фільм.
**21.45** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 6-я серыя (СССР, 1977 г.).
**23.00** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі Беларусі Аляксандры Ніклаевай.
**23.55** «Калейдаскоп».



**06.20** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Баскетбол. НБА. Голдэн Стэйт - Кліпэрз.
**08.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**09.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Барселона - БАТЭ.
**11.35** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**13.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**14.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**17.50** Формула-Е. Гран-пры Кітая.
**18.50** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Бешыкташ - Лакаматыў.
**20.55** Час футболу.
**21.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама - Вільярэал.
**23.25** PRO спорт. Навіны.
**23.40** Баскетбол. НБА. Голдэн Стэйт - Кліпэрз.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Крэўская унія.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.55** Парадокс, серыял.
**11.40** Людскія справы.
**12.15** Студыя «Белсат».
**12.45** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Крэўская унія.
**13.15** Студыя «Белсат».
**15.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.50** 54 % (публіцыстычная праграма).
**16.15** Парадокс, серыял.
**17.00** Невядомая Беларусь: Дзеці ксяндза Шаплевіча, д/ф.
**17.30** Людскія справы.
**18.05** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнаморцава.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Абэктыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.35** Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду, д/ф.
**23.35** Студыя «Белсат».

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (110)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# Страсці па Нобелю

**У гэтым годзе літаратурны Нобель для многіх выдаўся нечаканым, лаўрэатам стала беларуская пісьменніца Святлана Аляксеевіч. І, Божа мой, што тут пачалося і ў інтэрнэце, і ў эфіры, і проста ў атмасферы вакольнага жыцця! Дасталося ўсім, пачынаючы з Лаўрэата і Нобелеўскага камітэта, заканчваючы Пуціным, Лукашэнкам і Абамам!**

Э, не, «нешта тут не так», падумалася мне, толькі словамі з Талькова, з чаго гэта такі віск, як пры стрыжцы свіней? Адразу абмоўлюся: сябе да заўзятых прыхільнікаў творчасці Святланы Аляксандраўны не адношу, хоць усе яе шматпакутныя рэчы чытаў і ніколі не быў да іх абыякавым, як нельга быць абыякавым да болю нашага стагоддзя.

Нобелеўская прэмія для Беларусі — гэта, безумоўна, знакавая падзея ва ўсёй яе жывой гісторыі. Рызыкну выказаць здагадку: нават крутцей палёту нашага чаргова земляка на суседскай ракеце ў космас. Можна, вядома, шкадаваць, што ўганараваны гэтай прэміяй не быў мой любімы пісьменнік, геній сусветнай прозы — Васіль Быкаў, але гэта мне не перашкаджае радавацца за Святлану Алексіевіч і высокую ацэнку яе працы.

Пяць невялікіх кніжак, пяць зрэзаў болю і вельмі нязручнай праўды. Асаблівасць творчасці пісьменніцы — гаварыць з чытачамі словамі і пачуццямі сваіх непрыдуманых герояў. Гэта талент фатаграфіі, споведзі, якая прымушае нас «спыніцца і азірнуцца». Азірнуцца, перш за ўсё, на самога сябе, сваё жыццё, свае справы і ўчынкі. Азірнуцца і, часам, жахнуцца ад сваёй слепаты, свайго жыцця «ў хлусні».

Перачытваючы кнігі Нобелеўскага лаўрэата, злавіў сябе на думцы, што ў яе прозе практычна няма аўтара, там відавочная толькі праўда і боль гэтай праўды. Кожны радок, кожная старонка яе кніг крычаць: «Глядзі, глядзі, глядзі! Усё гэта з намі зрабіла жыццё, рэчаіснасць, улада!» Спадарыня Святлана ў свой час убачыла і напісала пра тое, што не хацелі і не рэкамендавалі бачыць, але ж гэта было! Так, былі і «Цынкавыя хлопчыкі» Святланы Алексіевіч, была і «Навальніца над Гіндукушам» Мікалая Іванова; і тое, і другое было праўдай пра вайну ў Афганістане, як былі і «Гарачы снег» Юрыя Бондарава, і «Дажыць да світання» Васіля Быкава, і гэтыя кнігі таксама былі праўдай пра Вялікую вайну.



Наогул, праўда салдата заўсёды адрозніваецца ад праўды афіцэра, а ўжо тым больш генерала. І гэтыя праўды ніколі не супадаюць. Ды і каму яна патрэбная — салдацкая праўда? Ці шмат вы чыталі мемуараў салдат, якія служылі пад камандаваннем праслаўленых маршалаў? Слава маршала прырастае перамогамі, а перамогі куюцца салдацкай крывёй, так што з салдацкага боку жывых мемуарыстаў тых бітваў амаль не застаецца. Вось праўду «цынкавых хлопчыкаў» і прынесла нам Алексіевіч, і Афган загаварыў зусім іншымі галасамі, галасамі пратэсту і болю. Несвоечасова загаварылі і ахвяры Чарнобыля. Ды і ўсе кнігі цяперашняга лаўрэата «несвоечасовыя», з пункту гледжання ўладнага кабінета, адсюль і ўвесь цяперашні гала́с. Ды нязручны пісьменнік Алексіевіч — і ў творчасці, і ў сваіх выказваннях. З апошнімі можна спрачацца, не згаджацца, але не гарлаць, як на вінаватага падначаленага. У пісьменніка, як і ў любога чалавека, ёсць права на свае погляды і прыхільнасці.

Нязручнай стала і нядаўна выдадзеная кніга «Час second-hand». «Секонд хэнд» у нашым разуменні — рэчы, якія былі ў выкарыстанні, але яшчэ цалкам прыдатныя для далейшага нашэння. Страшная па сваёй пранікнёнасці кніга, актуальная не толькі для Беларусі, Расіі, Украіны, але і для ўсіх, хто некалі жыў пад лапікавай коўдрай Савецкага Саюза і сацыялістычнага лагера. Дарэмна мы думаем, што мазгі нядаўніх братоў па Варшаўскай дамове нашмат адрозніваюцца ад мазгоў нашых суайчыннікаў, што жылі і нарадзіліся пасля Вялікай вайны. Вось аўтар і прадставіла нам велізарнае люстэрка крывых і скалечаных душаў і лёсаў, калектыўны партрэт спадчыннікаў «чырвонай эпохі». Не проста прадставіла, перасцерагла: у былых стэрэатыпах працягваюць жыць старыя дэманы крывавых памылак.

Многія ўжо паспяшаліся, па звычцы, прыбіць Алексіевіч да ганебнага слупа — за чарговы паклёп на нашую «зіхоткую рэчаіснасць». І тут — на́ табе: Нобелеўскі камітэт усю абедню сапсаваў! І правільна, на мой погляд, зрабіў!

Усім і задаволеным, і незадаволеным прапаную перачытаць кнігі новага лаўрэата самай прэстыжнай прэміі планеты Зямля і парадавацца за беларускую ды і ўсю славянскую літаратуру, а беларускаму міністэрству адукацыі вярнуць у школьныя праграмы не толькі Нобелеўскага лаўрэата Святлану Алексіевіч, але і многіх іншых айчынных аўтараў.

**Валерый Казакоў**

# «Шпіёнскі» раман Алеся Пашкевіча — гісторыя працягваецца

**Аповесць «Рух» Алеся Пашкевіча, якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор», — працяг яго штудый у гістарычным кірунку.**

Аўтар ад самага першага рамана быў скіраваны на дакументальны пачатак, сплецены з вымыслам. Перад напісаннем «Пляцу волі», гэта адчуваецца, быў прапрацаваны немалы масіў матэрыялаў па Слуцкім збройным чыне. Тое самае можна казаць і пра кнігу «Круг», якая і на сённяшні дзень з'яўляецца найлепшай біяграфіяй Уладзіміра Дубоўкі.




Вядома, адмыслоўцы могуць пазнаць сякія-такія ўрыўкі з лістоў, мемуараў, ненавязліва працытаваных у кнізе пра Дубоўку. Аднак большыня чытачоў доступу да спецыфічнай інфармацыі не мае, таму дакументальная аснова не супярэчыць прыдуманай. Немалую дасведчанасць у часах XV–XVI стагоддзяў паказвае аўтар і ў рамане-прыпавесці «Сімъ победиши», аднак гэты твор, з прычыны «паралельнасці» кампазіцыі, вылучаецца з астатніх празаічных кніг Пашкевіча і таму сярод белетрызаванай дакументалістыкі разглядацца не мае права.

У новай аповесці аўтар крыху адыходзіць ад традыцыі кніг выключна на беларускую тэматыку. Па сутнасці, «Рух» — добры прыклад жанравай літаратуры, якая ўлічвае сваю мэтавую аўдыторыю. Няспешнае разгортванне і закручванне сюжэту з розных бакоў, праз мала звязаныя між сабой лініі, нагадвае пры чытанні шпіёнскі раман. Асабліва цешыць згаданая вышэй разведзенасць частак: на жаль, у сучаснай прозе агульным месцам становіцца імкненне стрэліць з усіх стрэльбаў на сцяне, у выніку чаго ад шуму і пылу чытачу бывае няма куды схавацца.

Кажучы, што аўтар не канцэнтруецца на нацыянальнай гісторыі, як гэта было з раманам-дакументам «Пляц волі» і раманам-біяграфіяй «Круг», нельга забываць: гісторыю з выкраданнем рухавіка Рудольфа Дызеля, вакол якое ў кнізе ўсё і адбываецца, наагул цяжкавата абгарнуць у беларускія дэкарацыі без страты праўдападобнасці. Але персанаж-беларус у гісторыі «Руху» ёсць, і трэба сказаць, што для ягонай рэалістычнасці зроблена ўсё неабходнае. Бо Дызель у Парыжы напрыканцы XIX стагоддзя сапраўды можа сутыкнуцца з нашчадкам паўстанцаў 1863 года... «Туга па Радзіме» і класічная насталгія ва ўмовах эміграцыі цалкам верагодна, што можа перадавацца сынам і дочкам.

Вывучаючы хранатоп далей і пераходзячы з прасторавай верагоднасці ў часавую, таксама варта адзначыць удалую звязанасць задумы з пярэдаднем Першай сусветнай вайны, стагоддзе з пачатку якой летась шырока прагучала і ў прэсе і ў кніжных выданнях, у тым ліку нон-фікшн. Шпіёнская канва, вайна ўзбраенняў паўстае цалкам прыстойнай версіяй загадкавага знікнення Рудольфа Дызеля, якое даўно абрасло легендамі і міфамі: магчыма, здзейсніў самагубства, ці быў забіты, і, калі забіты, то кім і з якімі матывамі? Алесь Пашкевіч прапаноўвае сваё вырашэнне гістарычнай загадкі, увёўшы ў тэкст і матыў кахання беларускага эмігранта да азербайджанскай «нафтавай прынцэсы», і парадак ў вайсковых і марскіх ведамствах Расійскай імперыі.

Галоўным жа рухавіком «Руху» з'яўляецца сама гісторыя, якая сплятае ў адно ўсе лёсы і падзеі, усе сюжэтныя лініі: ніхто з герояў не ведае, што адбудзецца далей. Канцоўка адкрытая, і толькі чытач разумее працяг.

**Ціхан Чарнякевіч, lit-bel.org**



# Пасяджэнне Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

**Рада абмеркавала бягучыя пытанні, а таксама прыняла ў сябры арганізацыі Яўгена Бяласіна, Юрыя Несцярэнку і Віктара Сямашку.**

Старшыня СБП Барыс Пятровіч распавёў пра нядаўняе ўзнагароджанне арганізацыі прэміяй «Heroes of copyright 2015», пра ход працы з новым наборам у Школу маладога пісьменніка пры СБП, пра вынікі конкурсу паэзіі і перакладу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна і нядаўнюю цырымонію ўзнагароджання фіналістаў і пераможцаў.

Старшыні абласных аддзяленняў СБП абмеркавалі працу над рэгіянальнымі літаратурнымі альманахамі, якія рыхтуюцца да друку.



# Школа маладога пісьменніка 2015–2016

**3 кастрычніка ў Школе маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў, прайшлі ўводныя заняткі. Навучэнцы пазнаёміліся, паразмаўлялі, паслухалі лекцыі, выканалі практыкаванні, атрымалі першыя заданні.**

На выкладчыцкую вахту 2015-2016 заступілі літаратуразнаўца Ганна Бутырчык, празаікі Людміла Рублеўская і Наталля Паваляева. Чацвёртую пару — майстар-клас — правёў пісьменнік Барыс Пятровіч.

**Прэс-служба СБП**

## ЛІСТАПАДАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Аляксандр Андрэевіч Баршчэўскі (Алесь Барскі) (нар. 2.11.1930)
Людміла Васільеўна Малеціна (нар. 4.11.1955)
Галіна Казіміраўна Тычка (нар. 11.11.1955)
Аксана Аляксееўна Данільчык (нар. 15.11.1970)
Рыгор Канстанцінавіч Ігнаценка (нар. 20.11.1930)
Аляксандр Касьянавіч Корнеў (нар. 30.11.1935)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



# Беларускі Нобель Святланы Алексіевіч

**8 кастрычніка ў Стакгольме было абвешчана імя сёлетняга лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Пісьменніца Святлана Алексіевіч стала першай у гісторыі Беларусі лаўрэаткай найвышэйшай літаратурнай узнагароды свету.**



Жана Ліцвіна, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч і амбасадар Швецыі ў Беларусі Марцін Оберг віншуюць Святлану Алексіевіч з атрыманнем Нобеля па літаратуры

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску, Святлана Аляксандраўна адказала на шматлікія пытанні журналістаў і чытачоў.

### З падзякай да настаўнікаў Алеся Адамовіча і Васіля Быкава

— Калі дазналася пра атрыманне прэміі, ведаеце, я падумала не пра сябе. Адзін з нямецкіх тэатраў ставіць у Франкфурце спектакль па кнізе «У вайны не жаночае аблічча» і хацеў запрасіць на прэм'еру кагосьці з герань твора. З пяцідзесяці нумароў, якія я абтэлефанавала, — нікога ўжо няма ў жывых. Раней падобны досвед быў з героямі Чарнобыля. Першае падумалася: шкада, што гэтыя людзі не даведаюцца. Падумалася, што гэта ўзнагарода не толькі мая — гэта ўзнагарода нашай культуры, нашай краіны, якая цягам сваёй гісторыі ўвесь час перамолваецца ў жорнах. Вялікія цені пісьменнікаў-набелістаў — Буніна, Пастэрнака — ажылі для мяне. У час шматгадовай літаратурнай працы прыходзіць стома і расчараванне, а тут з'явілася радасць і разуменне, што планку немагчыма будзе панізіць. Хочацца, каб беларусы адчувалі гонар за саміх сябе і сваю краіну, — прызналася Святлана Алексіевіч.

— Першыя, каму хацелася б падзякаваць — маім настаўнікам Адамовічу і Быкаву. Быкаву за тое, што ён быў узорам чалавечай стойкасці. Адамовічу, які быў чалавекам еўрапейскага маштабу, за тое, што ён, як ставяць голас спеваку, так паставіў мне «машыну мыслення».

Таксама дзякую маім героям, маім выдаўцам па ўсім свеце, людзям, якія прымушалі мяне задумацца і дарылі мне нейкую здагадку пра чалавека. Усе мы складаемся з настаўнікаў, усе мы стаім на плячах роду, усім патрэбныя людзі, якія могуць задаць дарэчныя пытанні.

### Пра мову і нацыянальную ідэнтычнасць

— Я пішу пра чалавека і ўтопію — 70 гадоў утопіі і пасля 20 гадоў, як мы выходзім з яе, — якая гаварыла на рускай мове. Мае героі вельмі розныя — беларусы, рускія, украінцы, цыгане — і ўсе яны размаўлялі па-руску.

Я пачуваюся чалавекам беларускага свету, беларускай стыхіі, у той жа час чалавекам рускай культуры, а таксама і чалавекам-касмапалітам. Апошняе якраз мне ўдалося зразумець пасля Чарнобылю, падчас напісання кнігі «Чарнобыльская малітва». Знаходзячыся ў радыяцыйнай зоне, не адчуваеш канкрэтную нацыянальнасць, а хутчэй бачыш роўнасць усяго жывога ў адным агульным свеце — чалавека, жывёлы, расліны. Усё гэта разам — ува мне.

### Пра супраціўленне сістэме

— Ніхто не любіць праўду, але я заўсёды гавару тое, што думаю, таму, верагодна, у прэсе пішуць шмат спрэчнага пра маё стаўленне як да расіян, так і да беларусаў.

Насамрэч я люблю і рускі народ, і беларускі. Мае сваякі па бацькоўскай лініі — беларусы, у чацвёртым пакаленні я вясковы настаўнік, мой прадзед вучыўся з Якубам Коласам, і гэта мая радзіма, мая зямля. У той жа час, мае бабуля і маці — украінкі, і калі я нядаўна была на Майдане і бачыла фотаздымкі маладой Нябеснай Сотні, то плакала — бо гэта таксама мая зямля.

У наш час складана быць праўдзівым чалавекам. Важна не паддавацца на згодніцтва, на якое заўсёды разлічвае таталітарная ўлада. У гэтым плане паказальная кніга «Сумленне нацыстаў» пра тое, як нацызм прыходзіў у жыццё звычайных немцаў у 1920-я гады. Спачатку агітацыя не працавала, але ідэалагічная машына магутна набірала хуткасць, націскаючы на кнопкі найпрацэсійных чалавечых інстынктаў, і за 10 гадоў нацысты зрабілі зусім іншы народ.

Чалавекам заставацца заўжды страшна і складана, нават тады, калі няма масавых палітычных рэпрэсій, як у 1930-я, аднак жа і ў наш час саджаюць і ў Беларусі, і ў Расіі. Але варта рамец мужнасць, каб супраціўляцца сістэме і таму, што могуць гаварыць у СМІ.

### Пра творчыя задумы

— У цяперашні час працую над дзвюма кнігамі, якія закранаюць метафізічную тэматыку. Хаця і жывем мы так, як у паказцы: пачынаецца ўсё добра, а заканчваецца аўтаматам Калашнікава — але саспела новае пакаленне, іншыя людзі, якія хочуць быць шчаслівымі, умеюць радавацца жыццю, вандруюць па свеце. Таму першая з кніг, над якімі я працую — пра каханне (мужчыны і жанчыны распавядаюць гісторыі кахання). Другая з іх — пра старасць, знікненне, канец жыцця, канцэпт памірання і смерці. І калі да другога твора, напрыклад, руская чытацкая публіка гатовая, то да першага — да жадання і ўмення быць шчаслівымі — не.

### Пра маральных аўтарытэтаў

— Нашыя магікане — прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі — памерлі няўчасна, на жаль. Як нам не хапае Адамовіча, Быкава, іх слова, іх разумення, іх узроўню! Некаторыя рэчы не былі б дазволеныя, не сталіся б магчымымі, калі б яны былі цяпер з намі. Мы не можам сабе дазволіць такую творчую адвольнасць, як, напрыклад, мае сябры, нямецкія пісьменнікі, якія едуць за горад і пішуць, займаюцца літаратурнай гульнёй, эстэтыкай. Мы маем недасканалае грамадства, недасканалы час, і хаця я зусім не барыкадны чалавек, але час цягне на барыкады, бо сорамна за тое, што адбываецца.

### Пра «рускі свет» і «чырвонага чалавека»

— Мне імпануе добры гуманітарны рускі свет, перад якім схіляецца сусветная грамадскасць — класічная руская літаратура, музыка, балет, — і абсалютна не блізкі рускі свет Берыі, Сталіна, Пуціна.

Канцэпт «чырвонага чалавека», якога я даследую ўжо шмат гадоў — гэта фундамент постсавецкага сучаснага грамадства, гэта тое, што актуальна і цяпер, тое, адкуль мы выйшлі. У гэтым сэнсе паказальная сітуацыя ў Расіі, калі 86% насельніцтва радуюцца развязанай ва Украіне вайне, падтрымліваюць тое, што адбываецца на Данбасе.

Савецкі час мы пакуль да канца не асэнсавалі. Яшчэ сто салжаніцыных маглі б апісваць і даследаваць яго. Болей за 70 гадоў, мільёны загінулых. Ідэя, якая пачыналася з жадання пабудаваць Горад Сонца, а закончылася вялікай крывёй, патрабуе глыбокага аналізу. Тое, што мне ўдалося зразумець, у сваім цыкле з пяці кніг пра чырвонага чалавека я выказала. Магчыма, настаў час выказацца камусьці яшчэ.

**Фота: Ціхан Чарнякевіч, тэкст: Віка Трэнас, lit-bel.org**

# Наталля Русецкая: «Паэзія — гэта светаадчуванне»

Наталля РУСЕЦКАЯ

**Нядаўна беларуская паэтка з Любліна Наталля Русецкая прэзентавала ў Менску і Горадні сваю новую кнігу вершаў «Каштаны ў кішэнях», якая пабачыла свет у «Бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў».**



Наталля Русецкая, паэтка, перакладчыца, даследчыца шматмоўнай даўняй беларускай літаратуры. Перакала на беларускую мову шэраг твораў Ф. У. Радзівіл, С. І. Віткацыя, В. Гамбровіча, В. Шымборскай, К. І. Галчыньскага і інш. Вершы і пераклады друкаваліся ў Беларусі і Польшчы, у тым ліку неаднаразова і ў часопісе «Дзеяслоў».

Мы пагутарылі з ёй пра пераклады, выкладанне і, вядома ж, пра творчасць.

***Анатоль Івашчанка:*** ***Вось ты, можна сказаць, прафесійны перакладчык... Можна сказаць? На сцэне Купалаўскага была пастаўлена «Івона, прынцэса Бургундская» В. Гамбровіча (рэжысёр А. Гарцуеў), сёння ідзе «Местачковае Кабарэ» (рэжысёр М. Пінігін), у якім выкарыстаны твае пераклады тэкстаў М. Хэмара, а таксама спектакль «Тэатр Уршулі Радзівіл» (рэжысёр М. Пінігін) зроблены паводле тваіх перакладаў. Да таго ж ты добра абазнаная ў сучасным еўрапейскім літаратурным працэсе. Як ацэньваеш сучасны стан беларускіх перакладаў — іх якасць і колькасць, наколькі яны поўна адлюстроўваюць тое, што сёння адбываецца ў еўрапейскай літаратуры?***

*Наталля Русецкая:* Па-першае, я перакладчык-аматар і перакладаю тое, што на душу ляжа. Найбольш люблю перакладаць паэзію: польскую і апошнім часам украінскую. Па-другое, амаль не чытаю чужых перакладаў, асабліва з польскай на беларускую. Таму што любы перакладчык, калі чытае пераклады іншага, адразу думае: я зрабіў бы лепш! (Смяецца). І гэта натуральна. Па-трэцяе, я не надта абазнаная ў еўрапейскім літпрацэсе. А па-чацвертае — незалежна ад усяго сказанага — лічу, што кожны пераклад на беларускую мову — гэта свята! Іх нам трэба як мага больш. Перакладаў шмат не бывае. А па-пятае — у мяне заўсёды ў шуфлядзе некалькі перакладаў, зробленых, пачатых і тых, пра якія марыцца. І шкада, што яны ў шуфлядзе, бо ў галіне перакладаў мы адсталі гадоў на сто. І нельга спачатку класіку перакласці, а потым сучаснае — трэба ўсё і адразу. Ясна, што гэта нерэальна, таму хто што можа — няхай робіць!

***А.І: Добра. Тады давай размаўляць больш прадметна. Вось пані Малгажата Бухалік — яна, як мне вядома, вельмі добра пераклала Караткевіча і Наталку Бабіну, Бабкова, на польскую (ён нават ледзь не атрымаў прэстыжную прэмію, быў другім пасля заслужонага і старэйшага польскага калегі). Ці перакладае хтосьці на беларускую гэтак жа якасна палякаў? І каго, на тваю думку, варта было б перакласці перадусім, каб запоўніць прабелы ў нашых культурніцкіх зносінах?***

*Н.Р.:* Адным вокам я, канечне, сачу за тым, што перакладаецца. І так, як казала, радуюся кожнаму новаму перакладу. Шчыра, палякаў у нас ёсць каму перакладаць. Бабінай, дарэчы, таксама ледзь не далі Ангелуса, але ў той год перамагла кніга Святланы Алексіевіч у перакладзе Ежы Чэха. Гэта вельмі прэстыжная літаратурная прэмія, лаўрэатамі ў розныя гады былі Юры Андруховіч, Міленка Ёргавіч, Аксана Забужка. Узнагароду атрымлівае і аўтар і перакладчык, што вельмі істотна — праца перакладчыка тут заўважана і ацэнена. А польскіх пісьменнікаў у нас цяпер перакладае і Марына Шода, і Марына Казлоўская, і Марыя Пушкіна, і Серж Мінскевіч, і Андрэй Хадановіч, і Сяргей Прылуцкі — усіх не пералічыць. Нядаўна агульнымі намаганнямі выдалі вершы Віславы Шымборскай, цяпер ведаю, што А. Хадановіч актыўна перакладае Галчыньскага (хаця дыхтоўная таміна вершаў Галчыньскага — розных перакладчыкаў — ужо ёсць). І тут цяжка сказаць, ці Андрэй выбраў Галчыньскага сам, ці ажыццяўляе тое, на што палякі выдзяляюць сродкі — з гэтым таксама мусім лічыцца, бо разлічваць на падтрымку з боку беларускай дзяржавы, на жаль, не выпадае. Але фінансавыя цяжкасці ёсць паўсюль. Вось М. Бухалік пераклала чарговы раман Караткевіча, а польскія выдавецтвы на ўласны кошт не бяруцца яго выдаваць — і пераклад ляжыць.

***А.І.: А каго з празаікаў — як цяпер модна казаць, топавых для польскай ліаратурнай прасторы — варта было б прадставіць беларускаму чытачу?***

*Н.Р.:* Я б вельмі хацела перакласці Дароту Маслоўскую (здаецца, Серж Мінскевіч нешта перакладаў). Яцка Дэнеля — раман «Лялька» — цудоўны! Думаю, Пільха варта было б перакласці. Марына Шода пераклала Такарчук. Гэта вельмі цікавая пісьменніца. З паэтаў мая даўняя мара перакласці Пасвятоўскую. Некалькі маіх перакладаў гэтай паэткі друкаваліся калісьці ў часопісе «Край», можна іх знайсці ў інтэрнэце.

***А.І.: Пасвятоўскую для «Дзеяслова» пераклаў Алесь Емяльянаў, але там узніклі пытанні з аўтарскімі правамі. Таму, на жаль, пакуль што гэтыя пераклады беларускі чытач не зможа ўбачыць...***




*Н.Р.:* Ну, вось. Аўтарскія правы — гэта яшчэ адна праблема, якую беларусам трэба навучыцца вырашаць. Мы, на жаль, і тут адстаем. Разумееш, пераклады часта і прабуксоўваюць на неперакладчыцкім узроўні: няма грошай на публікацыю і выданне кнігі, няма грошай вырашыць пытанне аўтарскіх правоў. І гэта не праблема перакладчыка, але ў нашых рэаліях перакладчык сам мусіць пра ўсё дбаць і клапаціцца. І гэта знеахвочвае. Не хапае на ўсё сіл...

***А.І.: Давай цяпер крыху пра тваю другую іпастась — выкладчыцкую. Шмат гадоў ты выкладаеш у Люблінскім універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай. На якім сёння свеце беларуская філалогія ў Польшчы? Вядома, што ў Беластоку перафармавалі кафедру беларусістыкі. На сёння беларуская філалогія ў Польшчы існуе толькі ва ўніверсітэтах Любліна і Варшавы...***

*Н.Р.:* У Любліне ўжо няма аддзялення беларускай філалогіі для студэнтаў, але засталася кафедра беларусістыкі. Сёння ўся еўрапейская сістэма адукацыі перажывае змены. Больш увагі аддаецца навуковым даследванням, развіццю кадраў. Дыдактыка адыходзіць крыху на другі план, ад студэнта вымагаецца ў такой сітуацыі больш самастойнасці. У навучальным працэсе скарачаецца колькасць гадзінаў з выкладчыкам, а павялічваецца колькасць часу, адведзенага на самастойную працу. І гэта мае сэнс. У сучасным свеце любая інфармацыя месціцца на далоні (я маю на ўвазе доступ да розных электронных носьбітаў інфармацыі). Усе падручнікі і кнігі даступныя ў бібліятэках, а выкладчык цікавы для студэнта — сваім аўтарскім поглядам на розныя праблемы ў той ці іншай навуковай сферы. І на такія сустрэчы-кансультацыі адводзіцца зусім няшмат гадзін. Задача выкладчыка, як мне бачыцца, зацікавіць студэнта.

***А.І.: А чаму беларускія філолагі — у тым ліку і з кафедры старажытнай літаратуры філфака БДУ — пераязджаюць настала ў Польшчу? Лепшыя ўмовы для навуковай працы ў РП, чым у РБ?***

*Н.Р.:* Умовы для навуковага развіцця выкладчыкаў тут значна лепшыя, таму што навуковая праца прапісана ў абавязкі і навукова-дыдактычная стаўка менш абцяжарана гадзінамі аўдыторнымі. Часта даводзіцца чуць, што тыя, хто з'ехаў — здрадзілі. Але беларускія навукоўцы тут не расслабляюцца: Мікола Хаўстовіч — шмат перакладае і працуе ў архівах. Сяргей Кавалёў піша п'есы і таксама перакладае. Яны выбралі шлях не толькі асабістага камфорту, хоць не без гэтага, але і магчымасць зрабіць больш карыснага для беларускай навукі, літаратуры, перакладніцкай сферы. Прынамсі я так гэта бачу. Яны не марнуюць час, які ў іх «вызваліўся» ад аўдыторных гадзін, яны рупліва працуюць. Можна нават сказаць: шчыруюць на беларускай ніве. Папулярызуюць польскую культуру ў Беларусі, беларускую — у Польшчы.

***А.І.: Не магу не запытацца пра ўласную творчасць. Паміж тваімі паэтычнымі кнігамі перапынак у больш як дзесяць гадоў. Што няма-ла. З чым гэта звязана — не пісалася ці не было жадання выдавацца? У мяне ўражанне, што большасць вершаў тваёй новай кнігі «Каштаны ў кішэнях» напісаны на адной хвалі, а можа, — на адным дыханні. Гэтыя дзесяць гадоў былі гадамі паэтычнага маўчання-назапашвання ці ўвесь гэты час штосьці пісалася і рупліва складвалася ў творчую шуфляду?***

*Н.Р.:* Гэта праўда. «Каштаны» пісаліся на адным дыханні. З тых вершаў, што складаліся цягам дзесяці гадоў, у новую кнігу трапіла літаральна некалькі тэкстаў. Я наўмысна старалася не ўключаць іх, каб не псаваць «цэласнасць» зборніка. Мне хацелася, каб «Каштаны» заходзілі адным глытком, «нагбом». Я рада, калі гэта адчуваецца. Значыцца, у мяне атрымалася ажыццявіць сваю задумку. Тое, што пісалася паміж першым і другім зборнікам — яго мала і яно вельмі рознае і па настроі, і па тэматыцы. Магчыма, некалі і такіх розных назбіраецца на асобны томік. Але за гэтыя дзесяць гадоў акрамя вершаў я была занятая перакладамі, напісаннем дысертацыі, якая выйшла асобнай кнігай — «Сямейная муза. Паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл». Шмат часу займалі малыя дзеткі і пераезды. Увесь гэты час я жыла паміж Менскам і Люблінам. Цяпер амаль увесь час я ў Любліне.

> **Лічу, што кожны пераклад на беларускую мову — гэта свята! Іх нам трэба як мага больш. Перакладаў шмат не бывае. І нельга спачатку класіку перакласці, а потым сучаснае — трэба ўсё і адразу**

***А.І.: Алесь Разанаў так ахарактарызаваў такую з'яву, як паэзія — «уводзіны ў невымоўнае». Можа, прапануеш сваё вызначэнне?***

*Н.Р.:* Хіба можна сказаць лепш за Разанава? Для мяне паэзія — гэта светаадчуванне. Усё, што я пражываю, усё, за чым назіраю, адгукаецца ўва мне вершамі. Так, напэўна, кампазітар чуе ў сабе музыку, а я — словы.

**Значнасць Касцюшкавай асобы яшчэ падчас жыцця героя не падвяргалася сумненню творцамі нават тых дзяржаў, супраць якіх ён вёў барацьбу. У першую чаргу — Вялікабрытаніі.**

# Асоба Касцюшкі: англійскія паэты VS Пушкін

У еўрапейскай культуры тым часам квітнела эпоха рамантызму, і падобныя фігуры атрымлівалі павышаную ўвагу. Таму паэтычная творчасць Сэмюэла Тэйлара Колрыджа, Джэймса Генры Лі Ханта, Уолтэра Сэваджа Лэндара не абмінула такога выбітнага сучасніка, якім стаў Тадэвуш Касцюшка. Яго арэол распаўсюдзіўся і на тагачасную нямецкую літаратуру (Карл фон Хольтэй).

Як пісаў Зыгмунд Крысіньскі, у першай чвэрці XIX стагоддзя, сярод англійскіх паэтаў «nie ma prawie żadnego, który by o Polsce i o Kościuszce nie wspomniał». І праўда, цяжка знайсці гістарычную постаць, якая б лепшым чынам адпавядала канонам літаратуры рамантызму. Т. Касцюшка, узгадаваны на глебе асветніцтва з ідэалам моцнай манархіі, як чалавек і грамадзянін натуральна ўпісваўся ў кантэксты абедзвюх эпох: адукаваны і мудры, ён меў ідэалы надыходзячай аксіялогіі («свабода, роўнасць, братэрства»), якія ўвасабляў, ажыццяўляў падчас барацьбы за незалежнасць Злучаных Штатаў і не здолеў гэтага зрабіць пры ўсіх сваіх тытанічных высілках у вайне супраць драпежных краінаў — суседзяў Рэчы Паспалітай. Тая ўвага з боку англічанаў выглядае трохі парадаксальнай, бо ліцвін стаў сусветнавядомым менавіта праз велізарны ўнёсак у разгром войскаў вялікабрытанскай метраполіі, чым добра-такі прыклаўся да незалежнасці Злучаных Штатаў, што фактычна стварыла прэцэдэнт для развалу імперыі саксаў.



**Ліцвін стаў сусветнавядомым менавіта праз велізарны ўнёсак у разгром войскаў вялікабрытанскай метраполіі, чым добра-такі прыклаўся да незалежнасці Злучаных Штатаў**

Здабыткам літаратуры і культуры Беларусі стаў «Санет да Касцюшкі» англійскага паэта Джона Кітса ў перакладзе Язэпа Семяжона. Адзін з галоўных рамантыкаў Туманнага Альбіёна з'явіўся на свет літаральна адразу пасля паўстання і Вялікай французскай рэвалюцыі, у час, калі яшчэ жылі іх рамантычныя ідэалы, блізкія яму па духу, у час, калі жыў яшчэ і сам кіраўнік паўстання. Таму і выбар лірычнага героя бачыцца невыпадковым. Касцюшка са сваімі імкненнямі «спапяліць няволю і прыгон» — фігура асабліва прывабная для рамантыкаў.

Адштурхоўваючыся ад значнасці касцюшкаўскай постаці, у стылі рамантызму ўзносячы героя да вышыняў вечнасці, Дж. Кітс на гэтай падставе робіць шырэйшыя высновы: дэкларуе аб веры ў неўміручасць ідэалаў свабоды, роўнасці, братэрства, аб веры,

*...што прыйдзе час,*
*Калі і наш народ дабро спазнае*
*І ўпоравень з сабой герояў з нас,*
*Цяперашніх і даўніх аб'яднае*
*Ў магутны хор, і гімн іх паплыве*
*Ў нябёсаў сферы, дзе Тварэц жыве*[1].

Відавочна, Я. Семяжон не выпадкова, а свядома і адмыслова рабіў пераклад гэтага верша, працаваны радкі якога найлепшым чынам упісваюцца ў кантэкст перажыванняў патрыятычнай інтэлігенцыі Беларусі савецкіх часоў (год перакладу мной не ўстаноўлены; перакладчыка ж не стала ў 1990 годзе). Да таго ж перакладчык па-мастацку «адаптаваў» арыгінал, перанёс яго на беларускую глебу, што абумовіла, напрыклад, адсутнасць у вершы такой знакамітай асобы ў гісторыі англійскага народа, як кароль англасаксаў Альфрэд, які фігуруе ў санеце Дж. Кітса і знайшоў месца ў перакладзе на расійскую мову[2].

Такім чынам, праз мастацкі пераклад Я. Семяжон выявіў сваю грамадзянскую пазіцыю — метад не новы для літаратурнага працэсу, але характэрны ў варунках уціску творчай асобы (магчыма, дарэчы, да перакладу разгледжанага верша Дж. Кітса беларускага творцу падштурхнула праца над перастварэннем наскрозь патрыятычнага «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, дзе Т. Касцюшка неаднаразова згадваецца часта ў прынцыповых для твора момантах).

Сустракаецца ўжыванне вобраза Т. Касцюшкі як мастацкага канцэпту і ў самога Джорджа Байрана. Брытанскія рамантыкі не толькі салідарызаваліся з суайчыннікамі Касцюшкі, якіх спасцігла дзяржаўная катастрофа падзелаў больш моцнымі суседзямі, але і выражалі аптымізм у захаванні народам гістарычнай памяці:

*Вы жыхары Касцюшкавай зямлі,*
*Якую скрозь крывёю залілі*
*Сатрапы кацярынінскіх часоў...*
*Вы не забыліся на тую кроў?*[3]

Не пакінуў па-за сваёй паэтычнай увагай фігуру Т. Касцюшкі як знакавую для свайго часу і расійскі Міцкевіч — Аляксандр Пушкін. Знамянальна, што ў вершы «Клеветникам России» (1931) пііт спачатку гаворыць пра «волнения Литвы» (а не Польшчы), называючы падзеі «спором славян между собою» (падкрэслена мной. — А. Т.), гэтым самым расійскі класік выяўляе ўспрыманне ліцвінаў не як сучасных літоўцаў, а, значыць, як беларусаў)[4]. А яшчэ раней, звяртаючыся, як можна разумець, да аднаго з патэнцыяльных такіх «клеветников» — графа Густава Алізара (польскага паэта і грамадскага дзеяча), А. Пушкін спрабуе нівеляваць непрыемныя для Расіі палітычныя перыпетыі, бо, маўляў, «глас поэзии чудесной / сердца враждебные дружит». Пры гэтым ён апелюе да таго факту, што барацьба праходзіла з пераменным поспехам:

*И вы, бывало, пировали*
*Кремля [позор и] плен,*
*И мы о камни падших стен*
*Младенцев Праги избивали,*
*Когда в кровавый прах топтали*
*Красу Костюшкиных знамен.*

Як бачым, для расійскага паэта, які inter alea нібыта «милость к падшим призывал», маніякальна-брутальныя забойствы немаўлят — даволі трывіяльная з'ява, якая не павінна па яркасці пераўзысці «глас поэзии», «улыбку муз», «сладкие звуки вдохновенья». Такім чынам, А. Пушкін фактурна прызнае жорсткасць з расійскага боку і называе яе час — шляхам спасылкі на паўстанне пад кіраўніцтвам Касцюшкі, штандары якога тапталіся «в кровавый прах».

Такім чынам, пры параўнанні выяўляецца розніца ў рэцэпцыі і разуменні гістарычнай постаці Т. Касцюшкі і падзей з яго ўдзелам. І ўжо ў XIX стагоддзі вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў якасці мастацкага вобразу і канцэпту стабільна заняў пазіцыі ў мастацкай літаратуры.

1 Кітс Джон. Санет да Касцюшкі // Наша слова, 1993, № 6, 10 лют.
2 Китс Джон. Лирика, «Художественная литература», 1979.
3 Байран Дж. Г. Лірыка, «Мастацкая літаратура», 1989.
4 Пушкин А.С. Полное собрание сочинений. В 17 т. Т. 3, кн. 1, «Воскресенье», 1995.

**Анатоль Трафімчык**

# Прынцэсы з Ландскрунскага замка (паданне)

**Гэта здарылася шмат гадоў таму з адным салдатам, які служыў пры Ландскрунскім замку. Аднае начы перад ім з'явіліся дзве жанчыны, у якіх ён ніяк не мог пазнаць зямных стварэнняў: яны наблізіліся да яго бязгучна, лунаючы ў паветры, і на іх былі чорныя, нібыта сама ноч, адзежы.**

Салдат звярнуўся да прывідаў, і тыя паведамілі, што яны здані дзвюх няшчасных прынцэсаў і што ім не знайсці прытулку і спакою, пакуль нехта са смертных не захоча ім дапамагчы. Яны прыйшлі прасіць аб гэтым салдата, і да таго ж не задарма: за гэтую паслугу ён атрымае ад іх ва ўзнагароду вялікі скарб са срэбра і золата.

Салдат папрасіў прынцэс расказаць, што ад яго патрабуецца, — тады, маўляў, ён падумае, зможа выканаць іхную просьбу ці не. Яны ж адказалі яму, што цягам цэлага года ён усяго толькі мусіць не мыцца, не расчэсвацца ды не галіцца. Але ў дадатак ён павінен паклясціся ніколі і ні перад кім не адкрываць таго, што зараз бачыў і чуў, ды свята захоўваць маўчанне пра крыніцу свайго багацця. Апошняя ўмова салдату падалася лёгкай, бо што-што, а маўчаць ён умеў, а вось з першаю было складаней: усё ж салдат заўжды мусіць трымаць сябе ахайным і дагледжаным, калі не хоча быць пакараны.

Прынцэсы сказалі яму, што хвалявацца аб гэтым няма чаго — хай толькі паабяцае зрабіць тое, аб чым яго просяць, ды хай гэтае абяцанне трымае, а яны ўжо паклапоцяцца, каб ён заўжды выглядаў чыста вымытым ды акуратна пастрыжаным, як і яго таварышы. Салдат тут жа хацеў пагадзіцца, але прынцэсы папрасілі яго спярша добра падумаць, бо калі ён парушыць сваю клятву, то яны ўжо не змогуць уратавацца, калі толькі ў глыбокім замкавым рове не вырасце ляшчына аж такая, каб з яе галінаў можна было сплесці калыску і пакласці туды хлопчыка-немаўлятка — вось ён і зробіцца тым мужчынам, які зможа прынесці ім уратаванне і спакой.

Салдат адказаў, што ўсё ўжо абдумаў, маўляў, хай яны толькі дадуць яму золата ды срэбра, а ён ужо зробіць, што павінен. «Хай будзе так, — сказала адна з прынцэсаў. — Але шторазу ў ноч поўні мы будзем адведваць цябе, і гора табе і нам, калі не стрымаеш абяцанне». Затым яна патлумачыла салдату, дзе схаваны скарб, і абедзьве здані зніклі.

Час ішоў, і салдат верна выконваў абяцанне — ён не мыўся, не расчэсваўся, не стрыгся і не галіўся. Аднак заўсёды выглядаў чыстым і дагледжаным, і ўсё было б добра, калі б ягонае багацце не спакусіла яго жыць шырока. Такі лад жыцця абудзіў цікаўнасць ды пільную ўвагу яго саслужыўцаў і камандзіраў — усе распытвалі, адкуль ён дастаў гэтулькі грошай, што так лёгка расцярушвае іх вакол сябе.



На гэта салдат нічога не казаў, бо цвёрда вырашыў стрымаць клятву, якую даў прынцэсам. Тыя штомесяц у час ягонай варты наведвалі яго і шторазу з'яўляліся перад ім ва ўсё святлейшых строях. Але вось праміну амаль год, а салдат усё так і жыў, нібыта валодае залатым прыіскам. Тады ў справу рашуча ўмяшаўся яго камандзір. Ён некалькі разоў выклікаў салдата на гутарку, але той адмаўляўся штосьці тлумачыць, і тады яго абвясцілі шпіёнам, засланым ворагамі дзяржавы, і прыгаварылі да павешання.

Пачуўшы вырак, салдат падумаў, што пры такім сыходзе не зможа дапамагчы прынцэсам, бо, каб уратаваць іх, яму трэба дажыць да канца года, а да таго ж ён чуў, што прыгавораным да павешання абстрыгаюць валасы. Таму цяпер ён прызнаўся ва ўсім і папрасіў дазволу працягнуць сваю чыннасць дзеля супакаення душаў прынцэс.

Камандзір таксама палічыў за добрае, калі беспрытульныя душы ўрэшце супакояцца з мірам, і таму вызваліў салдата з вязніцы, каб у тую ж ноч ён змог заступіць на варту, бо якраз была поўня. Але апоўначы, калі была змена варты, салдата знайшлі на сваім пасце мёртвым, са скручанай — носам за спіну — галавою. І цяпер стала бачна, што салдат доўгі час не мыўся, не прычэсваўся і не стрыгся: бруд тоўстым слоем ляжаў на яго твары, а валасы і барада збіліся ў каўтуны, быццам поўсць на бадзяжным сабаку.

Мінула шмат часу, і замкавы роў зарос быльнягом і хмызамі, а пазней між іх прабілася ляшчына. У той час у Ландскруне жыў мужчына, які ведаў, дзеля чаго яна тут вырасла, і таму вельмі яе бярог. Штогод ляшчына пускала новыя галіны, і мужчына спадзяваўся, што хутка іх будзе даволі, каб сплесці з іх зыбку; а ўжо хлапчука, каб пакласці ў яе, меркаваў ён, будзе няцяжка знайсці. Але сталася так — а цяпер мінула ўжо больш як 60 гадоў з тае пары — што роў загадалі вычысціць, каб зноў напоўніць вадой; недасведчаныя людзі ссеклі ляшчыну і так пазбавілі прынцэсаў іх апошняй надзеі на ўратаванне — да таго часу, пакуль новая ляшчына не ўзрасце на тым месцы.

**Пераклад са шведскай Алесі Башарымавай**

# Трымаючы неба ў вачах



Васіль ДЭБІШ

## Д’ябал

*У д’ябла — дзве рукі. Ён сваю справу знае.*
*Адной дае, другою — забірае.*
*То ўзнікне сябрам ён, ці родным сынам,*
*То — ворагам схаваецца за спінай.*
*Мне шэпча ў вуха правае — любі!*
*У левае, па-змоўніцку — забі!*
*Так і віжуе, праяўлю дзе слабасць.*
*І точыць, точыць нож разладу д’ябал.*

## Карась

*Ніякі не забойца я, і ўсё ж*
*Шукаю па шуфлядах востры нож.*
*Вандроўнік адзінокі і басяк,*
*Іду на кухню. Чышчу карася.*
*Разрэзваю, вантробы ўсе вымаю.*
*Ён цмокае і галавой матляе,*
*Як быццам нешта хоча мне сказаць…*
*Паснедаўшы, іду спакойна спаць.*
*Мне сніцца сон. Рака. Завея. Лёд.*
*Пад тоўшчай лёду — холад і смурод.*
*Там — мой карась, што стаў раптоўна мною.*
*Ён — задыхаецца, матляе галавою.*
*Вачыма лыпае і курчыцца ад болю*
*Пад шклінай непад’ёмнаю няволі.*

## Пракажоны

*Каб ведалі вы, як абрыдзелі мне.*
*І бачыць, і чуць болей вас не жадаю.*
*Схаваўся я ў ціхім лясным будане,*
*Забыўся пра ўсё і прыпамінаю*

*Вас, людзі, хіба толькі ў жудасным сне.*
*Абачлівым стаў я і стаў асцярожным.*
*Але вы і тут баіцёся мяне —*
*За крокам маім вы цікуеце кожным.*

*Таемна вы крочыце следам маім*
*Ашчэраным зверам, ліхім і пачварным.*
*І — блазан — я вам усміхаюся ўсім*
*Скрозь слёзы, што паляць мне струпы*
*на твары.*

## Вайна

*Вайна на ўсходзе.*
*На захадзе — вайна!*
*Зноў гінуць, гінуць, з двух бакоў, салдаты.*
*Спрабуй тут разбяры, хто вінаваты.*
*Ды ў тым, напэўна, кожнага віна.*

*Не толькі рушацца дамы, вакзалы,*
*Але і душы. І нядобры знак,*
*Што менш і менш паэтаў сярод нас,*
*Ды больш і больш дзяржаўных генералаў.*

## Цені

*Па звычцы апранаю паліто,*
*Іду на вуліцу, бо некуды ж павінны.*
*Углядваюся ў твары я і ў спіны —*
*Не разумею: хто вакол і што.*

*Не заўважаю фарбаў, ні акрас,*
*Бо навакол нікога, толькі цені.*
*Прастора знікла, радасці імгненні.*
*Ні памяці, ні мовы, ані нас…*

*Сам па сабе сплывае ў бездань час.*

## Наша

*Белы свет нашы дзеці пабачылі тут.*
*Не харомы няхай, але свой маем кут.*
*Ёсць свой цэп у нас, Люба, літоўка-каса.*
*Па чужых не бадзяемся мы адрасах.*
*Маем мову сваю, і культуру, і быт…*
*А на гэтай зямлі мы чужынцы нібы.*
*Не па людску жывем — тут сума і турма.*
*Ні адхлання, ні зменаў ніякіх няма,*
*Бо навязваюць веру чужыя багі,*
*І ніякі закон тут не мае вагі.*
*Храм духоўны зламаны — бязвер’я крыжы.*
*Янычары паўсюль — хто прывёў іх, скажы?*



*Ва ўстановах чужынцаў ільсніцца аж твар.*
*Колькі лёсаў зламана, а колькі ахвяр?*
*Знаеш, Люба, між чорных*
*марудаў-смаўжоў*
*Надакучыла жыць і баяцца мне ўжо.*
*Я люблю сваіх дзетак, сям’ю, і таму*
*Рваць бязлітасна буду нязносны*
*хамут.*
*Ёсць літоўка у мяне і дзядулін ёсць цэп,*
*Што ляжаў пад страхой да пары*
*без патрэб.*
*А пакуль я трываю, рахманы пакуль:*
*Іншаверцы, чужынцы, ідзіце адсюль!*
*Ў залатую арду вы трымайце свой шлях.*
*Гэта наша краіна і наша зямля.*

***

*Калі на неба глядзець доўга-доўга,*
*Распластаўшыся на траве,*
*Можна ўбачыць наяве Бога,*
*Што на воблаку ўдалеч плыве.*

*Над Бярэсцем, над Белавежай…*
*І паверыць, што нездарма*
*Ты жывеш. Можна ўбачыць*
*бязмежжа,*
*Той свабоды, што тут няма.*

*Можна лозунг надрапаць светлы*
*На нябёсах: «Радзіме — жыць!»*
*І не быць пакараным за гэта.*
*Сцерці з памяці і забыць.*

*Дзёрзкім быць і неасцярожным,*
*Каб адолець адвечны страх.*
*І, нарэшце, стаць вольным можна,*
*Трымаючы неба ў вачах.*

# Паэма пра вецер



Сяргей ВЕРАЦІЛА

## I

*І ноч прыйдзе,*
*І горад глухі будзе*
*Ўслухоўвацца ў званкі*
*Тэлефонаў, у гудзенне матораў,*
*У тупат крокаў,*
*У бразгат дзвераў.*

*А дрэвы без лісця,*
*Голыя дрэвы, бы чалавек*
*Без надзеі, што рэха*
*Па лесе самотна блукае,*
*Рэха шукае,*
*Рэха чакае*
*Голасу.*

*Вуліца слепне,*
*А сонца сёння*
*Над горадам і не хадзіла,*
*Вачэй не сляпіла,*
*Спінаў не грэла.*
*Сонца сёння*
*Пра горад забыла,*
*Й вуліца слепне.*

## II

*Запаляць ліхтары,*
*І небяспечнымі пададуцца цені,*



*Што трымаюцца за сцены,*
*Што чапляюцца за слупы і дрэвы.*
*Цені, што ціха мінаюць*
*Пысаў тупых*
*Тралейбусных і круглавокіх.*
*І патрапляюць*
*У цёмныя без лямпачак*
*Зеўры пад’ездаў,*
*Каб схавацца й прапасці*
*У пастках утульных кватэраў.*
*Цені вячэрнія,*
*Цені начныя.*

*А потым, ужо потым*
*Згасаць пачнуць ліхтары,*
*Хоць да ранку шчэ будзе далёка.*
*А вецер стане змагацца*
*З апошнім рыззём на галінах.*
*А вецер стане заходзіць*
*У адведкі да сэрцаў,*
*Што жывуць у палітонах,*
*Плашчах і ясёнках.*

*А вецер, як здраднік, стане шаптацца*
*За рагамі дамоў.*
*Зайздросліва і па-жабрацку*
*Пазіраць стане вецер*
*На строката-пярэстыя*
*Шапікаў шыбы,*
*Дзе на продаж заўсёды:*
*Цыгарэты ўраздроб,*
*Кава на кубак*
*І для любові прылады.*
*Стане вецер кахання прасіць*
*У начных прастытутак,*
*Вецер мае чым заплаціць*
*І за каву, і за любоў,*
*І за цыгарэты.*

## III

*Вецер заўсёды хістаецца,*
*Але вецер не п’яны,*
*Вецер няўпэўнены,*
*Вецер непастаянны,*
*Вецер свабодны.*
*А мянты?*
*Тыя быццам нічога не бачаць*
*Тыя быццам нічога не чуюць.*
*Не пакараюць гумаўкаю,*
*Кайданкоў не надзенуць,*
*Не пацягнуць яго ў пастарунак,*
*Не складуць пратаколу,*
*Адвернуцца толькі*
*І брудныя, злосныя словы прамовяць.*

*Ноч надыходзіць,*
*Ноч адыходзіць.*
*Горад глухі,*
*Горад сляпы,*
*Горад не спіць,*
*Вецер не спіць.*
*Ноч надыходзіць,*
*Ноч адыходзіць…*

**2000**

# Казачны Караткевіч



Васіль ДЭ ЭМ

**Уладзімір Караткевіч вельмі любіў мультфільмы. Крыўдзіўся, калі жонка, Валянціна Браніславаўна, забывала паклікаць яго да тэлевізара.**

«Аспід!», — так жартаўліва называла яна мужа, — ідзі, там твае мульфільмы пачаліся!» У кватэры тады панавала цішыня — ніхто і нішто не павінны былі замінаць праглядy. З аднолькавай увагай ён глядзеў і «Ну, пачакай!» і тонка-інтэлектуальныя фантазіі Нарштэйна.

Мультфільмы стваралі пісьменніку адпаведна-творчы настрой. Той настрой, пры якім вельмі добра пішуцца казачныя творы.

Магчыма, зналыя літаратуразнаўцы і запярэчаць, але, як мне здаецца, ва ўсім напісаным — раманах, аповесцях, апавяданнях, п'есах, вершах, сцэнарах — У. Караткевіч заставаўся перадусім казачнікам.

Ён выдумаў сваю казачную Беларусь.

У гэтай краіне жылі фізічна і духоўна моцныя беларусы-арыстакраты. Яны былі выдатна адукаваныя, ведалі шмат моў і ніколі не забывалі пра родную мову і традыцыі сваіх продкаў.

Іх кахалі самыя прыгожыя жанчыны; сядзібы і палацы гэтых беларусаў мелі такія калекцыі жывапісу, якім бы пазайздросцілі лепшыя музеі Еўропы.

Персанажы твораў У. Караткевіча шмат у чым маюць падабенства да казачных асілкаў. Кожны з гэтых супер-герояў дастаткова ўмоўны. Кожны з іх хутчэй знак, сімвал, а пасля ўжо — жывы чалавек. Гістарычны фон, на якім яны дзейнічалі, гэтаксама (нягледзячы на многія канкрэтныя рэаліі і прыкметы) стварыўся хутчэй паводле законаў паэзіі, чым гісторыі.

Пісьменнік не хацеў паказваць беларуса — няўпэўнена-смутнаглядным, палахлівым, слабым. Значна цікавей было выдумаць СВАЙГО беларуса і зрабіць гэта так па-мастацку пераканаўча, каб рэальны, абыякавы да ўсяго нацыянальнага суайчыннік паверыў у гэтую фантазію і хоць крыху пачаў адпавядаць такому яркаму літаратурнаму вобразу...

Вялікае месца ў творчасці Уладзіміра Караткевіча займалі не толькі гістарычна-дэтэктыўныя казкі, створаныя для дарослых, але і тыя, якія ён напісаў для дзяцей.

Адно з самых ранніх казачных апавяданняў У. Караткевіча напісана ў 1952-м годзе. Гэта — «Лебядзіны скіт». Апублікавана яно было толькі пасля смерці аўтара ў 8-томным зборы яго твораў.

Дзеянне казкі адбываецца ў тыя часы, калі «...рознапляменныя орды ўладара Батыя пайшлі навалай на рускую зямлю (...) Наперадзе яны сустракалі зялёныя палі, хаты ў садах і стракатыя гарады, а ззаду пакідалі толькі чорную пустэчу, па якой як жадаў хадзіў вецер, узнімаючы сталбы попелу. І болей нічога не заставалася на калісьці зялёнай зямлі».

Караткевіч па-босхаўску выразна малюе карціну нацыянальнага апакаліпсісу. Вораг, як бачна з прыведзенай цытаты, знішчае татальна ўсё і ўсіх. Прытым, калі чытаеш гэтую рэч, то разумееш — не так і істотна, пра якога ворага піша аўтар. Умоўна-баладная структура «Лебядзінага скіта» дазваляе замест «войскаў Батыя» уявіць немцаў, рускіх, французаў, палякаў ці каго там яшчэ.

Паратунку няма ніякага. Літасці чакаць няма ад каго. Ды і скуль ёй, гэтай літасці, узяцца, калі наш народ, паводле слоў Батыя, варты адно толькі пагарды, бо: «Іхнія «каназы» цураюцца сваёй мовы, іх папы — брахлівыя сабакі, у людзей яго, як у птушкі, адно жаданне — набіць свой валляк».

Біблейскае гучанне свайго твора У. Караткевіч узмацняе не толькі тэмай пакарання цэлага народа за яго грахі, але і чыста Хрыстовым матывам ахвяры. Войскі Батыя бачаць «на беразе возера скіт, змётаны з шэрых бярвенняў, ля якога завіхаўся нейкі старац». Расчараваны ў сваім жыцці, Старац хоча зрабіць хоць адзін варты ўчынак: ён просіць Батыя пакінуць жывымі тых сваіх суродзічаў, хто зможа змясціцца ў скіце. Узамен ён гатовы ахвяраваць сабой.

У Старца з'яўляецца нечаканы саюзнік — смешны, «вечна п'янаваты» Юсуфі, які апявае паходы Батыя і можа (на правах блазна) казаць свайму гаспадару ўсё, што думае. Менавіта ў «Лебядзіным скіце» перад намі ўпершыню прадстае ПАЭТ-ВЫРАТОЎЦА. Дзякуючы заступніцтву Юсуфі, Батый згаджаецца з умовай Старца. Як своеасаблівы анёл-ахоўнік, Юсуфі сваімі вострымі жартамі і тонка-іранічнымі показкамі бароніць ад гневу Батыя галоўнага героя. Ён адзіны сярод захопнікаў, хто шкадуе наш народ, адзіны, хто верыць у яго сілу.

Мудры Юсуфі ведае — Батый загіне, а слова, адно толькі слова, напісанае Паэтам, застанецца. Помніць жа пра грознага заваёўніка будуць толькі тады, калі пра яго напіша Паэт.

Як і Юсуфі, Караткевіч верыў у сілу слова. І меў рацыю.

Хто з сённяшніх маладых чытачоў чуў пра тагачасных «Батыяў», пры якіх жыў і пісаў Уладзімір Сямёнавіч. А яго, Караткевіча, помняць.

Чым скончылася суперніцтва Старца і Батыя, мы ведаем — скіт дзівосным чынам сабраў у сябе ўвесь народ, які ператварыўся ў белых лебедзяў. Птушкі паляцелі да сваіх «разораных гнёздаў» і абярнуліся там людзьмі ў белых світках. Менавіта з тых часоў, паводле фантазіі пісьменніка, народ гэты і стаў называцца беларусамі, а краіна — Беларуссю. Старац, чыя бязмерная любоў да свайго




народу стварыла падобны цуд, ператварыўся ў камень, які «точыць слёзы».

Па сваёй сіле, смеласці, нацыянальнаму духу, унутранай энергетыцы юны Уладзімір Караткевіч напісаў практычна бездакорны твор. Адзінае, за што можна крытыкаваць «Лебядзіны скіт», — гэта за яго не вельмі добрую беларускую мову. Аднак стваральніку новых нечаканых вобразаў, герояў ды і ўвогуле чалавеку, які тэматычна, ідэйна абнавіў нашую літаратуру — моўныя і стылёвыя недакладнасці, безумоўна, даравальныя.

У свае 22 гады Караткевіч выявіў вельмі важную для ўсёй сваёй далейшай творчасці думку, якая стала, па-сутнасці, яго крэда: як бы цяжка не было, які б не быў твой народ памяркоўна-абыякавы — ВЕР у яго сілы, ЛЮБІ яго, не гледзячы ні на што, не дапускай і думкі, што твой народ «няўдалы», нават калі прыхільнікі «аб'ектыўнай праўды» пра гэта штодня гавораць. ВЕР — і тады здзейсніцца цуд!

У 1975-м годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзяць дзве невялічкія, выдатна аформленыя кнігі Уладзіміра Караткевіча «Казкі» і «Белавежская пушча». Па-сутнасці, менавіта 40 гадоў таму назад і адбыўся афіцыйны дэбют пісьменніка ў друку як дзіцячага аўтара.

У зборніку «Казкі» змешчаны два хрэстаматыйныя творы — «Чортаў скарб» і «Верабей, сава і птушыны суд».

Гэтыя творы, у параўнанні з па-арганнаму-велічным «Лебядзіным скітам», — вонкава лёгкія, бесклапотныя, напісаныя з вялікім гумарам. Але калі чытаеш уважліва той жа «Чортаў скарб», заўважаеш пэўнае падабенства з гісторыяй пра ахвярнага Старца і п'янаватага Юсуфі. А магчыма, нават можна ўбачыць іранічнае пераасэнсаванне гэтай гісторыі. Тут таксама ёсць вораг-акупант (Чорт), які не дае жыцця простым беларусам (Янку і яго сям'і). Чаго толькі гэты нячысцік не робіць! «Пазаплятае коням грывы так, што пасля не расчэшаш, а думаюць на сыноў. Вяршкі з малака зліжа, а думаюць на бедную кошку... А то раніцай вынуць з печы пірог і здзівяцца: на пірагу невялічкі адбітак. Гэта чорт на гарачае цеста адпачываць садзіўся. Грэўся з марозу».

Паказаўшы ў сваіх «дарослых» творах цэлую галерэю моцных, рашучых, мудрых і смелых беларусаў, у «Чортавым скарбе» Уладзімір Сямёнавіч іранізуе з такіх якасцяў нашых людзей, як няцямлівасць, няўпэўненасць, нясмеласць, няўменне змагацца за сваё. Янку прасцей уцячы з хаты, кінуць сваю гаспадарку, чым даць адпор нячысціку. Як піша аўтар: «І вырашыў [Янка] урэшце, праз гэтыя чортавы выбрыкі, забіць хату дошкамі і падавацца з дзецьмі, валамі і кошкай некуды ў свет. Кінуўшы сваю радзіму, цёмныя пушчы, светлыя рэкі ды чыстыя воды. І стала б на Беларусі меней яшчэ адной сялянскай хатай...»

Як мы памятаем, нашага героя ратуе выпадак. У хаце Янкі заначаваў вандроўны артыст-павадыр з мядзведзем. Ноччу мядзведзь вырашыў паласавацца рэпай. Чорт, які гэтаксама захацеў з'есці рэпу, прыняў у цемры мядзведзя за кошку. У выніку — мішка даў яму такога выспятка, што той уцёк і болей у хаце не з'яўляўся. У фінале Янка выпадкова сустракае Чорта, і той прызнаецца, што закапаў у яго хаце скарб — Янка становіцца багацеем.

Іронія гэтай казкі яшчэ і ў тым, што Янка так і не здагадаўся пра тое, як яму дапамаглі. Чорт быў упэўнены, што быў пашкуматаны кошкай і расказаў пра гэта Янку. А той і паверыў. У. Караткевіч праводзіць у гэтай (такой няпростай на самой справе!) казцы цікавую думку, што калі беларусаў ратуюць, то яны часта не разумеюць, ад чаго іх ратавалі і хто іх сапраўдны выратоўца.

Перад намі — зноў гісторыя пра тое, як чароўнае з'яўленне ПАЭТА (бо вандроўны артыст-павадыр — чым не паэт?) ратуе беларусаў ад бяды.

Другая казка ў зборніку «Верабей, сава і птушыны суд» — гісторыя пра дзёрзкага, незалежнага вераб'я, якога птушыная грамада хацела аддаць пад суд. Уся віна нашага героя была ў тым, што ён аднаго разу «размахнуўся крыльцам і ляпнуў сітаўку па хвасце». Верабей схаваўся ад птушынага суда ў невялікім дупле. Вартаваць паставілі саву, якая «...ў той час была зусім без пер'яў. Голая, як абскубленая курка. Жоўтая. Худая. Выгляд сараматны і гнюсны». Птушкі «скінуліся па адным пяры і зрабілі саве дзівоснае футра», абы тая ўсю ноч вартавала «злачынцу». Сава пад раніцу заснула, верабей — уцёк, а саву зрабілі вінаватай, і з тых часоў кожная птушка патрабуе ў яе сваё пер'е.

Свабодалюбівы верабей і агрэсіўна-аўтарытарнае птаства — чым не іранічная метафара тых часоў, калі стваралася казка. У памяці адразу ж узнікае славуты фільм Георгія Данэлія «Афоня» (які, дарэчы, таксама выйшаў у 1975-м), дзе над галоўным героем, гультаявата-бесклапотным сантэхнікам, увесь час чынілі грамадскія суды.

У больш позняй казцы «Жабкі і чарапаха» — падобны ж вобраз агрэсіўнай грамады У. Караткевіч выявіў у выглядзе дурных жабак, што здзекуюцца з ціхай, інтэлігентнай Чарапахі. Ад свайго імя, чыста публіцыстычна, аўтар гнеўна загадвае неразумным жабкам: «Ану, марш адразу ж у Чарапахі прабачэння прасіць, перапрашаць яе!»

«Белавежская пушча» — другі дзіцячы зборнік, які выйшаў разам з «Казкамі» ў 1975-м годзе. Яго можна назваць у роўнай ступені творам як Уладзіміра Караткевіча, так і мастака Пётры Драчова, што з'яўляўся аўтарам неверагодных па сваім графічным майстэрстве калажных малюнкаў. У гэтых малюнках выдатна суіснуюць старажытныя гравюры, чорна-белыя і каляровыя фотаздымкі, акварэльныя замалёўкі і выявы, створаныя гуашшу.

Сама кніга — хваласпеў Белавежскай пушчы і яе насельнікам: магутным зубрам, ласям, дзікам, самым розным птушкам.

Як няцяжка здагадацца — Белавежская пушча, якая паўстае тут ідылічна-прыгожай, непрыступна-магутнай, з ідэальнай іерархіяй звяроў і птушак — фантазія пісьменніка на тэму таго, якой павінна быць наша Беларусь.

...Як мы памятаем, Уладзімір Караткевіч вельмі любіў мультфільмы. Яны стваралі пісьменніку адпаведна-творчы настрой. Той настрой, пры якім вельмі добра пішуцца казачныя творы.

Многія казкі пісьменніка (сур'ёзныя, іранічныя, велічна-пафасныя, гумарыстычныя, сучасныя, гістарычныя, для зусім маленькіх і зусім дарослых) аб'ядноўвала тэма ПАЭТА-ВЫРАТОЎЦЫ, у іх гучаў матыў ВЕРЫ (толькі не ў рэлігійным сэнсе гэтага слова).

У казцы «Скрыпка Дрыгвы й верасовых пустэчаў» галоўныя героі, Янук і Марта, пабраліся шлюбам супроць волі «чорнага, як кажан, і жорсткага, як вампір» магната. Напалоханыя суседзі ад іх адвярнуліся. Але настолькі моцна Ён і Яна ВЕРЫЛІ ў сілу свайго кахання, што да іх завітаў прывід вялікага ПАЭТА Алеся Бан-Жвірбы, які абараніў іх сваёй чароўнай песняй ад помсты магната і прынёс іх сям'і багацце...

Сваімі казкамі Уладзімір Караткевіч вучыць: калі ВЕРЫЦЬ у свой народ (які б ён не быў), ВЕРЫЦЬ у сваё каханне, у сваю краіну, у сваіх ПАЭТАЎ і хаця б раз у дзень чытаць па адным беларускім вершы — тады не загінем, тады не будуць страшныя ніякія чэрці і «рознапляменныя орды», ніякія «птушыныя суды», ну і вядома — ніякія жабкі не пасмеюць здзекліва квакаць у наш бок.

# Я не ўтаіўся ні разу…

## Вершы розных гадоў



Алесь КАСКО

### Самаіронія

*Промню зіркастаму, нібы лязу,*
*мушу даверыць паразу:*
*я не ўтаіўся ні разу,*
*як ні захліставаў усмешкай слязу.*

*Смутак уласны згінаў у дугу,*
*шпагаю вострую фразу*
*сам і глытаў — не ў абразу*
*тым, што трываліся праз не магу.*

*Часта вярэдзіў душу і руку*
*з мінай, належнаю блазну,*
*з мрояй, што звонкасцю бразну*
*лірыцы гордай па сёмым замку!*

*Дзверы, аднак, прачыняў,*
*бы лазейку, —*
*зноў заставаў*
*там іронію-змейку.*

### Пакліканы

*Мяне не было*
*мільёны мільёнаў гадоў,*
*пакуль драбнюткія часцінкі Сусвету*
*шляхам незлічоных спробаў яднання*
*склалі мяне на імгненне,*
*якім вымяраецца век.*
*Я спяшаўся і шмат што паспеў —*
*насыціць аблокі фабрычным дымам,*
*рачулку абрынуць у тартарары,*
*пакінуць унізе непаваротлівых*
*і прабегчы ўсе сходкі кар'ернай лесвіцы,*
*беднай мовы зрачыся і стаць паліглотам,*
*верх узяць  над сотняй жанчын,*
*даць рады дзесятку бочак віна, —*
*але і цяпер, на зыходзе імгнення,*
*не пакідаю здзіўляцца: няўжо*
*хтосьці моцна тужыў тут,*
*што мяне не было?..*

* * *

*Як жыць крату, дык толькі пад зямлёю,*
*скуль мітусня людская не відна.*
*Яму й сканаць там целам і душою,*
*калі ў ім ёсць яна.*

*Няхай жыве, яму не замінаю,*
*калі ж нашкодзіць мне, тады крату*
*я норы ўсе, хады ўсе раскапаю,*
*злаўлю —аддам кату.*

*З тым буду задаволены сабою:*
*вышэйшасць праявілася мая…*
*Але што бачу тут я, над зямлёю,*
*што бачу з сонцам я?*

*Яно не свеціць у людскія душы,*
*капні сваю ці іх — там ноч кратоў.*
*Век буду й на зямлі я невідушчы,*
*пад ёй — і пагатоў.*

### Наша зорка

*Не аднойчы распальвала горан,*
*іскрылася між молатам і кавадлам,*
*выпрабоўвала волю — і мы*
*пакрысе рабіліся зброяй*
*з памяццю пра сярпы і нарогі.*

*Спапяляла на нівах паспелых*
*збажынай і травою —*
*мы з глебы, угноенай попелам,*
*паўставалі не сеянай рунню,*
*адрасталі атаваю.*

*Няшчадна абпальвала вусны,*
*языкі апякала і скурчвала —*
*мы размаўляць вучыліся*
*ледзь чутнымі ўздыхамі,*
*пальцамі рук ды мімікай.*

*Шуганула ўзветраным полыскам,*
*найменне забрала-вырвала*
*і на суседні народ перанесла —*
*мы не пагрэбавалі*
*найменнем чужым, пазычаным.*

*Зацерусіла атрутным пылам —*
*мы праціраем усмешкі:*
*ат, нішто, гэта ж толькі чарговая,*
*адна з незлічоных*
*пракудаў палыннай зоркі.*

* * *

*Гукаем наноў, зачынна*
*адну за вякі вясну*
*з надзеяй старой: магчыма,*
*сама скіне ковы сну.*

*Сама разняволіць чынна*
*і прышласць, і даўніну,*
*якія зямля злучыла*
*ў скаронасці кургану.*

*Яму ды начы ваўчынай,*
*бязроднаму груганy,*
*людской немаце злачыннай,*
*здранцвенню, дурману, дну.*

*Надзея мігціць лучынна*
*і цешыць сябе адну:*
*прачнецца без нас Айчына*
*ўвасобленай у вясну…*

### Пустальга і жаваранак

**(Амаль што байка)**

*Заліваецца жывы званочак*
*у прасторы весняй цішыні.*
*Слухаем, і падымаем вочы,*
*і штурхаем сябра ў бок: зірні.*
*Жаўранак! Ён славіць падарожжа,*
*далі, дзе сінеча і смуга,*
*дык наперад — і пазнаць не можам:*
*не жаўрук звініць, а пустальга.*
*З голасам падробленым саколік,*
*не аматар паднябесных стром,*
*ён праўдзівага музыку ў полі*
*зняў яшчэ на ўзлёце, над гняздом.*
*І цяпер вызвоньвае заўзята*
*ўхвалу спрыту дзюбы й кіпцюра…*

*Гэтак жа адрозніць цяжкавата*
*плагіятара ад песняра.*

### Схаластыка

*Які ў ім змест? Якую мэту ўклалі продкі? —*
*мысляр глядзіць на нож,*
*што таямніцу тоіць.*
*Даць ад нажа адказ! Разгадка*
*корміць-поіць…*
*Які ў ім змест? Якую мэту ўклалі продкі?*
*Нож — дудку скручваць?*
*Хлеб надзённы кроіць?*
*Ці ворагу і зверу перарэзваць глоткі?*
*Які ў ім змест? Якую мэту ўклалі продкі? —*
*мысляр глядзіць на нож,*
*што таямніцу тоіць.*

### Мэтрава скарга

*Мне маладзёны не даюць дыхнуць,*
*нясуць на прачытанне каламуць:*
*то стосы вершаў, то раман-таміну,*
*каб стыль падправіць, думку падцягнуць;*
*калі мяне на покуць пакладуць,*
*дальбог, дадуць чытво і ў дамавіну.*

***

*Калі хвілі брак жывой, парыўнай,*
*з чаркай тэт-а-тэт*



*абысціся пераспелай рыфмай:*
*квет — санет — эстэт…*

*Не заўважыць, што яна з адрыжкай;*
*ледзь-ледзь хмель міне,*
*шкрабаць думкаю, бы ў місе лыжкай,*
*у душы на дне.*

*Раніцай з памкненнем абнаўлення*
*выйсці ў свет, адчуць,*
*колькі навакол бруіць натхнення, —*
*прагна б зачарпнуць!*

*Ды начная «ўзліва» — цяжкім грузам,*
*да ўсяго ж праз крок*
*стрэць жанчыну; з ёю, вольнай музай,*
*збочыць у шынок.*

*І напоўніцу гульбой, застоллем*
*наталіцца з ёй…*
*А пасля стваральніцкім застоем*
*свой назваць запой.*

### Канцэрт моднай спявачкі

*Не ўслухаўся як след — мне нехта скажа,*
*ды ў тым віна яе, а не мая,*
*што апрача мелодыкі вісюлек, спражак*
*і рытмікі грудзей, і ног, і ляжак —*
*нічога не запомніў я!*

### Каханне

*Яна пакахала яго назаўжды;*
*яго засланяла ад смутку, нуды,*
*яму адкрывала сады-гарады,*
*на стол выстаўляла сыры ды мяды,*
*ільды расплаўляла… Зачах ён тады,*
*яго хмыз на балоце — ад лішку вады.*

### Інтым

*Здрок*
*пёк?*
*Сок*
*цёк?..*
*Змрок.*
*Крок.*

*Бок —*
*торк.*
*Ток!*
*Блок*
*шчок.*
*Войк…*

*Змоўк.*
*Змок*
*шоўк.*
*Цок-*
*цок…*
*Шчоўк!*

* * *

*Ты такая ж гуллівая, звонкая,*
*ты страляеш вачыма-пярсцёнкамі,*
*зноў цікуеш-палюеш двурушна,*
*набліжаешся, дыхаеш душна.*
*Згінь, міні! Рук вянковасць твая —*
*усё тая ж, з атрутай, змяя.*

*Ты з натоўпу выюрваеш, слізкая,*
*і луска твайго ўбору паблісквае,*
*цела множыць тым болей спакусу,*
*што я выжыў той раз ад укусу.*
*Што ж, вось рукі — зарука, што я*
*гэтым разам твой выдушу яд!*

### Акселерат

**(З матываў Жака Прэвера)**

*Тушку зайца бацька прынёс:*
*— Сын, яго воўк задраў*
*між прысыпаных снегам траў,*
*я адабраць не паспеў, не лёс! —*
*і ў шафу стрэльбу схаваў.*

*І ялінку, як Дзед Мароз,*
*тут жа ўнёс і агні запаліў:*
*— Сам лясун яе падарыў! —*
*а сякеру ўткнуў пад памост,*
*ад сына яе ўтаіў.*

*Сыну кроплю наліў пад тост.*
*— Ты скажы мне тут, за сталом:*
*станеш кім, як пакінеш дом?*
*Той шчыра сказаў, наўпрост :*
*— Браканьерам і махляром.*

### Дабро

*Я ўкінуў рыбінку ў ваду*
*(яна на беразе трымцела*
*пасля паводкі адлюцелай)*
*і рады быў: адвёў бяду.*

*Глядзеў усцешна на раку,*
*на люстрадзь з рыбінкай лядашчай,*
*пакуль хтось боўць! — і кляцнуў пашчай:*
*зрабіў дабро я шчупаку…*

### Павадыр сабакі

*У горадзе патроху вечарэе,*
*бы шчэццю, колецца іглісты дождж.*
*Цыбаты дог, што на тугу хварэе,*
*уткнуўся ў мокры, набрынялы клёш.*

*Гадаюць людзі: выгналі сабаку*
*або з кватэры выслалі дзядка —*
*вунь налягае целам на кульбаку,*
*кляне ў душы кароткасць павадка?*

*Яны абодвум ім даюць дарогу,*
*каб незнарок за кій не зачапіць*
*і не ўцвяліць сабакі; дзеці догу*
*бягуць халвы і пернікаў купіць.*

*Не хоча ён, і дзед разводзіць рукі:*
*маўляў, не трэба — есць і так за трох.*
*А дзецюкі рагочуць, што без сукі,*
*няйнакш, нудзьгуе вышкалены дог.*

*Стары іх выслухоўвае спакойна*
*ды месяць зноў асеннюю куццю,*
*пакуль нявестка ву-у-нь з таго балкона*
*і догу, і яму гукне: «Цю-цю!»*

### Звычаёвае

*Можа так быць: стане мляўка,*
*сэрца ўсхліпне, дых саб'е,*
*і ў шкадобе возьме лаўка*
*на калені да сябе.*

*Непрытомны, не прачнуся,*
*а на золку нехта мне,*
*поўны сілы: — Дзед, пасунься, —*
*буркне і на дол спіхне.*

### Эпітафія музейнаму імю

*Быў славалюбам гэты словасей:*
*што ўладнікі прасілі, тое сеяў.*
*Сам, пры жыцці, стварыў сабе музей —*
*найслынны з ненаведвальных музеяў.*

* * *

*У куколлі паэзіі вышукаў зернейка,*
*з пырніку прозы выцягнуў парастак,*
*са стручкоў эсэістыкі*
*вылушчыў кулю…*
*Зноўку падаўся з нівы сучаснай*
*на забыты папар папярэднікаў.*
*Стаяў там юнак са жменяй насення,*
*здольнага прарастаць і ў пустыні.*
*«Чаму вы адзін?» — зноў ён спытаўся.*

# Танцы над горадам
## (Фрагменты аповесці)



Уладзімер АРЛОЎ

**1**

Я прачынаюся — нібыта вынырваю з утульнай зялёнае глыбіні — і не магу ўцяміць, чаму я, цалкам апрануты, сяджу на лавачцы ў нашым двары. Навокал цёплая травеньская ноч і — неверагодная цішыня, што пахне зацвілым белым бэзам. Мама трасе мяне за плечы, ейныя вусны варушацца, ды я нічога не чую, усё адбываецца, як у нямым кіно. І раптам, быццам з вушэй выліваецца вада, пакрысе вяртаецца слых. У зарасніку бэзу шамаціць ветрык, з боку вакзала азываецца цягнік...

У цішыню ўрываецца мамін голас. Сынок, сыночак, куды ты сабраўся? — скрозь слёзы паўтарае мама. Яна ўжо не трасе мяне, а гладзіць па галаве. Мама ў сваім улюбёным бэзавым швэдры. Побач у сіняй начной піжаме — тата.

Мяне вядуць за руку дадому. Я сам распранаюся і кладуся ў ложак. Тата перацягвае з бацькоўскае спальні раскладны зялёны фатэль, на якім сцеле сабе пасцель мама. Яна больш не плача і не пытаецца, куды я сабраўся, але, каб і пыталася, гэта не мела б ніякага сэнсу. Я нікуды не збіраўся і ані не разумею, як выйшаў з кватэры і апынуўся на лавачцы. Аднак мне зусім нястрашна. Начное здарэнне нагадвае казку з зачараванымі героямі, што могуць знячэўку заснуць і расплюшчыць вочы праз цэлы год або легчы ў ложак у беднай хаціне, каб ачуцца раніцой у каралеўскім палацы.

Хтосьці ўва мне не пагаджаецца: верыць у казкі шасцікласніку пазнавата. Пад падушкаю ляжаць амаль дачытаныя «Марсіянскія хронікі» Рэя Брэдбэры, і я ўсцешана параўноўваю сябе з таямнічым хлопчыкам, які ўначы стукаецца ў дзверы зямных каланістаў.

У вокны просіцца світанак. Ківач старадаўняга насценнага гадзінніка адлічвае апошнія хвіліны перад пятай гадзінаю. Нават не адлічвае, а асцярожна адразае іх двума круглымі лёзамі ад невідочнай крышталёвай прасторы часу, і яны, хвіліны, падаюць на паркет з ціхуткім меладычным звонам, што здольны пачуць адно я.

**2**

Назаўтра прыгоды працягваліся.

Тата ўсё разумеў, але забраў мяне з урокаў, і мы на яго службовай пракурорскай «Волзе» паехалі да «спецыяліста». Калі машына не спынілася каля дзіцячай палiклінікі, а павярнула да будынку са старасвецкае чырвонае цэглы, дзе на Верхнім замку месціўся «дарослы» шпіталь, я проста ўспеніўся самапавагаю і нагадаў самому сабе кубак, у які мама налівала мне на сняданак гарачае малако.

Мама чакала пры белых дзвярах з габрэйскім прозвішчам на блакітнай таблічцы. Бацькі непахісна верылі, што найлепшыя дактары, прынамсі, у нашым горадзе — габрэі.

«Спецыяліст» запрасіў спачатку аднаго мяне. Ён застаўся ў памяці найперш акулярамі і чамусьці зусім не нагадваў вясёлых, чарнявых і рудых суседзяў-габрэяў з таго раёну прыватнай забудовы, адкуль мы нядаўна пераехалі ў чатырохпавярховы дом, збудаваны пасля вайны палоннымі немцамі. Дом з высокімі столямі і такімі ж высокімі цяжкімі дзвярыма, з парадным уваходам і шырокімі лесвіцамі ды прасторнымі кватэрнымі пляцоўкамі, дзе цудоўна гулялася ў «хованкі» і можна было цэлы вечар удала ратавацца ад «вадзілы» — гаротніка, якому выпала доля з завязанымі вачыма паляваць на астатніх.

Гаворка пра «хованкі» зайшла невыпадкова: доктар цікавіўся маімі ўлюбёнымі гульнямі і, пачуўшы пра «хованкі», адразу страпянуўся і ўзяўся штосьці занатоўваць. Яму карцела даведацца, у які час мы гуляем, ці ёсць сярод нас дзяўчаткі і ці даспадобы мне быць тым самым «вадзілам» з завязанымі вачыма. Гулялі мы пераважна ўвечары, дзяўчатак хапала, а соўгацца па пад'ездзе з растапыранымі рукамі і прыслухоўвацца да нечага стоенага дыхання, каб маланкаю кінуцца ў той бок, мне ніколі не падабалася. Пра ўсё гэта я сумленна і паведаміў доктару. Таго мой адказ відавочна расчараваў, і, пашкрабаўшы пальцам скронь, ён вырашыў высветліць, ці часта мне сняцца сны і ці добра я памятаю прыснёнае.

Гэты допыт хутка надакучыў, і я вырашыў шыфравацца, адказваючы як мага карацей. Пагатоў, ішлося пра рэчы, якія належалі да таямніцаў. Нават сябру Артуру ці папросту Арціку з трынаццатай кватэры я не прызнаваўся, што кружляю ў сне вакол вежаў Сафійскага сабору, а бывае, наадварот, спускаюся вельмі нізка і разам з чайкамі імкліва пралятаю над дзвінскаю плынню. Аднойчы мне пашанцавала выхапіць з вады акунька, якога я, аднак, не праглынуў, а выпусціў назад у родную стыхію, прычым, прачнуўшыся, так і не ўзгадаў, як злавіў рыбку — птушынай дзюбаю або чалавечай рукой.

Доктар пачуў, што сны ягоны пацыент бачыць надзіва рэдка і нічога з іх не памятае. А мо ўсё ж нешта ўзгадаецца, бо тое вельмі важна? Добра, сказаў я і на хаду прыдумаў, што ездзіў у сне на жырафе, а потым,ператварыўшыся ў мядзведзя, зрабіў засаду ў малінніку, каб дачакацца, пакуль дзяўчаткі назбіраюць поўныя кошыкі.

Гаспадар кабінета прыўзняў акуляры і, уважліва гледзячы мне ў вочы, папрасіў працягваць. І тут я, сам не ведаю чаму, мусіць, патрапіўшы пад гіпноз ягонага позірку, прызнаўся, што бачыў у сне аднакласніцу Сіму. І як яна табе снілася?— унікліва запытаў доктар. Голай, — шчыра адказаў я. Ён заззяў і падняў угору ўказальны палец. Здалося, тое самае зрабілі і два барадатыя партрэты на сценах. А іншыя голыя... дзяўчаткі табе сняцца? Бліснула здагадка: ён хацеў запытацца і пра дарослых жанчын, аднак не ўдакладніў, і я з чыстым сумленнем мог прамаўчаць пра сон, дзе гуляў у футбол з голай настаўніцай біялогіі.

Акуляры цікавіла таксама, якія кнігі я люблю чытаць. Адказ быў імгненна гатовы: падручнікі для сёмага класу. Доктар зноў утаропіўся ў мае вочы. Што я чытаў учора перад сном? Гэтым разам з гіпнозам у яго не атрымалася. Падручнік па геаграфіі, абвясціў я, увайшоўшы ў змову з Рэем Брэдбэры.

Назваўшы мяне «маладым чалавекам», доктар папрасіў пачакаць у калідоры і запусціў у кабінет бацькоў. Мама няшчыльна зачыніла дзверы, і, як пішуць у кніжках, я ператварыўся ў слых.

Пачуць удалося вобмаль. Спярша ў маміным выкананні я выслухаў добра знаёмую гісторыю. Я-маленькі не баяўся цемры, смела заходзіў у цёмны пакой, зачыняўся і доўга глядзеў на неба. З'явіўшыся пасля астранамічных назіранняў перад бацькамі, я — бо толькі нядаўна загаварыў — быў лаканічным: Я і месяц! Калі месяца не было, справаздача мела два варыянты: Я і зоркі! або — Я і неба!

Потым я разабраў, што доктар пацікавіўся, ці не хварэю я на нейкую хваробу на літару «э». Крый Божа! Крый Божа! — спалохана адгукнулася мама. Яны размаўлялі даволі доўга, і да майго слыху данесласся некалькі разоў паўтораные слова — парасце. Было зразумела, каго яно датычыла, але перарастаць самога сябе чамусьці не хацелася.



**3**

Патрэбны цяжкі жоўты том «Дзіцячай энцыклапедыі» называўся «Чалавек». Такіх сур'ёзных кніг у школьнай бібліятэцы дадому не выдавалі, аднак мне як заслужанаму чытачу зрабілі да заўтрашняй раніцы выключэнне.

Уладкаваўшыся за швачнай машынкай і раз-пораз націскаючы ад хвалявання на шырокі понаж, я высветліў: артыкула пра лунацызм няма, але не паспеў засмуціцца, бо раздзел, прысвечаны сну, разгарнуўся акурат на малюнку, які ўмомант заваражыў.

Па гзымсе старадаўняга трохпавярховага будынку на чорным тле ночы спакойна ішоў мужчына ў паліто і цыліндры, а ўнізе, на вузкай брукаванцы, панавау пярэпалах: пасажыры двух экіпажаў разам з мінакамі, закінуўшы галовы, у жаху сачылі за лунацікам. Пра тое, што гэта быў менавіта ён, сведчыў подпіс: «Лунацік не ўсведамляе небяспекі і таму не адчувае страху перад вышынёй».

На той жа старонцы я прагліну ў некалькі дзясяткаў радкоў, якія апавядалі, што лунацызм — рэдкае парушэнне сну, калі чалавек, не прачынаючыся, устае з пасцелі, блукае па доме або падымаецца на дах і дэманструе неверагодны спрыт у рухах.

Пасля гэтага ён вяртаецца ў ложак і ўранні нічога не памятае. Насуперак пашыранаму меркаванню, таямнічы ўплыў месяца тут ні пры чым, бо лунацікі выходзяць на прагулянкі і ў бязмесяцавыя ночы, і пад час дзённага сну, а таму ў навуцы апісаная з'ява называецца самнамбулізмам. Энцыклапедыя раіла ні ў якім разе не палохаць лунаціка, не будзіць яго, а пастарацца асцярожна адвесці назад у ложак. Бацькі таго відавочна не ведалі, але доктар іх, пэўна, ужо адукаваў.

Я адарваўся ад кнігі і перавёў дыханне. За вакном апусціўся вечар, і на небе заззяла зорка Венера. Заставалася даведацца, што начныя блуканні залежаць ад успышак узбуджэння асобных частках заснулага мозгу і могуць быць прыкметаю развіцця эпілепсіі. Вось тая хвароба на «э», пра якую пытаўся доктар!

Што такое эпілепсія, наш клас добра ведаў дзякуючы рыжаму Яшу, якога гэтая хвароба схапіла сёлета на кантрольнай па алгебры. Уявіць сябе на ягоным месцы ані не хацелася, а таму я з велізарнай палёгкаю прачытаў: самнамбулізм паддаецца лекаванню! Успамін пра Яшаў прыпадак не даваў спакою, і на дадатак да блакітных пігулак я на хаду вынайшаў новы сродак лекавання: перад сном буду прывязваць вяровачкай левую руку да білца ложка.

На сон я пачытаў і пра летаргію. Знакаміты расейскі фізіёлаг Паўлаў назіраў хворага, што праспаў дваццаць гадоў. На малюнку дзяўчына, якую везлі на катафалку ў труне, уздымала ейные вечка, разганяючы пахавальную працэсію. Энцыклапедыя суцяшала, што сучасная навука такія выпадкі выключае. Яшчэ больш супакоіла і нават развесяліла фраза з артыкула пра сны: чалавек усю ноч праспаў, а ўранні распавядае, як кагадзе хадзіў на паляванне з людзьмі свайго племені. Хацелася б мне прысніць маё племя.

**4**

У няпісанай гарадской тапаніміі тая спаруда над Дзвіной мела дзве назвы: Гатэль і База. Сваёй загадкавасцю і метафізікай — улюбёнае слоўца нашага настаўніка астраноміі — мне значна больш падабаўся Гатэль. Гатэль, дзе ніхто не жыве... Тут было разгарненне для фантазіі.

Некалі ў тым будынку меліся адкрыць спартовую базу з гатэлем для весляроў і яхтсменаў. З тае прычыны спаруда сапраўды нагадвала карабель: супроць рачной плыні быў павернуты ветразь з арматуры і цёмнага, амаль чорнага шкла, пад якім намагаўся

трымацца на плаву бетонны галёін з палубамі-паверхамі. Мы з Арцікам спрабавалі называць гэты «карабель» Лятучым Галандцам, ды пастанавілі адмовіцца ад рамантычнага наймення. Лятучай лёгкасці там і не начавала: цяжкі шасціпавярховы бетонны кубік меў яшчэ і нізкую груваствую карму. Будоўлю закінулі гады чатыры таму. Ветразь зеўраў шматлікімі квадратамі з выбітым — ці то звонку, ці то знутры — шклом, а зашкліць вокны самому Гатэлю так і не паспелі.

Калісьці там адбылася жахлівая падзея: загінулі хлопец і дзяўчына. Адны лічылі, што яны выпадкова сарваліся з высачыні, другія — што скончылі жыццё самагубствам, трэція сцвярджалі, нібыта з гатэльнага даху іх хтосьці скінуў. Следства, казаў тата, скончылася нічым. Што б тады ні здарылася, але ўдзень Гатэль, які чакаў лепшых часін за пакінутым будаўнікамі высокім плотам, нязменна выклікаў у душы лёгкую трывогу, што, праўда, не палохала, а, наадварот, вабіла. Мы з Артурам некалькі разоў даследвалі тыя мясціны, і кожная такая выправа пакідала адчуванне дотыку да таямніцы.

Вакол пацямнелага ад дажджоў дашчанага плоту буяў бур'ян і гусцелі астраўкі вербалозу. Утравелая дарога падводзіла да забітай крыж-накрыж брамы і, ператвараючыся ў сцежку, паварочвала направа. Сцежка пакрысе рабілася больш зарослай, аднак знаходзіла сілы абабегчы ўсю згароду і, амаль зніцеўшы, вярнуцца да брамы. Калі, абдзіраючы рукі і ногі, мы пералазілі плот з боку ракі, то апыналіся ў тыле колішняй будаўнічай пляцоўкі, дзе ацалеў лапік поплава з высокай травой і дываном красак — смолак, зязюльчыных слёзак, званочкаў, піжмы, белага і жоўтага донніку, мышынага гарошку... — за веданне ўсіх гэтых назваў я ўдзячны сваёй бабулі.

Вядома, у тых рызыкоўных вылазках мы з Арцікам спрабавалі патрапіць і ў сам Гатэль. Але ўсе пяць ягоных дзвярэй заўсёды стаялі замкнёныя, а з замочных адтулін тырчэла пакулле. Ніхто не ведаў, што магло чакаць за тымі дзвярыма, і надыходзіў момант, калі ўзнікала адчуванне, быццам нехта спрабуе адчыніць дзверы і з таго боку. Тады мы, не згаворваючыся, адступалі да плоту і адно за ім адважваліся кінуць праз шчыліну позірк назад. Усе ўваходы па-ранейшаму былі зачыненыя, ды, здавалася, адтуль за намі таксама хтосьці назірае.

**5**

Я ведаў, гэта не сон і абсалютна ўсё памятаў і разумеў, хоць усведамленне таго, што дзеецца, прыходзіла з пэўным адставаннем, паступова праяўляючыся на экране свядомасці. Апынуўшыся на двары, я ўспамінаў, як ціхутка зачыняў дзверы і спускаўся па лесвіцы. Прамінуўшы арку і ступіўшы на вулічны ходнік, «бачыў», як пераходжу начны двор. Пакінуўшы за спінай даўно зачынены касцёл і павярнуўшы на закінутую дарогу да Гатэлю, я запознена сустракаўся позіркам са святымі Пётрам і Паўлам, скульптуры якіх свіціліся на франтоне, але не маглі нікога багаславіць, бо ў кожнага хтосьці рупліва адбіў правую руку.

Сам паварот за мураванай касцельнай агароджаю «даганяў» мяне ўжо на закінутай дарозе, што ад часу нашых з Артурам адважных экспедыцый зарасла не толькі травою, а сямтам і хмызняком. Аднак прамежкі паміж маімі дзеяннямі ды іхняй «трансляцыяй» хутка скарачаліся. За плотам яны канчаткова зніклі, і я, можна сказаць, супадаў з самім сабой.

Плот пераадольваўся там, дзе і калісьці, а падцягвацца і пералазіць цераз яго не было патрэбы: праз колькі крокаў ад выспы вербалозу, падобнай здалёк на велізарнага вожыка, шырокая дошка трымалася ўсяго на адным верхнім цвіку і лёгка адыходзіла ўбок. Адтуль ледзь прыкметная сцяжынка — дакладней, намёк на яе — наўпрост вяла да самых непрыкметных гатэльных дзвярэй. Яны, як і астатнія, былі на замку, ды адчыняліся і зачыняліся звычайным цвіком з расплясканай галоўкай. Яго дастаткова было павольна павярнуць тры, а часам і два разы. Кожны меў уласны такі ключ, прычым я не мог прыгадаць, ад каго і калі яго атрымаў.

Дзверы, найверагодней, павінны былі служыць чорным ходам, які праз дзясятак прыступак выводзіў у шырокую прастору першага паверху, дзе, відаць, меркавалася зрабіць рэстарацыю або канферэнц-залу. Два бетонныя маршы і сорак восем засыпаных бітым шклом і тынкам прыступак вялі на другі паверх. Потым лесвічныя пралёты рабіліся карацейшыя, і паміж паверхамі заставалася па трыццаць прыступак, што аўтаматычна адлічваліся ў паўзмроку. На кожным паверсе на два бакі разыходзіліся кароткія цёмныя калідоры з прахонамі для дзвярэй гатэльных нумароў. Аднаго разу тарганулася жаданне прайсці па калідоры. Я зрабіў колькі крокаў, але прыцемак наперадзе адразу згусціўся, папярэджваючы, што мне туды не трэба.

Мне трэба было на шосты паверх, адкуль заставаліся апошнія прыступкі да выйсця ў зорнае неба.

**6**

Мы ішлі па адным і ніколі не сустракаліся, бо кожны меў свой маршрут, ды часам, ужо на закінутай дарозе да Гатэлю, я мог знячэўку ўбачыць наперадзе невысокую, вузкаплечую і трохі нехлямяжую постаць Настаўніка, які рухаўся, здавалася, нейкімі рыўкамі — то павольна, то паскараючы крок. За ім, крыху воддаль, нязменна ішла Гімнастка. Маленькая танклявая, але налітая сілай, яна, наадварот, крочыла рытмічна і лёгка, так, быццам пад ступачкамі ў яе былі схаваныя спружынкі, што падкідвалі цела над зямлёй. Юная зорка спартыўнай гімнастыкі, як называла яе гарадская газета, вучылася ў восьмым класе суседняй школы. Я запамятаваў, дый не хацеў узгадваць ейнага імя, бо яно магло парушыць загадкавы баланс таго, што з намі адбывалася.

Наогул у тыя імгненні не думалася ні пра яе зорнасць, ні пра нехлямяжасць Настаўніка. Мяне апаноўвала невыказная радасць: я — не самотны, мы ідзем, мы — разам, мы падымемся па прыступках і выйдзем на дах, дзе сустрэнем астатніх. Магчыма, азірнуўшыся, я мог бы ўбачыць яшчэ кагосьці з нашага маленькага брацтва, аднак ніколі не рабіў гэтага: хапала і той радасці, што перадавала сваю вібрацыю кожнай часцінцы маёй істоты.

Мы збіраліся ў розным парадку, але Залацістая і Котка кожнага разу ўжо былі там. Яны ж і заставаліся апошнімі — нібыта й жылі на даху або недзе ў нетрах Гатэлю, хоць такая версія мне не надта падабалася. Залацістая звычайна сядзела на краі люка, у які звісалі яе босыя ногі, а Котка вітала нас, збягаючы насустрач па прыступках да шостага паверху, затым паважна, быццам паказваючы дарогу, ішла наперадзе да лесвіцы ў неба, перад якою прасілася на рукі, каб цёплым вуркатлівым камячком аддана прытуліцца да грудзей. Найпазней з'яўлялася Кіяскёрка — як неўзабаве стала вядома, яна ішла з нябліжкага Зарэчча.

З прыходам кожнага пачуццё еднасці мацнела. Заўсёды шчаслівыя адно ідыёты, але ж чалавеку выпадаюць шчаслівыя хвіліны, гадзіны, дні. Той час на даху ўкрай поўніўся шчасцем.

Чакаючы, пакуль усе будуць у зборы, Гімнастка, здаралася, успамінала, што яна — гімнастка: выходзіла на сярэдзіну даху ды, палохаючы ластавак, якія гэтаксама лічылі дах сваім, пачынала круціць сальта за сальтам, лёгка пераляталючы вентыляцыйныя калодзежы і часам вiдочна пакідаючы межы нашага прастакутніка, ды ў апошні момант паспяваючы згрупавацца і мякка прызямліцца на самюткі край. Чамусьці ні я, ні, думаю, ніхто іншы не адчуваў страху за яе, толькі Котка пасля такіх рызыкоўных вылетаў падыходзіла і цёрлася аб ногі з рэльефнымі цяглічцамі — можа, дзякуючы за пабачаную віхуру скачкоў, а можа — за тое, што Гімнастка вырашыла застацца тут, з намі.

**7**

Цяпер ведаю, я не проста належаў да меншасці, якая, абуджаючыся, памятае свае дзеянні, але і сярод яе быў анамаліяй, бо выразна бачыў ці, прынамсі, меў перакананне: мне на яве дадзена бачыць усё адбытае. Поўнай упэўненасці ў мяне няма, бо па дарозе дадому зноў пачыналіся затрымкі ва ўспрыманні рэчаіснасці, і тое, як я адмыкаў дзверы і рабіў з вітальні тры крокі да свайго пакою, праяўлялася ўжо тады, калі я нацягваў на сябе коўдру.

Аднак існавалі і невытлумачальныя прагалы. Напрыклад, немагчыма ўспомніць, як перадольвалася адлегласць ад пляцоўкі паміж чацвёртым і пятым паверхамі Гатэлю і пляцоўкаю шостага. Наяўнасць паміж гэтымі пляцоўкамі двух маршаў і трыццаці прыступак я сцвярджаю ўсяго паводле аналогіі.

З памяці амаль сцёрлася і тое, у што мы былі апранутыя. Амаль — бо здалёк усё ж свеціцца нечы «чмяліны», у чорную і залацістую палоскі, швэдрык, пад якім нагадваюць пра сябе жаночыя грудзі.

Затое аблічча кожнага з нашага брацтва — перада мною, усё роўна як гэта дзеялася ўчора, хоць яны, аблічы, і падсвечаныя праз далечыню гадоў маім сённяшнім успрыманнем.

Настаўнік не можа пахваліцца ростам, але ўвесь якісьці светлы, і таму выдае вышэйшым. Малады і адкрыты, нязменна чыста выгалены і крыху здзіўлены твар. На лоб спадае густая пасма ячменных валасоў, ды ён не ўдаецца схаваць вялікай радзімай плямы, пра якую я ў тыя дні яшчэ не думаў, што яна падобная да зоркі. Вочы за акулярамі ў тонкай аправе глыбокія і сур'ёзныя і разам з тым — безабаронныя.

Смуглявая, каравокая Гімнастка з тонкай таліяй і каротка каштанавай касой. У яе ўсё невялікае і зграбнае — вушкі, задзірлівы нос, пальчыкі на выштукаваных руках, бездакорныя ступачкі...

У Залацістай не толькі кучаравыя валасы гэтага колеру, ейнае цела — абрыкосавае і злёгку свеціцца. Потым звяртаеш увагу на месяцападобны твар з зялёнымі вачыма пад доўгімі, як крылцы матылька, вейкамі. Яна трымае правае плячо крыху вышэй за левае, ногі не зусім дасканалыя, але затое — неверагодна прыгожыя рукі з доўгімі пальцамі і раптоўна тонкімі запясцямі! Уся гэтая вонкавая несуладнасць выглядае па-асабліваму гарманічна.

(Тады я не ведаў, аднак адчуваў, што «прыгажосць» не ёсць прыгажосць, а недасканаласць можа быць прыкметаю якраз дасканаласці.) Аблічча Залацістай цудоўна дапаўняе няўлоўнасць яе гадоў: ёй можна даць дваццаць пяць, а праз хвіліну — удвая болей. Яна проста не мае ўзросту.

Кіяскёрка — самая рослая з нас, ці не на паўгалавы вышэйшая ад мяне, з навальнічнаю хмараю чорных з сінім адлівам валасоў і вузкім авалам твару, які цяжка назваць прывабным, ды сітуацыю ратуюць вялікія вочы, што — у залежнасці ад асвятлення — мяняюць колер ад аксамітава-чорных да валошкавых і раз-пораз успыхваюць бурштынавымі агеньчыкамі. Яе доўгія стройныя ногі пераходзяць у высокія клубы і адначасова нібыта дасягаюць і спакуслівых грудзей, трымаючы іх на жывой зваблівай кансолі. Я, зрэшты, як і сёння, не адмыслоўца ў вызначэнні жаночага веку, але Кіяскёрка здаецца ўдвая старэйшай за мяне.

Не магу нічога сказаць пра галасы, бо мы ніколі не размаўлялі: нам ставала моўкнасці, кожны, як і я сам, відаць, кіраваўся тут унутранай забаронаю, парушыўшы якую мы рызыкавалі б разбурыць нашае брацтва. Праз гэта я не ведаў і імёнаў, апрача, вядома, імя і голасу Настаўніка — вы ўжо ведаеце, ён выкладаў у нас астраномію і любіў уштукаваць у расповед пра сузор'і і планеты сваю ўлюбёную «метафізіку». Але я быў пэўны: у яго ёсць іншае імя.

І — Котка.

Яна не належала да экзатычнай пароды — звычайная трохколерная рыска, аднак з неверагодна даўгім хвастом, што, закінуты на спінку, даставаў да вушак. Я не памыляюся, бо там, на лесвіцы, браў нашую сяброўку на рукі, і далей мы падымаліся разам. Яна пакусвала мяне за мезенец левай рукі, а правай я пагладжваў яе па асабліва чуйным падчарэўцы. Там у Коткі з правага боку была круглая ружовая плямка без поўсці, усё роўна як хтосьці прыклаў на міг распаленую жалезную пячатку. Ад маіх ласак Котка шчасліва вуркатала, але, калі пальцы краналіся плямкі, ейная істота здрыганалася і мая трапяткая спадарожніца амаль па-чалавечаму ўскрыквала.

Котка была адзінай, хто падаваў голас. У астатнім яна ўспрымалася намі як раўня, хоць не мела ключа ад уваходных дзвярэй. Ды хто ведае...

**25 жніўня 2015**

**Цалкам аповесць Уладзімера Арлова чытайце ў снежаньскім нумары часопіса «Дзеяслоў».**



Фота Алеся Аркуша

# Рытуал Масгрэйваў



Артур КОНАН ДОЙЛ

У характары майго сябра Шэрлака Холмса мяне заўсёды здзіўляла адна непаслядоўнасць: хаця ў яго быў самы адпрацаваны і метадычны спосаб мыслення ў свеце, хаця ён аддаваў перавагу сціпламу і строгаму стылю адзення, ва ўсіх астатніх звычках ён быў чалавекам неахайным, які мог давесці да вар'яцтва любога суседа. Я сам у гэтым плане не такі ўжо традыцыяналіст. Бязладная праца ў Афганістане ўзмацніла маю схільнасць да неўпарадкаванага ладу жыцця і зрабіла мяне больш абыякавым да чысціні, чым належыць доктару. Але ўсё мае межы, і калі я бачу чалавека, які захоўвае цыгары ў вядзерцы для вугалю, тытунь — у мыску персідскай пантофлі, а лісты, на якія яшчэ не адказаў, прышпільвае сцізорыкам да цэнтру камiннай дошкі, то адчуваю сябе надзвычай акуратным чалавекам. Яшчэ я заўсёды трымаўся меркавання, што ў стральбе варта практыкавацца выключна на свежым паветры, і калі Холмс у адным са сваіх дзівакаватых настрояў сядае ў фатэль, бярэ рэвальвер, сто патронаў Боксера* і пачынае ўпрыгожваць процілеглую сцяну дзірачкамі ад куляў, што ўтвараюць патрыятычныя ініцыялы V.R., я вельмі сумняюся, што гэта ідзе на карысць атмасферы ці выгляду нашага пакоя.

Тут заўсёды стаяла мноства хімікатаў і нейкіх крымінальных рэліквіяў, якія часта блукалі ў прасторы і апыналіся ў самых неверагодных месцах — у найлепшым выпадку, знаходзіліся ў масленіцы. Але самым жахам былі яго паперы. Ён проста панічна баяўся знішчаць дакументы, асабліва звязаныя з яго мінулымі справамі, але толькі раз на год ці два збіраўся з сіламі і прыводзіў іх у парадак, бо, як я згадваў дзесьці ў гэтых бязладных нататках, выбухі яго неўтаймоўнай энергіі, калі ён рабіў тыя неймаверныя цуды, што праславілі яго імя, чаргаваліся з перыядамі апатыі, і тады ён лянiва валяўся з кнігамі ці скрыпкай, не адыходзячы ад канапы далей за стол. А таму месяц за месяцам паперы збіраліся, пакуль кожны кут не загрувашчваўся пачкамі рукапісаў, якія нізашто нельга было спаліць ці перасунуць без спецыяльных распараджэнняў іх уласніка.

Аднаго зімовага вечару мы разам сядзелі ля каміна, і я насмеліўся намякнуць Холмсу, што, калі ён закончыў уклейваць у блакнот аркушы з асобнымі нататкамі, наступныя дзве гадзіны варта прысвяціць таму, каб ператварыць наш бярлог у нешта больш падобнае да жытла. Ён не мог не прызнаць маю просьбу справядлівай і з кіслым тварам адправіўся ў сваю спальню, адкуль хутка выцягнуў вялікую бляшаную скрыню. Паставіўшы яе ў сярэдзіне пакоя і прысеўшы побач на зэдліку, ён адкінуў века, і я ўбачыў, што скрыня на траціну запоўненая паперамі, перавязанымі чырвонай стужкай і раздзеленымі на асобныя пакункі.

— Тут нямала справаў, Ўотсан, — сказаў ён, гарэзліва гледзячы на мяне. — Калі б вы ведалі ўсё, што я хаваю ў гэтай скрыні, вы папрасілі б адтуль нешта дастаць, замест таго каб хаваць туды новыя дакументы.

— Дык гэта справаздачы па вашых ранніх справах? — пацікавіўся я. — Даўно хацеў здабыць запісы тых часоў.

— Так, мой сябра, усе яны зробленыя яшчэ да таго, як мой біёграф праславіў мяне, — ён асцярожна і вельмі пяшчотна даставаў са скрыні пакунак за пакункам. — Не ўсе яны былі паспяховыя, Ўотсан. Але сярод іх хапае досыць займальных задачак. Вось запісы пра забойцаў Тарлетана, а вось — пра справу Вамберы, гандляра віном, і пра прыгоду старой рускай жанчыны, і яшчэ пра алюмініевую мыліцу, вось поўная справаздача пра кульгавага Рыкалеці і яго гнюсную жонку. А вось… — о, гэта для сапраўдных знаўцаў!

Ён засунуў руку на самае дно сховішча і выцягнуў драўляную скрынку з высоўнай крышкай — у такой дзеці трымаюць цацкі. Адтуль ён дастаў змяты аркуш, старадаўні масянжовы ключ, драўляны калок з прывязаным да яго маткам і тры заржавелыя металічныя дыскі.

— Ну, сябра, што вы думаеце пра гэты пакунак? — спытаў ён, смеючыся з выразу майго твару.

— Цікавая калекцыя.

— Надзвычай цікавая, а звязаная з ёй гісторыя падасца вам яшчэ цікавейшай.

— Значыць, у гэтых рэчаў ёсць гісторыя?

— Больш за тое, яны і ёсць гісторыя.

— Што вы маеце на ўвазе?

Шэрлак Холмс дастаў рэліквіі адну за адной і выклаў іх на стол. Потым перасеў у фатэль і зіхоткімі ад задавальнення вачыма зноў іх агледзеў.

— Усё гэта я пакінуў на памяць пра справу, звязаную з рытуалам Масгрэйваў, — адказаў ён.

Ён не раз згадваў пра гэтую справу, але я ніколі не мог сабраць дэталі ў адно цэлае.

— Буду рады, калі вы раскажаце пра яе, — сказаў я.

— І пакіну ў пакоі ўсё як ёсць? — гарэзліва пацікавіўся ён. — Вашая ахайнасць, Ўотсан, не вытрымае новых выпрабаванняў. Але мне будзе прыемна, калі вы дадасце гэты выпадак у свой летапіс, бо некаторыя акалічнасці робяць яго ўнікальным у крымінальнай гісторыі не толькі нашай, але і іншых краінаў. Апісанне маіх дробных дасягненняў без гэтай вельмі незвычайнай гісторыі будзе няпоўным.

Вы, пэўна, памятаеце, як справа «Глорыі Скот» і мая размова з няшчасным джэнтльменам, пра якога я вам расказваў, упершыню прымусіла мяне задумацца пра занятак, які зрабіўся цяпер сэнсам майго жыцця. І вось перад вамі я, чыё імя вядомае ўсюды і чыё меркаванне ў сумнеўных справах як грамадскасцю, так і афіцыйнымі ўладамі прызнаецца як найвышэйшы апеляцыйны суд. Нават у раннія часы нашага знаёмства, калі я займаўся справай, якую вы ўганаравалі назвай "Эцюд у пунсовым", я ўжо меў сур'ёзную, хай сабе і не надта прыбытковую практыку. Не думаю, што вы ўяўляеце, як цяжка мне было спачатку і колькі давялося чакаць хоць нейкага поспеху.

Калі я ўпершыню прыехаў у Лондан, я зняў кватэру на Мантэгю-стрыт ля самага Брытанскага музея і чакаў там свайго лёсу, займаючы ўвесь вольны час (а было яго нямала) вывучэннем тых галінаў навукі, якія маглі спатрэбіцца. Час ад часу мне траплялiся нейкія справы, у асноўным дзякуючы знаёмствам старых аднакурснікаў, бо ў апошнія гады майго навучання ва ўніверсітэце пра мяне і мае метады хадзіла мноства чутак. Трэцяя мая справа датычыла рытуалу Масгрэйваў, і цікавасць, якую выклікаў гэты незвычайны ланцуг падзеяў, а таксама папярэджаныя мной сур'ёзныя вынікі аказаліся першымі крокамі да становішча, якое я сёння займаю.

Рэджыналд Масгрэйв вучыўся ў адным каледжы са мной*, і калісьці мы нават былі знаёмыя. Ён не быў сярод студэнтаў асабліва папулярным, хаця яго так званая пыхлівасць здавалася мне не больш чым спробай схаваць празмерную прыродную сарамлівасць. У яго было надзвычай арыстакратычнае аблічча: хударлявая фігура, высакародны нос, вялікія вочы, апатычныя і тым не менш вытанчаныя манеры. Ён сапраўды быў нашчадкам аднаго з найстаражытнейшых родаў каралеўства, хаця і малодшай яго галіны, якая прыкладна ў шаснаццатым стагоддзі аддзялілася ад паўночных Масгрэйваў і атабарылася ў заходнім Сасэксе. Іх маёнтак Харлстан належыць, відаць, да найстарэйшых жылых дамоў графства. Здавалася, што на твары гэтага чалавека адбілася месца яго нараджэння, і калі я глядзеў на яго паставу і бляклы, востры твар, мне адразу ўспаміналіся шэрыя аркады, вокны з папяроччам і ўсе гэтыя паважныя рэшткі феадальнай крэпасці. Раз ці два мы заводзілі размову, і мне прыгадваецца, што ён заўсёды выказваў гарачую цікавасць да маіх метадаў назірання і высноваў.

Я не бачыў яго гады чатыры, пакуль аднаго ранку ён не зайшоў у мой пакой на Мантэгю-стрыт. Ён амаль не змяніўся і быў апрануты як малады свецкі леў — зрэшты, дэндзі ён быў заўсёды — і захоўваў усё тыя ж спакойныя і далікатныя манеры, якімі вылучаўся і раней.

— Як маецеся, Масгрэйв? — спытаў я, сардэчна пацiснуўшы яму руку.

— Магчыма, вы чулі пра смерць майго беднага бацькі, — адказаў ён. — Гэта здарылася два гады таму, і мне, безумоўна, давялося стаць на чале маёнтка Харлстан. Апроч гэтага, я яшчэ і дэпутат ад сваёй акругі, а таму жыццё маё вельмі насычанае. Як я разумею, вы, Холмс, вырашылі прымяняць здольнасці, якімі так нас уражвалі, на практыцы?

— Але, — адказаў я. — Зарабляю розумам на жыццё.

— Рады гэта чуць, бо цяпер мне неабходная вашая парада. У нас у Харлсане адбылося нешта вельмі дзіўнае, і паліцыя не змагла праліць на гэта святло. Усё так незвычайна і не паддаецца тлумачэнню…

Можаце сабе ўявіць, Ўотсан, з якім запалам я слухаў яго, бо мне ўрэшце быў дадзены шанец, якога я з трымценнем чакаў доўгія месяцы бяздзеяння. У глыбіні душы я верыў, што магу дасягнуць поспеху там, дзе іншыя пацярпелі паразу, і цяпер мог сябе праверыць.

— Прашу вас, раскажыце падрабязней! — усклікнуў я.

Рэджыналд Масгрэйв сеў насупраць мяне і закурыў прапанаваную цыгарэту.

— Вы мусіце ведаць, — пачаў ён, — што хоць я і халасцяк, але ўсё адно павінны трымаць у Харлстане вялікі штат прыслугі, бо стары маёнтак пабудаваны досыць неахайна і патрабуе сур'ёзнага догляду. Апроч гэтага ў мяне ёсць запаведнік, і ў сезон палявання на фазанаў* прыязджае шмат гасцей, што таксама патрабуе вялікай колькасці слуг. Усяго я трымаю восем пакаёвак, кухара, дварэцкага, двух лёкаяў і хлопчыка-пасыльнага. І, безумоўна, свой штат наймаецца для саду і стайняў.

Даўжэй за астатніх у нас служыць Брантан, дварэцкі. Калі бацька наняў яго, Брантан быў маладым школьным настаўнікам без працы, але ўжо тады чалавекам вялікай энергіі і моцнага характару. Хутка ён праявіў сябе як бясцэнны працаўнік. Гэта высокі прывабны мужчына з цудоўнай галавой, і хаця ён праслужыў у нас дваццаць гадоў, дагэтуль выглядае на сорак. Неверагодна, што з усімі сваімі якасцямі і надзвычайнымі талентамі — а ён ведае некалькі моваў і грае ледзь не на любым музычным інструменце — ён ужо столькі часу задаволены сваім становішчам. Думаю, яму ў нас утульна, а можа, не стае сілаў штосьці змяніць. У любым разе харлстанскі дварэцкі западае ў душу кожнаму нашаму наведніку.

Але і ў гэтай дасканаласці ёсць недахоп. Ён трошкі донжуан, і вы можаце ўявіць, з якой лёгкасцю можа граць гэтую ролю ў ціхай вясковай акрузе. Пакуль ён быў жанаты, усё было добра, але цяпер, калі ён аўдавеў, нашым праблемам не бачна канца. Некалькі месяцаў таму мы пачалі ўжо спадзявацца, што ён зноў супакоіцца: Брантан заручыўся з малодшай пакаёўкай Рэйчэл Хоўэлс. Але ён кінуў яе і сышоўся з Джэнет Трэджэліс, дачкой старшага егера. Рэйчэл — цудоўная дзяўчына, але вельмі ўражлівая, як любая іншая валійка*. Яна моцна захварэла на запаленне мозгу і цяпер ходзіць па доме — дакладней, хадзіла да ўчарашняга дня — як цень з чорнымі кругамі пад вачыма. Такой была першая харлстанская драма, але яе сцерла з нашых успамінаў другая, якой папярэднічала ганьба і звальненне дварэцкага Брантана.

Вось як гэта адбылося. Я казаў ужо, што ён разумны чалавек, і менавіта розум зрабіўся прычынай яго ганебнага выгнання, бо ў ім абудзілася прагная цікавасць да таго, што яго зусім не датычыць. Я не ўяўляў, як далёка ён можа зайсці, пакуль выпадак не адкрыў мне вочы.

Я згадваў, што маёнтак пабудаваны неахайна. Неяк на мінулым тыдні — калі дакладна, вечарам у чацвер — я зразумеў, што не магу заснуць, бо бяздумна выпіў пасля абеду кубак моцнай чорнай кавы. Пазмагаўшыся гадзіну да дзвюх з бяссоннем, я адчуў, што высілкі марныя, а таму падняўся, запаліў свечку і ўжо сабраўся вярнуцца да рамана, які чытаў удзень. Аднак кніга засталася ў більярднай, таму я накінуў халат і адправіўся ўніз.

Каб дабрацца да більярднай, я мусіў спусціцца на адзін лесвічны пралёт і перасячы калідор, які вёў у бібліятэку і збройню. Уявіце маё здзіўленне, калі я ўбачыў у калідоры бляклае святло, якое ішло з адчыненых дзвярэй бібліятэкі. А я перад сном уласнымі рукамі пагасіў там лямпу і зачыніў дзверы! Спачатку я, канечне, падумаў пра рабаўнікоў. Сцены харлстанскіх калідораў багата ўпрыгожаныя ваеннымі трафеямі — старадаўняй зброяй. А таму, паставіўшы свечку на падлогу, я зняў са сцяны алебарду, на дыбачках падабраўся да бібліятэкі і зазірнуў туды.

У бібліятэцы быў Брантан, дварэцкі. Цалкам апрануты, ён задумена сядзеў у фатэлі, паклаўшы на калені падобны да карты аркуш і падпёршы лоб рукой. Аслупянеўшы ад здзіўлення, я сачыў за ім з цемры. Маленькай свечкі, што стаяла на краі стала і струменіла бляклае святло, мне хапіла, каб заўважыць, што ён не пераапранаўся для сну. Раптам я ўбачыў, як ён падняўся з крэсла, прайшоў да найбліжэйшага бюро, адамкнуў яго і выцягнуў адну з шуфлядаў. Дастаўшы адтуль нейкую паперу, ён вярнуўся да ранейшага месца, у святле свечкі расправіў аркуш і надзвычай уважліва пачаў яго разглядаць. Тут маё абурэнне такім спакойным вывучэннем нашых фамільных дакументаў дайшло да мяжы, я зрабіў крок наперад, і Брантан убачыў мяне ў дзвярах. Пабялеўшы ад страху, ён ускочыў і сунуў запазуху падобны да карты аркуш, які адпачатку разглядаў.

— Дык вось як вы адплацілі мне за давер! — сказаў я. — Вы пакінеце мой дом заўтра.

З выглядам зруйнаванага дашчэнту чалавека ён пакланіўся і маўкліва праслізнуў міма. Свечка засталася на стале, і ў яе святле я зірнуў на паперу, якую Брантан дастаў з бюро. На маё здзіўленне, гэта быў зусім нязначны дакумент, нейкая копія пытанняў і адказаў для аднаго старадаўняга абраду, што называецца рытуалам Масгрэйваў. Штосьці накшталт асаблівай

сямейнай цырымоніі, якую цягам стагоддзяў праходзіць кожны Масгрэйв, дасягнуўшы паўналецця, — апроч нашага роду і, магчыма, археолагаў, рытуал наўрад ці каму цікавы і не мае ніякага практычнага прымянення, як і ўсе нашыя гербы і эмблемы.

— Да гэтай паперы мы вернемся пазней, — сказаў я.

— Калі вы думаеце, што гэта і праўда так важна… — завагаўся ён. — Аднак скончу аповед. Ключом, які пакінуў Брантан, я замкнуў бюро, павярнуўся, каб сысці, і здзівіўся, зноў убачыўшы перад сабой дварэцкага.

— Містэр Масгрэйв! — усклікнуў ён хрыплым ад хвалявання голасам. — Такой ганьбы я не перажыву, сэр! Я заўсёды ганарыўся сваім становішчам, і ганьба мяне заб'е. Мая кроў будзе на вашых руках, сэр, дакладна будзе, калі вы давядзіце мяне да адчаю. Калі вы не можаце пакінуць мяне, Богам малю, дазвольце сысці праз месяц, быццам на маё ўласнае жаданне. Гэта я вытрымаю, містэр Масгрэйв, але не ганебнае звальненне на вачах у тых, каго я добра ведаю.

— Вы не вартыя такога стаўлення, Брантан, — адказаў я. — Ваш учынак абуральны. Але вы доўгі час служылі маёй сям'і, і я не хачу наклікаць на вас публічнае асуджэнне. Аднак месяц — гэта задоўга. Вы з'едзеце праз тыдзень і патлумачыце гэта як вам зажадаецца.

— Усяго праз тыдзень, сэр? — ускрыкнуў ён у адчаі. — Дайце мне хаця б два тыдні!

— Тыдзень, — паўтарыў я, — і лічыце, што да вас паставіліся вельмі паблажліва.

Апусціўшы галаву, ён паплёўся прэч, як паламаны жыццём чалавек, а я пагасіў святло і вярнуўся ў пакой.

Наступныя два дні Брантан надзвычай старанна выконваў усе свае абавязкі. Я не згадваў пра тое, што адбылося ноччу, і з нейкай цікавасцю чакаў, як ён будзе хаваць сваю ганьбу. Аднак на трэці ранак ён не з'явіўся пасля сняданка атрымаць у мяне распараджэнні на дзень. Пакінуўшы сталоўку, я сустрэў Рэйчэл Хоўэлс, пакаёўку. Я ўжо казаў, што яна зусім нядаўна ачуняла пасля хваробы і выглядала надта бледнай і змучанай, а таму быў супраць таго, каб яна адразу вярталася да працы.

— Вам варта яшчэ паляжаць, — сказаў я. — Зоймецеся справай, калі паздаравееце.

Яна дзіўна на мяне паглядзела, і я пачаў падазраваць, што хвароба пашкодзіла яе розум.

— Я ўжо здаровая, містэр Масгрэйв, — адказала яна.

— Паглядзім, што скажа доктар, — запярэчыў я. — А цяпер кідайце працу, а калі спусціцеся ўніз, скажыце заадно Брантану, што я хачу яго бачыць.

— Дварэцкі знік, — сказала яна.

— Знік? Куды?

— Проста знік. Ніхто яго не бачыў. Яго пакой пусты. Ён знік, зусім знік!

Яна адступіла да сцяны і выбухнула смехам, што перамяжоўваўся з крыкамі, і я, спалоханы гэтым раптоўным істэрычным прыпадкам, кінуўся да званка, каб паклікаць на дапамогу. Хутка дзяўчыну, якая ўсё яшчэ крычала і румзала, адвялі ў яе пакой, а я пачаў распытваць пра Брантана. Сумневаў не было — ён знік. Яго ложак не сцяліўся, і з таго часу як ён адправіўся мінулым вечарам спаць, яго ніхто не бачыў. Тым не менш было незразумела, як ён пакінуў дом, бо ранкам усе вокны і дзверы былі замкнёныя. Яго адзенне, гадзіннік і грошы засталіся ў пакоі, але знік чорны касцюм, які ён заўсёды насіў. Пантофляў таксама не было, затое боты стаялі на месцы. Куды ж мог сысці ўначы дварэцкі Брантан і што з ім здарылася?



Безумоўна, мы абшукалі дом ад скляпення да гарышча, але не знайшлі і следу. Як я казаў, стары дом — гэта сапраўдны лабірынт, асабліва даўняе крыло, цяпер амаль незаселенае. Мы абшнарылі гарышча і кожны пакой і не знайшлі ні намёку на тое, куды сышоў дварэцкі. Не магу паверыць, што ён пакінуў маёнтак, не ўзяўшы нічога са сваіх рэчаў — але як яшчэ можна патлумачыць знікненне? Я выклікаў мясцовую паліцыю, але гэта не дапамагло. Папярэдняй ноччу ішоў дождж, таму нашыя спробы агледзець газоны і сцяжынкі вакол дома былі марныя. Такія былі справы на той момант, калі новая падзея адцягнула нашую ўвагу ад гэтай загадкі.

Наступныя два дні Рэйчэл Хоўэлс моцна хварэла: часам у яе было трызненне, часам — істэрыка, і мы нанялі сядзелку, якая заставалася з ёй уначы. На трэцюю ноч пасля знікнення Брантана сядзелка вырашыла, што пацыентка моцна спіць, і сама задрамала ў фатэлі. Прачнуўшыся ўранку, яна ўбачыла, што ложак пусты, акно адчыненае, а хворай няма і знаку. Мяне тут жа паднялі, і я разам з двума лёкаямі адразу пачаў пошукі зніклай дзяўчыны. Мы лёгка вызначылі кірунак, у якім яна збегла, бо заўважылі пад акном яе сляды і прасачылі іх ад газона да стаўка, дзе ля жвіровай сцяжыны, што вядзе за межы маёнтка, яны заканчваліся. Глыбіня става ў гэтым месцы дасягае васьмі футаў, і вы можаце ўявіць нашыя пачуцці, калі мы ўбачылі, што сляды звар'яцелай дзяўчыны абарваліся ля самай вады.

Мы, безумоўна, тут жа прынеслі тралы і заняліся пошукам парэшткаў, але цела бясследна знікла. Затое мы выцягнулі штосьці іншае, нашмат больш нечаканае, а менавіта палатняны мяшэчак, набіты кавалкамі пржавелага абясколеранага металу і нейкімі бляклымі аскепкамі ці то галькі, ці то шкла. Больш у возеры нічога не было, і хаця ўчора мы зрабілі ўсё магчымае, каб адшукаць зніклых, даведацца пра лёс Рэйчэл Хоўэлс ці Рычарда Брантана не змаглі. Паліцыя акругі збітая спанталыку, і я прыйшоў да вас як да апошняй надзеі.

Цяпер вы ўяўляеце, Ўотсан, з якім запалам выслухаў я аповед пра гэты надзвычайны шэраг падзеяў і паспрабаваў злучыць іх у адно, каб знайсці нітку, што прывядзе да разгадкі. Дварэцкі знік. Знікла і пакаёўка. Пакаёўка кахала дварэцкага, а пасля мела прычыны яго ўзненавідзець. Яна была валійкай, гарачлівай і нястрымнай. Адразу пасля яго знікнення яна была надта ўзбуджаная. Яна кінула ў стаў сумку з незвычайным змесцівам. Усе гэтыя акалічнасці варта было ўзяць пад увагу, але ніводная з іх не тлумачыла сутнасці справы. Якое звяно ў гэтым заблытаным ланцугу падзеяў было пачатковым? Перада мной быў толькі канец загадкавай справы.

— Я мушу ўбачыць паперы, Масгрэйв, — сказаў я. — Тыя самыя, якія ваш дварэцкі захацеў знайсці нават цаной страчанай працы.

— Гэты наш рытуал досыць бязглузды, — адказаў Масгрэйв. — Але яго выбачае прынамсі абаянне захаванай даўніны. Я прынёс копію пытанняў і адказаў на выпадак, калі б вам захацелася прабегчыся па іх вачыма.

І ён даў мне вось гэтую паперу, Ўотсан, якую я тут захоўваю. Гэта дзіўны катэхізіс з пытаннямі, на якія мусіць адказаць кожны Масгрэйв, калі ўзмужнее. Я па чарзе прачытаю вам пытанні і адказы:

— Чыё гэта было?

— Таго, хто сышоў.

— Чыё гэта будзе?

— Таго, хто прыйдзе.

— Які быў месяц?

— Шосты ад пачатку*.

— Дзе было сонца?

— Проста над дубам.

— Дзе быў цень?

— Проста пад вязам.

— Колькі ісці?

— На поўнач — дзесяць і дзесяць, на ўсход — пяць і пяць, на поўдзень — два і два, на захад — адзін і адзін, і ўніз.

— Што за гэта дамо?

— Усё, што ў нас ёсць.

— Дзеля чаго?

— Дзеля вернасці.

— Даты ў арыгінале няма, але мяркуючы з правапісу, ён належыць да сямнаццатага стагоддзя, — зазначыў Масгрэйв. — Аднак, баюся, ён не надта дапаможа вам разгадаць нашую загадку.

— Прынамсі ён загадвае нам наступную, — адказаў я, — і яна нават цікавейшая за першую. Магчыма, развязанне першай акажацца адначасова і развязаннем другой. Думаю, вы прабачыце мне, Масгрэйв, калі я скажу, што ваш дварэцкі здаецца мне вельмі разумным чалавекам, разумнейшым за дзесяць пакаленняў яго гаспадароў.

— Нешта я вас не разумею, — сказаў Масгрэйв. — Я думаў, папера не мае ніякай практычнай карысці.

— А мне яна падаецца акурат вельмі карыснай, і, мяркую, Брантан мог бы са мной пагадзіцца. Ён, відаць, бачыў яе і да той ночы, калі вы яго падлавілі.

— Цалкам магчыма. Мы не надта яе хавалі.

— Думаю, што тады ён проста хацеў асвяжыць сваю памяць. Як я разумею, у яго было штосьці накшталт карты ці плана, які ён параўноўваў з рукапісам і які засунуў у кішэню, калі вы з'явіліся.

— Усё правільна. Але навошта яму нашая старая сямейная традыцыя? Што значаць усе гэтыя бздуры?

— Думаю, мы досыць лёгка зможам гэта высветліць, — сказаў я. — З вашага дазволу мы першым жа цягнікам адправімся ў Сасэкс і на месцы трохі заглыбімся ў справу.

Вечар заспеў нас абодвух ужо ў Харлстане. Магчыма, вы бачылі выяву гэтага знакамітага старога маёнтка альбо чыталі яго апісанне, а таму я скажу толькі, што будынак мае форму літары «Г»: даўжэйшае адгалінаванне пабудаванае ў пазнейшы час, а карацейшае ўзведзенае даўно — гэта сэрца дома, з якога вырасла ўсё астатняе. Над нізкімі дзвярыма з цяжкой перамычкай, у цэнтры старадаўняга крыла, выбітая дата «1607», але знаўцы пагаджаюцца на тым, што бэлькі і кладка нашмат старэйшыя. Таўшчэзныя сцены і маленькія вокны ў мінулым стагоддзі прымусілі сям'ю пабудаваць новае крыло; старое калі і выкарыстоўваецца, то толькі як кладоўка і склеп. Пабудову атачае раскошны парк з прыгожымі старымі дрэвамі, а ля самай прысады, прыкладна за дзвесце ярдаў ад дома, ляжыць стаў, пра які згадваў мой кліент.

На той момант, Ўотсан, я быў цвёрда ўпэўнены, што загадак было не тры, а ўсяго адна, і калі б я мог правільна расчытаць рытуал Масгрэйваў, я здабыў бы ключ, які прывёў бы мяне да разгадкі як у справе дварэцкага Брантана, так і ў справе пакаёўкі Хоўэлс. У гэтым кірунку я і скіраваў усе свае здольнасці. Навошта слуга прагнуў зразумець гэтую старую формулу? Відаць, ён убачыў у ёй тое, што прапусцілі ўсе пакаленні мясцовых джэнтры* і што магло прынесці яму пэўную выгаду. Але што менавіта? І як гэта паўплывала на яго лёс?

Калі я прачытаў апісанне рытуалу, то зразумеў, што колькасць крокаў адсылае да месца, пра якое вядзецца ў астатніх фразах, і калі мы знойдзем гэтае месца, то ступім на дарогу да разгадкі таямніцы, якую ранейшыя Масгрэйвы палічылі патрэбным зашыфраваць такім цікавым чынам. Нам дадзеныя два пункты адліку, дуб і вяз. Пытанняў наконт дуба ў мяне не ўзнікла: проста перад домам, злева ад пад'язной дарогі, стаяў дуб-патрыярх, адно з найцудоўнейшых дрэваў, якое мне даводзілася бачыць.

— У часы напісання вашага рытуалу ён там ужо рос? — спытаў я, калі мы праязджалі ля дуба.

— Хутчэй за ўсё ён расце тут з часоў нарманскага заваявання, — адказаў Масгрэйв. — Ён мае дваццаць тры футы ахопу.

— А ці ёсць у вас тут старыя вязы? — пацікавіўся я.

— Вунь там раней быў адзін, але дзесяць гадоў таму ў яго ўдарыла маланка, і мы яго ссеклі.

— Вы памятаеце, дзе ён рос?

— Безумоўна.

— Іншых вязаў тут няма?

— Старых няма, затое шмат букаў.

— Я хачу зірнуць на месца, дзе ён рос.

Мы прыехалі ў двухколцы, і мой кліент адразу, не заходзячы ў дом, павёў мяне да лужка, на якім стаяў вяз. Гэта было прыкладна на сярэдзіне дарогі паміж дубам і домам. Здаецца, маё расследаванне прасунулася наперад.

— Як я разумею, вышыню вяза вызначыць цяпер немагчыма? — спытаў я.

— Я магу адразу ж яе назваць: шэсцьдзесят чатыры футы.

— Адкуль вы ведаеце? — здзіўлена спытаў я.

— Калі мой дамашні настаўнік задаваў мне задачы па трыганаметрыі, у іх заўсёды патрабавалася вымераць вышыню. Хлопцам я вылічыў вышыню кожнага дрэва і кожнага будынка ў маёнтку.

Якая нечаканая ўдача! Я здабыў патрэбную інфармацыю хутчэй, чым можна было чакаць.

— Скажыце, калі ласка, — спытаў я, — ваш дварэцкі задаваў вам такое пытанне?

Рэджыналд Масгрэйв здзіўлена паглядзеў на мяне.

— Цяпер мне прыгадваецца, — адказаў ён, — што некалькі месяцаў таму Брантан пытаў пра вышыню вяза ў сувязі з нейкай спрэчкай са стайнікам.

Навіна была цудоўнай, Ўотсан, бо пацвярджала, што я на правільнай дарозе. Я зірнуў на сонца. Яно кацілася да захаду, і я падлічыў, што менш чым праз гадзіну яно апынецца акурат над самымі высокімі галінамі старога дуба. Такім чынам, адна са згаданых у рытуале ўмоваў будзе выкананая. Што да ценю вяза — тут, відаць, маецца на ўвазе самы далёкі канец гэтага ценю, інача у якасці пункту адліку быў бы абраны камель. Значыць, трэба вызначыць, куды падаў канец ценю, калі сонца апыналася над самым дубам.

**Працяг на стар. 20 (12).**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (110) | 30 кастрычніка 2015 | № 41 (458) Новы Час

**Працяг.**
**Пачатак на стар. 19 (11).**

— Мабыць, гэта было няпроста, Холмс, калі вяза ўжо не існавала?

— Ну, я ведаў, што калі Брантан змог, змагу і я. Дарэчы, ніякай складанасці. Разам з Масгрэйвам я адправіўся ў яго кабінет і вытачыў вось гэты калок, да якога прывязаў доўгую вяроўку з вузялком на кожны ярд. Потым узяў два вудзільны агульнай даўжынёй шэсць футаў і разам з кліентам вярнуўся да лужка, дзе рос вяз. Сонца акурат дакранулася да верхавіны дуба. Я змацаваў і ўсталяваў свой вымяральны прыбор, адзначыў кірунак ценю і памераў яго. Атрымалася дзевяць футаў.

Цяпер засталіся зусім простыя вылічэнні. Калі палка шасці футаў адкідвае цень на дзевяць футаў, то дрэва шасцідзесяці чатырох футаў мусіць адкідваць цень даўжынёй дзевяноста шэсць футаў, а кірунак першай і другой будуць, безумоўна, супадаць. Я адмераў патрэбную адлегласць і, апынуўшыся амаль ля сцяны дома, адзначыў канец меркаванага ценю калком. Уявіце маю радасць, Ўотсан, калі за дзве цалі ад майго калка я ўбачыў у зямлі канічнае паглыбленне. Я зразумеў, што гэтую пазнаку зрабіў Брантан і што я не губляю яго след.

З гэтага пункту адліку я зрабіў патрэбныя крокі, з дапамогай кішэннага компаса вызначыўшы кірункі свету. Першыя дзесяць крокаў напераменку кожнай нагой вялі мяне паралельна сцяне дома, і, адмераўшы іх, я зноў пазначыў калком месца. Потым я асцярожна зрабіў пяць і пяць крокаў на ўсход і два і два на поўдзень. Яны прывялі мяне да самага парога старых дзвярэй. Адзін і адзін крок на захад значылі, што я мушу ступіць на каменную падлогу калідора, дзе і знаходзіцца вызначанае рытуалам месца.

Яшчэ ніколі я так моцна не расчароўваўся, Ўотсан. На хвіліну мне падалося, што ў мае разлікі закралася вялікая памылка. Сонца заходзіла і ярка асвятляла падлогу калідора, і я добра бачыў, што ўжо шмат гадоў ніхто не чапаў гэтыя старыя, сцёртыя нагамі шэрыя камяні, трывала змацаваныя цэментам. Брантан тут дакладна нічога не шукаў. Я абстукаў падлогу, але гук усюды быў аднолькавы: ні звання шчылінак і расколінаў. Але, на шчасце, Масгрэйв пачаў разумець сэнс маіх дзеянняў і, захоплены не менш за мяне, выцягнуў скрутак, каб праверыць разлікі.

— І ўніз! — закрычаў ён. — Вы забылі пра словы «і ўніз»!

— Я думаў, што нам давядзецца капаць, але цяпер разумею, што памыліўся. Ёсць тут склеп?

— Ёсць, такі ж стары, як сам дом. Вось дзверы, хутчэй уніз!

Мы спусціліся вітымі сходамі, і мой спадарожнік запаліў вялікі ліхтар, які стаяў на бочцы ў куце. Мы адразу зразумелі, што ўрэшце дайшлі да патрэбнага месца і што мы не адзіныя, хто апошнім часам тут пабываў.

У склепе захоўвалі дровы, але паленне, раней раскіданае па ўсёй падлозе, цяпер акуратна ляжала ўздоўж сценаў, вызваліўшы прастору пасярэдзіне. Там мы ўбачылі вялізную і цяжкую каменную пліту з пражавелым жалезным кальцом, да якога быў прывязаны цёплы шалік у кратку.

— Нічога сабе! — усклікнуў мой кліент. — Гэта шалік Брантана! Магу паклясціся, я бачыў гэты шалік на ім! Але што гэты нягоднік тут рабіў?!

Я прапанаваў выклікаць двух мясцовых палісменаў і пасля іх прыходу паспрабаваў падняць пліту, цягнучы за шалік. Але змог я хіба што крыху яе зрушыць, і толькі з дапамогай аднаго з канстэбляў урэшце ссунуў каменную глыбу. Пад плітой зеўрала чорная яміна, у якую мы ўсе зазірнулі. Масгрэйв, укленчыўшы, апусціў туды свой ліхтар.

Перад намі адкрыўся маленькі пакойчык на сем футаў углыб, даўжынёй і шырынёй чатыры футы. Ля яго сцяны стаяў нізкі, акаваны мосенжам куфар, вечка якога было адкінутае, а ў замку тырчаў старадаўні ключ. Тоўсты слой пылу пакрываў куфар звонку, а сырасць і чарвякі так патачылі дрэва, што куфар нават унутры зарос шараватай плесняй. Некалькі металічных дыскаў — відаць, старыя манеты, такія, як ляжаць у мяне, — валяліся на дне, але больш у куфры нічога не было.

Аднак у той момант мы нават не думалі пра старую скарбонку, бо нашыя позіркі прыкавала тое, што скурчылася побач з ёй. Гэта было цела апранутага ў чорны касцюм мужчыны, які прысеў на карачкі, апусціўшы галаву на край куфра і абхапіўшы яго рукамі. Праз такую позу твар чалавека быў у трупных плямах*, што сказіла яго да непазнавальнасці, але калі мы выцягнулі цела, рост, адзенне і валасы няшчаснага дапамаглі майму кліенту пазнаць свайго зніклага дварэцкага. Ён памёр некалькі дзён таму, але ніякая рана ці крывападцёк не сведчылі пра тое, як ён сустрэў сваю жахлівую смерць. Калі мы вынеслі цела са склепа, перад намі паўстала новае пытанне, не менш злавеснае за тое, з якога мы пачалі.

Прызнаюся, Ўотсан, тады я быў расчараваны сваім расследаваннем. Калі я знайшоў месца, да якога адсылае рытуал, я спадзяваўся, што справа развязаная, але цяпер я стаяў тут і быў, відавочна, гэтак жа далёкі ад разгадкі таямніцы, якую сям'я Масгрэйваў з такой пільнай асцярожнасцю захоўвала. Я, безумоўна, праліў святло на лёс Брантана, але цяпер мусіў высветліць, якім чынам ён загінуў і якую ролю ва ўсіх гэтых падзеях адыграла зніклая жанчына. Я прысеў на бачурку ў куце і старанна ўзважыў акалічнасці справы.

Мой метад у такіх выпадках вам вядомы, Ўотсан: я стаўлю сябе на месца злачынцы і, ацаніўшы для пачатку яго разумовыя здольнасці, спрабую ўявіць, што на яго месцы зрабіў бы я сам. У нашым выпадку справа спрашчалася, бо Брантан меў выбітны розум, і мне не давялося рабіць персанальнае выраўніванне, як яго называюць астраномы. Брантан ведаў, што дзесьці схаваны нейкія каштоўнасці. Ён вызначыў сховішча. Зразумеў, што пліта, пад якой хаваецца скарб, занадта цяжкая, каб падняць яе без дапамогі. Што ён зрабіў потым? Ён не мог звярнуцца да кагосьці чужога, нават калі б меў на прыкмеце асобу, вартую даверу, бо ў гэтым выпадку давялося б адчыняць дзверы дома, што павялічыла б рызыку выкрыцця. Нашмат лепш знайсці памочніка ў доме. Да каго ж ён пайшоў? Да адданай яму дзяўчыны. Як бы кепска ні ставіўся мужчына да закаханай у яго жанчыны, ён ніколі да канца не паверыць, што яе каханне для яго страчанае. З дапамогай дробных знакаў увагі ён паспрабаваў памірыцца з Хоўэлс, а потым зрабіў яе сваёй саўдзельніцай. Яны разам прыйшлі ноччу ў склеп і, аб'яднаўшы сілы, прыпаднялі камень. Да гэтага моманту я мог прасачыць іх дзеянні, нібыта бачыў іх на свае вочы.

Але падняць такі камень двум людзям, асабліва калі адна з іх жанчына, было надта цяжка. Нават нам з дужым сасэкскім паліцмэнам было нялёгка. Што яны зрабілі, каб палегчыць справу? Тое, відаць, што зрабіў бы і я. Я падняў і ўважліва разгледзеў некалькі паленаў, раскіданых па падлозе, і хутка ўбачыў тое, што чакаў. Адно з паленаў, даўжынёй каля трох футаў, мела на канцы вельмі выразныя расколіны, іншыя ж былі прыціснутыя з бакоў, быццам іх сплюшчылі чымсьці надзвычай важкім. Цягнучы пліту, дварэцкі з пакаёўкай, відавочна, падсоўвалі дровы ў шчыліну, пакуль урэшце адтуліна не зрабілася такой шырокай, што ў яе мог пралезці чалавек. Яны падперлі пліту пастаўленым вертыкальна паленам — пра гэта выразна сведчаць расколіны на ніжнім яго канцы, куды перанеслася ўся вага пліты. Пакуль мае дапушчэнні заслугоўвалі даверу.

Але як я мусіў разважаць далей, каб узнавіць драматычныя падзеі той начы? У адтуліну, бясспрэчна, мог залезці толькі адзін чалавек, і гэта быў Брантан. Дзяўчына мусіла чакаць вонкі. Брантан адамкнуў замок, імаверна, перадаў ёй змесціва куфра (а інакш куды знік скарб?) — і тады... што ж здарылася тады?

Калі яна ўбачыла, што мужчына, які яе пакрыўдзіў — магчыма, нават мацней, чым мы думалі, — цяпер у яе руках, агонь помсты, што дагэтуль тлеў у палкай кельцкай душы, раптам разгарэўся. Ці выпадкова павалілася палена і пліта зачыніла Брантана ў каморцы, якая зрабілася яго труной? Ці вінаватая яна толькі ў тым, што прамаўчала пра гэтае здарэнне? А можа, гэта ўдар яе рукі выбіў падпорку, каб пліта легла на месца? Як бы там ні было, я амаль бачыў фігуру гэтай жанчыны, што прыціснула да сябе скарб і ашалела бегла па прыступках, а ў яе вушах гучалі прыглушаныя крыкі і шалёныя ўдары па каменнай пліце, пад якой задыхаўся яе няверны каханы.

Вось у чым хаваўся сакрэт яе збялелага твару, узбуджаных нерваў і выбуху істэрычнага смеху наступным ранкам. Але што было ў куфры? Што яна зрабіла з яго змесцівам? Безумоўна, гэта былі тыя самыя кавалкі старога металу і аскепкі галькі, якія мой кліент выцягнуў са става. Яна пры першай жа магчымасці закінула іх у ваду, каб схаваць апошні след свайго злачынства.

Наступныя дваццаць хвілінаў я нерухома сядзеў, абдумваючы справу. Масгрэйв стаяў побач, гайдаючы ліхтар і пазіраючы ў адтуліну.

— Гэта манеты Карла I*, — сказаў ён, падаючы мне знойдзеныя рэшткі скарбу. — Бачыце, мы не памыліліся з вызначэннем даты ўзнікнення нашага рытуалу.

— Мы знойдзем яшчэ штосьці з часоў Карла I! — усклікнуў я, раптам здагадаўшыся пра магчымае значэнне першых двух пытанняў рытуалу. — Дайце мне зірнуць на змесціва вылаўленага ў ставе мяшка.

Мы падняліся ў кабінет, і Масгрэйв паклаў аскепкі перада мной. Калі я зірнуў на гэты амаль счарнелы метал і цьмяныя, бляклыя камяні, я зразумеў, чаму ён палічыў іх за смецце. Калі я працёр адзін з каменьчыкаў рукавом, ён заззяў на маёй далоні як іскра. Кавалкі металу мелі выгляд падвойнага кола, але яно пагнулася і страціла першапачатковую форму.

— Вы мусіце помніць, — сказаў я, — што партыя караля панавала ў Англіі нават пасля смерці ўладара. Перад тым, як збегчы, яны, відаць, схавалі тут многія свае каштоўнасці, плануючы вярнуцца ў мірны час.

— Мой продак, сэр Ральф Масгрэйв, быў выбітным раялістам і правай рукой Карла II у яго вандроўках, — сказаў мой сябар.

— Вось як! — адказаў я. — Што ж, тады гэта патрэбнае нам апошняе звяно. Я віншую вас! Вы атрымалі, праўда, пры досыць трагічных абставінах, рэліквію, каштоўную як з матэрыяльнага, так і гістарычнага гледзішча.

— Што гэта такое? — ад здзіўлення ён сцяў дыханне.

— Не што іншае, як старажытная карона ангельскіх каралёў!

— Карона?

— Менавіта. Успомніце словы рытуалу: «Чыё гэта было? — Таго, хто сышоў». Ён з'явіўся пасля страты Карла. Далей: «Чыё гэта будзе? — Таго, хто прыйдзе». Маецца на ўвазе Карл II, чыё вяртанне ўжо прадбачылі. Думаю, тут не можа быць сумневаў: гэтая змятая і бясформенная дыядэма калісьці вянчала галовы ўладных Сцюартаў*.

— Але як яна трапіла ў ваду?

— О, хутка на гэтае пытанне не адкажаш.

З гэтымі словамі я выклаў перад ім увесь пераказаны вам толькі што ланцуг выбудаваных мной здагадак і доказаў. Пакуль я расказваў, сцямнела, і ў нябёсах ярка заззяў месяц.

— Але чаму Карл не атрымаў карону, калі вярнуўся? — спытаў Масгрэйв, зноў кладучы рэліквію ў палатняны мяшок.

— О, тут вы трапляеце ў самую кропку і задаяце пытанне, на якое мы, відаць, ніколі не атрымаем адказу. Магчыма, за часамі выгнання памёр той Масгрэйв, які захоўваў таямніцу, і праз нейкую памылку перадаў спадчынніку дакумент, не патлумачыўшы яго значэння. Дакумент перадаваўся ад бацькі да сына да нашых дзён, пакуль урэшце не трапіў на вочы чалавеку, які разгадаў яго загадку і страціў праз гэта жыццё.

Вось і ўся гісторыя рытуалу Масгрэйваў, Ўотсан. Карона дагэтуль захоўваецца ў Харлстане, хаця давялося прыкласці шмат намаганняў і заплаціць шмат грошай, каб ім дазволілі яе пакінуць. Я ўпэўнены, што калі вы згадаеце маё імя, вам ахвотна яе пакажуць. Пра жанчыну мы больш нічога не чулі — магчыма, яна пакінула Англію, забраўшы ў заморскія краіны і памяць пра сваё злачынства.

**Пераклад з ангельскай**
**Ганны Янкута**

## Каментары перакладчыцы

Апавяданне было ўпершыню надрукаванае ў траўні 1893 года ў «Strand Magazine».

Патроны Боксера — такія патроны часцей за ўсё прызначаныя для вінтоўкі, а не рэвальвера.

«Эцюд у пунсовым» — першая аповесць пра Шэрлака Холмса (1887).

«Рэджыналд Масгрэйв вучыўся ў адным каледжы са мной...» — многія даследчыкі спрачаюцца, у якім з універсітэтаў — у Кэмбрыджы ці Оксфардзе — вучыўся Шэрлак Холмс. Аднак Дойл ніколі не ўдакладняў гэтую акалічнасць.

Сезон палявання на фазанаў — з кастрычніка па студзень.

«Вельмі ўражлівая, як любая іншая валійка...» — магчыма, стэрэатып пра бурны нораў валійцаў, жыхароў Ўэлса, адлюстроўвае стаўленне ангельцаў да валійскіх бунтаўнікоў, якія супраціўляліся распаўсюджанню ангельскага валадарства і ангельскай мовы.

Пытанне «Які быў месяц?» і адказ «Шосты ад пачатку» з'явіліся толькі ў апошніх выданнях апавядання.

Джэнтры — дробнае і сярэдняе ангельскае дваранства.

«Праз такую позу твар чалавека быў у трупных плямах...» — пасля заканчэння сардэчнай дзейнасці кроў пад дзеяннем сілы цяжару пасіўна перамяшчаецца ў тыя ўчасткі цела, якія размешчаныя ніжэй за астатнія.

Карл I (1600–1649) — ангельскі кароль, панаванне якога скончылася Ангельскай рэвалюцыяй, калі каралю супрацьстаяў парламент на чале з генералам парламенцкай арміі Оліверам Кромвелем. Скончыў жыццё на эшафоце. Карл II — яго старэйшы сын і спадкаемец, які ўзышоў на трон у 1660 годзе ў выніку Рэстаўрацыі.

«Гэтая змятая і бясформенная дыядэма калісьці вянчала галовы ўладных Сцюартаў...» — маецца на ўвазе карона XIII стагоддзя, якая першапачаткова належала Эдварду I. Мяркуецца, што пасля смерці караля Карла I яе знішчылі. Існуе меркаванне, што згадка пра продаж кароны дому Масгрэйваў у канцы апавядання высмейвае продаж карабля «HMS Foudroyant», які належаў каралеўскаму флоту (гэтую тэму Дойл ужо закранаў у вершы 1892 года).

# Падайце Ігара Канановіча!

**З «П'яным караблём» атаясамліваў сябе герой Арцюра Рэмбо (французскага паэта-праметыіста):**

*Апантанае мора знянацку шалёна*
*вырастала то справа, то злева сцяной.*
*Я імчаўся па волі стыхіі салёнай...*
*Хай вас Бог уратуе ад плыні такой!*

***

*Я — п'яны карабель! З небывалым імпэтам*
*разарваў туманы і завоблачны край*
*і здабыў — спадабацца павінна паэтам! –*
*толькі слізкую вільгаць ды сонца лішай.*

**(Пераклад Міколы Федзюковіча.)**

«Я — геній...» — так назваў сябе Ігар Севяранін — рускі паэт срэбнага веку.

Прыгадваецца і верш «Бераг« Анатоля Сыса, у якім аўтар параўнаў сябе з «берагам» акіяна:

*Мяне выкінуў акіян*
*на чырвоны, гарачы бераг*
*і сказаў: гэты бераг ты*
*да апошняй тваёй пясчынкі.*

***

*Да апошняй сваёй пылінкі*
*я належу звярам, вужакам*
*і далёкім самотным птушкам*
*на тым беразе акіяна.*

*Я заўсёды камусь належу —*
*хоць каханы, хоць ненавідны,*
*я — за сонцам і супраць сонца,*
*я — прычына бяды і шчасця.*

І вось... Я — АСТЭРОІД. У вобразе «Астэроіда« велічна і ярка прадстае перад чытачом герой аднайменнай кнігі клецкага паэта — Ігара Канановіча.

Можна адшукаць у энцыклапедыі наступнае: «Астероід (малая планета) — адносна невялікае нябеснае цела Сонечной сістэмы, рухаецца па арбіце вакол Сонца. Астэроіды маюць няправільную форму, без атмасферы, у іх могуць быць спадарожнікі».

Цікава, а якая ж астэроідная тканіна паэзіі Ігара Канановіча?

Яго філасафічнае «Я», здаецца, жыве ў раўнавазе з тым светам, які навокал (радзіма, людзі, гістарычныя падзеі) і не выходзіць за межы свайго галоўнага шляху.

Яго лірычнае, эмацыйнае «Я» гэтага цэнтру раўнавагі не знаходзіць: вагаецца паміж «Нябытам і Жыццём». Як і ў вершы «Крыж»: лірычны герой нібыта цэнтруе сябе ў вобразе крыжа: «галоўнае, каб на мяжы стаяў трывалы крыж». І моліцца паэтава пачуццё за адраджэнне «дрэва», якое стала «крыжом», апечаным бедамі-маланкамі.

Разам з аптымістычнай надзеяй на выхад з Нябыту ў паэта знаходзім і больш трагічныя настроі. Напрыклад, у вершы «Дысідэнт». Тут дысідэнцтва выяўляецца ў тым, што лірычны герой збягае ад зімы, а трапляе ў пастку Нябыту:

*Запалка*
*расплавіла снег.*
*А да вясны далёка.*

У гэтых радках «дысідэнт» бачны зусім не на мяжы: паміж зімой і вясной. Хутчэй — ён у пастцы вакуума ці той пустэчы, якая як філасофскае «нішто».

Часам, аднак, бярэ верх у паэзіі Ігара Канановіча шыкоўная Фантазія. Напрыклад, праз сваю фантазію герой кахае «русалку» (у вершы «На спатканне»). Гэта яна (русалка) яго прымусіла кінуцца на самае «дно Інтэрнэт-возера»:

*Начапіўшы на шыю*
*камень тугі,*
*кідаюся*



*ў бела-блакітную глыбіню*
*Інтэрнэт-возера:*
*пабачымся*
*недзе на дне!*

Вось яшчэ прыклад: у фантазіі Ігара Канановіча «Радзіма» ператвараецца ў «файную страву» ў дзіўнай «Кнізе Лёсаў» (верш «Малады кулінар»):

*Ат!*
*Не спраўдзіўшы*
*тэхналогіі,*
*месцамі спаліў на вуголле,*
*а месцамі не дапёк,*
*і — сырое.*
*Файная страва!*
*Назаву «Радзімай»...*

Хочацца адзначыць, паэт са сваёй «душой збалелай» шукае райскую Радзіму — страчаную, з мінулага жыцця — «як іншы — Атлантыду». Толькі замест Атлантыды ў беларускага аўтара — «Крывія»:

*Шукаю Крывію (як іншы — Атлантыду) –*
*Сваіх пачаткаў затанулы мацярык...*

А ў вершы «Патрыёт» Ігар Кананович — майстра вобразнасці:

*Туман*
*паўстаў над вадой —*

*бароніць*
*ад ночы*
*сваю Радзіму.*

Увогуле, уся прырода, рэчы, здаецца, ажываюць, каб бараніць разам з клецкім хлопцам «Радзіму»... Калі запытаць у паэта: бараніць — ад чаго і каго? Ігар Кананович адказвае радкамі: «Ад крыку бязмоўя» (верш «Пустата»):

*...Цішыні надламанай заданне –*
*да бязмоўя завостраны крык...*

Вершатворы кнігі «Астэроід» цікавыя і сваім гістарычным планам. Нешматлікія маналогі Ігара Канановіча, якія нібыта прапахлі віньёнаўскай баладнасцю і трымаюць у сабе звароты-прашэнні да ЎСЯВЫШНЯГА, разам з тым, несумненна, прысвечаныя геніям класікаў беларускай літаратуры: Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, У. Караткевіча, П. Панчанкі, В. Быкава, — каб разам з імі ўвераваць у здаровую нацыю:

*Беларусь! Мы да часу гарым*
*у агоніі неразумення!*
*Спадзяюся, у скарбе тваім*
*ёсць яшчэ галасы пакаленняў!*
*(Верш: «Няпростая надзея»)*

Не абмінуў Ігар Кананович тэму «Паэта і паэзіі». У кнізе адчувальны той «закон адпаведнасці», які надае некаторым радкам характар версэтнасці, які характэрны, найперш, для паэзіі Алеся Разанава (версэты па сваей будове нагадваюць балады і прытчы і спалучаюць у сабе філасофскую афарыстычнасць, сюжэтнае развіццё, рэальнасць і фантазію). Напрыклад, у Ігара Канановіча герой надзелены «красавіцкай цемры», якая «бадзяецца» («Ваўкалачы блюз»):

*Красавіцкая*
*цемра пойдзе*
*бадзяцца.*

*Спаткае мяне.*

Чытаем у Алеся Разанава (версэт «Ночвы»):

*Я гляджу на маленькія ночвы, і нібы ўва мне адчыняюцца нейкія дзверы, у іх пазнаю, што і помніць не помню, што згадваць не згадваю і што не мае ні вобразу, ні найменя, а мае мяне самога, — сваё.*

У гэтых радках разанаўскі герой адпаведны «ночвам», якія сімвалізуюць «дзверы» ў дзяцінства — пачатак паэтавай самасці.

Цікава, у чым жа паэт-Кананович, які, найперш, сімвалізуе свайго героя ў вобразе АСТЭРОІДА («Я — астэроід»), бачыць місію паэта? Іншым разам паэтаў радок — «лёгкі і магутны... імкнецца праз аблокі» (верш «МіГ»).

У творы «Кароткі маналог пяра» герой прызнаецца:

*Божа! Веру: загіну — адкрыта, звычайна*
*і хутка!*
*Дзеля вершаў — не я іх пішу, МНОЮ пішуцца*
*зноў!!!*

Гэтае творнаскладовае МНОЮ... Быццам жыве яно ў няволі, не ведаючы, каму служыць: жыццю ці смерці.

Але куды скіраваная Муза? Яна хоча давесці разам з паэтам да райскага ўсплёску свой лёс (верш «Усплёск»):

*На руінах ілюзій адказы шукаю...*
*Божа! Ты надзяліў мяне гэткай душой!*
*Дай жа — рай заслужыць і нацешыцца раем*
*На зямлі! А нябёсы пакінь за сабой.*

Але нацешыцца раем на зямлі не давадзіцца, бо надта часта «бяда» «музу корміць скарынкамі» (верш «Маякоўшчына»).

Паэт ведае, што жыве ў часе паганым. А свет — як «бяздушнае сонца людзей» (верш «Пустата»). Зямля люстэркава адбіваецца ў космасе нейкай невядомай апошняй планетай:

*Браты па розуму! Прыём*
*на гэтай чортавай планеце.*
*Мы паміраем-не жывём,*
*Нібы апошнія у свеце...*
*(Верш «Апошні эфір«)*

Вось чаму такія нечаканыя і смелыя для чытача ў паэзіі Ігара Канановіча параўнанні — «тапелец-успамін», «снег-разведчык» і інш. У яго паэзіі нават «сумленне» можа страляць (верш «Папярэджанне): «Не падстрэліць сумлене, калі прапаўзу ля яго...»

«Кулі», «забілі», «паміраю» — вось шэраг лексічных знакаў, такіх неабходных для раскрыцця, напрыклад, тэмы КАХАННЯ (нават «Дзень Святога Валянціна» герой усприымае так: «рвуць сэрца кулі віншаванняў»).

Каханне часта падобнае да вайны (у вершы «Смерць на першай праталіне»):

*Стрэліла —*
*бесклапотна, наўскід...*
*Трапіла ў апошняе*
*сэрца...*
*Так — жорсткі я*
*паміраю — мякчэю...*

***

*Сутарга шчасця*
*працінае знутры.*
*Корчуся на*
*першай праталіне,*

*а насупраць вачэй*
*з зямлі выпаўзае*
*травазычліва-насмешлівым шэптам:*
*«Кахххаешш!»*

Можа, гэта вайна героя з самім сабою, ці — з «гэтым бязлітасным светам»? Такі герой жыве, нібы ў кадры галівудскага кіно (трылера!). Гэткі шварцнегераўскі Тэрмінатар? Яго не раз забіваюць, але пасля памірання ён ажывае... Вядома, ажывіць яго можа толькі КАХАННЕ да ЯЕ:

*Калі і зноў амаль забілі*
*ці атачыла сэрца зграя,*
*тады знахожу свой мабільны*
*і гэты нумар набіраю...*

*Калі, знямоглы і забыты,*
*баюся не сустрэць світання,*
*я да яе, як да малітвы,*
*паўзу у пошуках адхлання...*

**(Верш «Калі...»)**

І галоўнае заданне ў героя, які атаясамлівае сябе з астэроідам, — адшукаць рай на арбіце Яе — Каханай. Можа, каб з Ёю «сумесна пражываць вершы»?:

*Я ізноў на арбіце — былой.*
*Нерашучы, натхнёны і смешны.*
*Выйду з ценю –хачу быць з табой.*
*Не саб'еш, не прагоніш, канешне...*

**(Верш «На арбіце тваёй»)**

Праўда, часта лірычны герой Ігара Канановіча жыве ў зямным раі без фарбаў: дождж іх змывае:

*Дождж,*
*змыўшы фарбы,*
*змывае*
*і веру ў жыццё.*

**(Верш «Прынцыповая восень»)**

Ці новыя фарбы могуць нарадзіцца толькі ў небе?

*Чарговы крок —*
*і я ўжо*
*на хвалі паветра:*
*узлятаю туды,*
*дзе зараз вірліва яднаюцца*
*ўсе фарбы...*

**(верш «Туды, дзе нараджаецца снег»)**

І ўсё ж... Паэт скупы на колеравыя эпітэты. Лічым колеры: цёмна-сіні з водблескам шэрага, чорнае халоднае неба...— вось такі халодны каларыт для Астэроіда.

Калі ж абстрагавацца ад чыстага літаратуразнаўчага аналізу, то першае, што кідаецца ў вочы ў часе чытання кнігі — гэта голас паэта-рамантыка, герой якога ў пошуках зямнога страчанага раю скіроўваецца ў свет сваёй мары (шукаць «на галактыцы рай»): атаясамлівае сябе з нябесным целам — астэроідам, у якога шмат функцый — то ён «сусвету блудны сын», «валацуга і карсар», то «скамянелая энергія палёту». «Жыву, але не залежу» — такім ён мысліць сябе: «гравітацыі чужой парваўшы круг, ператвараюся ў свабоды вечнай ноту» (ці не нагадвае тыпаж гэткі герой лермантаўскага Дэмана?).

Але такі ён, свабодна-шчаслівы валацуга, толькі ў сваёй фантазіі, якая вядзе за межы зямной прасторы. Хоць у глыбінным космасе — адно — «пекла сто варыянтаў», але для свайго астэроіда паэт прыдумаў атмасферу, напоўненую каханнем героя-рамантыка да канкрэтнай зямной жанчыны. А калі ж рамантычная мара паэта (як і героя) разбіваецца ўшчэнт нейкай зямной праблемай, чалавек-астэроід знікае, з'яўляецца — зямны ваяр: касінер, дысідэнт, секундант, патрыёт — словам — КУЛЬТУРНЫ ГЕРОЙ.

І тут хочацца паўтарыць і перайначыць рускага паэта Андрэя Вазнясенскага, які дзеля ацэнкі творчасці геніяльнага Ігара Севяраніна знайшоў наступныя словы:

*Подайте искристого к баранине.*
*Подайте счет. И для мисс — цветы.*
*Подайте Игоря Северянина!*

А мы скажам: «Падайце Ігара Канановіча! Падайце «файную страву» — клецкую Радзіму».

**Алена Ігнацюк**

# Каралеўства бензакалонак:

**Уявім сабе на хвілінку наш Мінск 120-гадовай даўніны. Гэта губернскі горад у Расійскай імперыі, па зялёных вуліцах якога рухаюцца конныя экіпажы. Гараджане, як і сёння, спяшаюцца па справах — але не так імкліва, як цяпер, у разгар аўтамабільнай эры. Горад без светлафораў, дарожных знакаў, аўтазаправак, «коркаў» і інспектараў ДАІ...**


Аўтапрагулка ў Камароўскі лес. 1916

Група кампаній «А-100» ужо некалькі гадоў запар адраджае старонкі нашай гісторыі, звязаныя з галіной свайго бізнэсу — аўтамабілямі, спосабам іх руху і палівам. На дамапогу бізнэсоўцам прыйшоў іх аднадумец, даследчык гісторыі Мінска Уладзімір Валажынскі.

Уладзімір Георгіевіч — карэнны і патомны жыхар цэнтра Менска. Нарадзіўся ў 1961 годзе на цяперашняй вуліцы Ракаўскай (за савецкім часам — Астроўскага). Ён ніколі не быў прафесійным гісторыкам: скончыў радыётэхнічны інстытут, працаваў на заводзе вылічальнай тэхнікі. Але, праверыўшы ўсё жыццё ў сэрцы беларускай сталіцы, гадаваўся ў сям'і, дзе беражліва захоўвалі гісторыю роднага раёна і любімых мясцінаў. А мясціны сапраўды гістарычныя: літаральна за рогам вуліцы дзяцінства пачынаецца Няміга, месца, што згадана ў летапісах як пачатак старажытнага Менску. Спрыяла і атмасфера ў сям'і: у сямейным архіве захаваліся фотаздымкі дзеда-фотааматара, зробленыя ім у 50-60-я гады мінулага стагоддзя.

Аднойчы менавіта гэтымі здымкамі Уладзімір Валажынскі дапамог праілюстраваць адну гістарычную публікацыю ў інтэрнэце. Пазней стварыў свой сайт, размясціў старыя фатаграфіі цэнтральных мінскіх вуліц і заняўся даследаваннямі сам. Хацелася расказаць людзям пра мінулае любімага горада больш: пра Нямігу, Ракаўскую, плошчу Свабоды, Віцебскую, Камсамольскую... Праз некалькі гадоў сабраныя энтузіястам гістарычныя матэрыялы сталі асновай кнігі пра стары Мінск, кніга ж, у сваю чаргу, трапіла ў рукі дырэктару Групы кампаній «А-100» Аляксандру Львовічу Цэнцеру, які выношваў ідэю стварэння першага ў Беларусі музею аўтазаправак. Так пачалося іх супрацоўніцтва.

Справа гэта, успамінае Уладзімір Валажынскі, аказалася захапляльнай. Нават удалося зрабіць некалькі невялікіх адкрыццяў і ўдакладніць звесткі ў энцыклапедыях.

## У пошуках першай запраўкі

Яшчэ ў 2008 годзе энцыклапедыі сцвярджалі, што першая аўтазапраўка з'явілася ў Мінску ў 1946 годзе. Гэта наводзіла на пытанні. Няўжо да вайны заправак не існавала, калі машыны ўжо былі? Пошукі ў архівах прывялі да адкрыцця, што першая запраўка грамадскага карыстання, для шырокага кола спажыўцоў, была створана ў Мінску на 14 гадоў раней — у канцы 1932 года. Знаходзілася яна на на вуліцы Новамаскоўскай — цяпер гэта месца перасячэння вуліцы Мяснікова і Нямігі насупраць абутковай фабрыкі «Луч». Раней грамадскіх заправак не было, бо аўтамабіляў было мала. Так, у 1928 годзе ў Беларусі іх было зарэгістравана ўсяго каля 500.

Першапачаткова ў гарадскіх уладаў былі розныя варыянты размяшчэння заправак у Мінску — напрыклад, у іншым месцы на Мяснікова, дзе раней стаяла Свята-Казанская царква (цяперашняя плошча Мяснікова), а таксама на плошчы Свабоды. Ва ўсіх выпадках трэба было ўкопваць ў зямлю і размяшчаць вялікі бак для захоўвання паліва на 3 тысячы пудоў. Паўплывала тое, што побач знаходзіліся трамвайныя пуці. І будаўніцтва, і сама запраўка маглі б перашкаджаць працы гарадскога транспарту. Таму вырашылі ўсталяваць у іншым месцы.

Планы адкрыцця першай грамадскай запраўкі зрываліся з-за недахопу фінансавання. Яе павінны былі запусціць яшчэ летам 1932 года. Дакладная дата ўвядзення ў эксплуатацыю невядомая, але адбылося гэта ў лістападзе ці снежні 1932-га.

Калі ўдалося вызначыць дакладны год першай грамадскай аўтазапраўкі ў Мінску, кіраўніцтва Групы кампаній «А-100» вырашыла адзначыць гэтае месца памятнай шыльдай. У 2013 годзе памяць аб падзеі была ўвекавечаная — шыльдачку ўсталявалі на бліжэйшым да колішняй запраўкі будынка. Гэта адзін з карпусоў Педагагічнага ўніверсітэта, у якім месціцца музычна-педагагічны факультэт. Такім чынам, дзякуючы ініцыятыве беларускага бізнэсу адметных месцаў у беларускай сталіцы паболела — не выключана, сціплы надпіс аб нашым мінулым стане яшчэ адным пунктам экскурсійных маршрутаў для гасцей-аўтааматараў.

Вядома таксама, што да 1936 года ў Мінску было ўжо дзве запраўкі. Другая адчынілася на вуліцы Чырвонай, дата яе адкрыцця дакладна невядома. Прыкладна 1934-1935 гады.

Да сярэдзіны 1980-х гадоў у Мінску было ўсяго 13 аўтазаправак. Машын у горадзе было мала. Аўтааматарам даводзілася на іх занадта доўга ашчаджаць грошы. Таму, зірнуўшы на фатаграфіі 50-70-х гадоў, міжволі адзначаеш пустыя вуліцы. У 80-х аўтатранспарту стала больш, але з другой паловы пачаўся дэфіцыт паліва. «Людзі часам займалі чэргі і стаялі суткамі, — успамінае У.Валажынскі. — Мы з бацькам самі часам так рабілі ў пачатку 90-х, калі быў крызіс, і стаялі па бензін, змяняючы адзін аднаго. Цяпер, вядома, гэта цяжка ўявіць, бензіну хапае, але ў савецкі час ён быў у дэфіцыце».

## Нашчадкі братоў Нобеляў

Канечне, узнікае яшчэ адно пытанне: калі грамадскіх заправак да 1932 года не было — як жа рухаліся аўтамабілі?

Аказваецца, вынаходнікі увесь час спрабавалі запусціць рухавікі на розных відах паліва: пары, газе, электрычнасці, вуглі і нават дровах. Але бензінавы спосаб «харчавання» машын перамог. Вяртаннем да газу адзначыліся толькі апошнія дзясятак-паўтары гадоў.

— Напачатку XX стагоддзя запраўка аўтамабіляў адбывалася на паліўных складах, — тлумачыць Уладзімір Валажынскі. — У свой час аўтазаправачны бізнэс у нас распаўсюдзіла фірма братоў Нобеляў, якая была ва ўсёй Расійскай імперыі адной з вядучых кампаній у галіне нафтаздабычы, у перапрацоўцы і продажы паліва. Калі ў маі 1903 года было створана Імператарскае Расійскае аўтамабільнае таварыства, якое ладзіла аўтапрабегі, браты Нобелі прапанавалі рабіць на шляху аўтамабілістаў пункты запраўкі. Вось прыязджаюць тагачасныя аўтамабілісты ў нейкі горад, а дзе там узяць бензін? Са складоў братоў Нобеляў ён і пастаўляўся.

Трэба сказаць, самыя першыя спосабы запраўкі палівам з гледзішча сённяшняга дня выглядаюць вельмі прымітыўна. Паліва залівалася ў бак у гаражы, абсталяваным ёмістасцю для захоўвання бензіна. Пазней дзеля бяспекі такія ёмістасці схавалі пад зямлю, напачатку ж яны месціліся проста на паверхні. Бензін залівалі ў бензабак звычайнай вялікай кружкай праз лейку. Працэс быў даволі небяспечным, але апантаных аўтамабілямі аматараў гэта не спыняла.

— Грамадскія запраўкі больш позняга часу ўжо былі механізаванымі, — распавядае Уладзімір Георгіевіч. — Спачатку яны ўяўлялі сабой ручны насос — калонку (як для набору вады), потым — ручны насос з двума балонамі, які вы можаце пабачыць у музеі аўтазаправак, створаным намі разам з «А-100». У экспазіцыі прадстаўлена паліваразадатачная калонка 1947 года, але аналагічныя калонкі былі ўжо ў 30-я гады. У Мінску, хутчэй за ўсё, стаялі імпартныя калонкі, айчыннай вытворчасці іх яшчэ было мала. Бензакалонкі толькі пачыналі вырабляць два заводы у Расіі. Паліва накачвалася ў балон механічнай ручкай і ўжо адтуль злівалася ў бак аўтамабіля. Быў усталяваны і лічыльнік для вымярэння адпушчанага паліва.

## Музей пад адкрытым небам

У 2012 годзе «А-100» ажыццявіла ўнікальны для нашай краіны праект — стварыла першы ў Беларусі музей аўтазаправак. Знаходзіцца яго экспазіцыя ў пасёлку Баравая, літаральна ў паўкіламетры ад мяжы Мінска, побач з запраўкай і галоўным офісам «А-100».

Ідэя стварэння музея ўзнікла ў дырэктара Аляксандра Цэнцера ў працэсе працы. Займаючыся бізнэсам у паліўнай галіне, бізнэсовец час ад часу бачыў старое абсталяванне АЗС, якое, састарэўшы, выйшла з карыстання. Апараты для заправак мінулых дзесяцігоддзяў выклікалі цікавасць спецыялістаў, але не менш цікава было паказаць іх шырокаму колу людзей і захаваць для нашчадкаў як частку гісторыі.

Як вядома, тэхніка з кожным годам імкліва змяняецца і «старэе». Мабільныя тэлефоны, камп'ютары, тэлевізары — першыя прыклады тэндэнцыі гэтых хуткіх зменаў. З бензакалонкамі, аказваецца, адбываецца тое ж самае. Вось яны ручныя, дзе трэба напампоўваць паліва, круцячы ручку, вось з'яўляецца аўтаматыка, а потым глядзіш — ужо можна запраўляцца па картках...

Калі цікаўным людзям прыходзяць новыя ідэі, яны бяруцца ўвасабляць іх у рэальнасць. Тагачасны кіраўнік «А-100» сам паспяхова займаўся пошукам першых экспанатаў для музея, і да 2012 года ў ім налічвалася каля пятнаццаці экспанатаў. (Зараз, праз тры гады, — каля дваццаці). У «А-100» было вырашана працягваць пашырэнне экспазіцыі. Праца над яе папаўненнем ідзе ўвесь час.

— Мне сказалі, што састарэлую тэхніку выкідаюць, і пакуль нічога зусім не прапала, папрасілі дапамагчы раздабыць старыя паліва- і масларазадатачныя калонкі, — узгадвае Уладзімір Валажынскі. — Я тэлефанаваў на розныя аўтапрадпрыемствы Беларусі: аўтабазы, аўтапаркі, аўтакамбінаты. Распытваў, дзе ды што ў каго ёсць гэткага, што ім не шкада было б падарыць альбо прадаць за сімвалічны кошт для музея. Адзін экспанат, дакладна ведаю, ужо прывезлі — паліваразадатачную калонку «Ністру». Не такая яна і старая, канечне, але ў шэрагу па гадах якраз такой у музеі тады не было. Ёсць яшчэ пару патэнцыйных экспанатаў, якія знойдзеныя, засталося дамовіцца пра іх кошты і дастаўку — верагодна, музей «А-100» хутка зноў папоўніцца.

Дарэчы, перыядычна частка экспанатаў знаходзіцца на рэстаўрацыі: прывядзенне іх у абноўлены аўтэнтычны выгляд — адна з задач музейшчыкаў. Напрыклад, трэба знайсці, у якія колеры бензакалонкі былі пафарбаваныя першапачатко-



# сучаснасць з гісторыяй

ва. Задача не з лёгкіх: знайсці тэхнічныя пашпарты бывае практычна немагчыма. У такіх выпадках, кажа Уладзімір Георгіевіч, ён ідзе ў тэхнічную бібліятэку і па ГОСТах ці іншых нарматыўных дакументах спрабуе высветліць, якія колеры той ці іншай мадэлі былі рэкамендаваныя для афарбоўкі. Потым калонкі падфарбоўваюць іншыя спецыялісты, вяртаючы ім арыгінальны выгляд. Акрамя таго, знайсці тэхнічныя апісанні важна, каб устанавіць дакладна, наколькі гэта магчыма, год выпуску. І тут таксама сутракоцца казусы. «Самай старой спачатку лічылася бензакалонка 1930-х гадоў. Але я даведаўся, што ў 30-я гады такой не было. Шукаў-шукаў — не знайшоў. А яна аказалася з 40-х. Калонка 318-й мадэлі...».

Паралельна зноў атрымалася ўдакладніць гістарычныя даты. Інтэрнэт скрозь паведамляў, што першая калонка ў СССР з'явілася ў 1928 годзе ў Маскве, на Арбаце. Аднак, гартаючы старыя часопісы ў бібліятэцы, Уладзімір Валажынскі пабачыў у іх фотаздымкі з Каўказу, зробленыя ў 1926–1927 гадах. Аказалася, што бензакалонка ўжо існавала! У выніку супастаўленняў высветлілася, што месцы і даты трохі пераблытаныя: сапраўды, Масква і Арбат адчынілі бензакалоначную эпоху, але на два гады раней, чым тое было вядома даследчыкам.

На ганаровым месцы ў згаданым музеі — ГАЗ, які пяшчотна клічуць Зінкай. З такой машыны 20 гадоў таму пачыналася кампанія «А-100». Гэта не тая самая машына, але яе поўны, абсалютны аналаг. Гісторыя пра тое, як першы дырэктар набыў бензавоз для разводу паліва на продаж, і за 20 гадоў адна машына ператварылася ў сетку аўтазаправак, кавярняў і дэвелоперскую фірму, выглядае настолькі легендарна, быццам адбывалася ўсё гэта не ў Беларусі, а недзе ў Амерыцы. Тым не менш, гэта рэальнасць.

Яшчэ адну цікавую машыну не заўсёды можна пабачыць у музеі, затое іншым разам — на экране. Час ад часу экспанат бярэ ўдзел у здымках ваенных фільмаў... Гэта палівазапраўшчык БЗ-42 на базе ГАЗ-АА 1936 года выпуску. Грузавік з даваеннага часу можна пабачыць у мастацкіх кіналентах: «Сын бацькі народаў», «Брэсцкая крэпасць», «Пяць нявест», «Наркомаўскі абоз», «Лета ваўкоў».

Што чакае ўнікальны для Беларусі музей далей? У стваральнікаў ёсць шмат ідэяў яго далейшага развіцця. Але пакуль яны застаюцца ў сакрэце, каб пазней ператварыцца ў сюрпрызы. У «А-100» спадзяюцца: вынікі прыемна здзівяць наведвальнікаў.




**Аляксандр Цэнцер каля ГАЗ-«Зінкі», з якой пачыналася А-100**

## «Эксклюзіўны шырпатрэб»

Адна з самых прыгожых ідэй, ужо ўвасобленых у жыццё «А-100», — бліскучы чорны аўтамабіль «Форд Т» у холе галоўнага офісу. Самая папулярная ў свеце машына амаль 100 гадоў таму, сягоння яна ператварылася ў эксклюзіўны рарытэт. Што ўражвае: гэтае аўто 1924 года выпуску зараз на ходу і ў добрым стане. Некалі такіх машын выпусцілі з канвеера заводаў «Форда» больш за 15 мільёнаў — гэта была самая масавая мадэль у ЗША. «Яна заваявала агульнае прызнанне тым, што была ў свой час універсальнай, — тлумачыць Уладзімір Георгіевіч. — І па праходнасці, і па ўзаемазамяняльнасці частак пры рамонце». Але мела і пэўныя недахопы, асабліва ў першых варыяцыях. Напрыклад, у халоднае надвор'е машыну трэба было заводзіць, круцячы рукаятку ўперадзе, як можна бычыць у фільмах нямога кіно. А паколькі масла было яшчэ не прагрэтае, счапленне не спрацоўвала — бывала, аўтамабіль кранаўся наперад проста на чалавека, які яго заводзіў. Бензабак знаходзіўся ззаду, пад пасажырскім сядзеннем, і бензін паступаў у рухавік самацёкам. Атрымлівалася, што падчас руху ўгору паліва не магло трапіць у рухавік з-за нахілу корпуса, і машына глохла.

Цікавая рэч таксама адбывалася з фарамі. Адзін час іх яркасць наўпрост залежала ад хуткасці руху аўтамабіля — працавалі ад дынама-машыны. Чым павольней ехала аўто, тым слабей свяцілі фары. Было няважна, туман ці змярканне, баіцца кіроўца ехаць хутка ці гэта фізічна немагчыма — атрымлівалася, што пры небяспечных дарожных сітуацыях фары свяцілі яшчэ слабей, чым звычайна. Але, нягледзячы на гэта, чатырохколавыя фордаўскія прыгажуны ўсё роўна лічыліся стагоддзе таму найлепшымі ў свеце аўтамабілямі.

## Аўтакаляндар А-100

У 2013 годзе намаганнямі Групы кампаній «А-100» і даследчыка гісторыі Уладзіміра Валажынскага быў створаны штодзённы каляндар-даведнік пра стварэнне і развіццё аўтамабільнай і паліўнай галіны ва ўсім свеце. На кожнай яго старонцы прыводзіцца яскравы факт з мінулага аўтазаправак, бензакалонак, вынаходніцтваў рухавікоў, смелых вылазак першых аўтааматараў... Каляндар праілюстраваны старымі фотаздымкамі са шматлікіх архіваў і глядзіцца як унікальнае мастацкае выданне.

## Беларусь аўтамабільная. 14 цікавых гістарычных фактаў

1. Першы аўтамабіль на тэрыторыі Беларусі з'явіўся ў 1895 годзе. Гэта адбылося праз 10 гадоў пасля яго вынаходніцтва дзякуючы міністру шляхоў зносінаў Расійскай імперыі князю М.І. Хілкова, які загадаў набыць для 2-й дыстанцыі Ковенскай дарогі «самарухомы экіпаж». Першым аўто стаў французскі легкавік «Панар-Левасор» (Panhard-Levassor), які перавозіў пасажыраў на Рыжска-Таўрагенскай шашы да сярэдзіны 1908 года.
2. Першая таксоўка праехала па Мінску 20 жніўня 1906 года — на год раней, чым у Маскве і Санкт-Пецярбургу. Уладальнікам таксі быў жыхар Мінска Іван Фёдараў — поўны цёзка знакамітага першадрукара, — які першы атрымаў дазвол гарадской управы на пасажыраперавозкі.
3. Грамадскі транспарт на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіўся ў 1909 годзе на паўднёвай і паўднёва-заходняй Міншчыне. Арганізавалі яго рух купец з Бабруйска Ф. Некрыч і ганаровы грамадзянін Слуцка І. Этынгер. У 1908 годзе яны заснавалі акцыянернае таварыства «Прадпрыемства тэрміновых аўтамабільных зносін». Актывам фірмы сталі тры аўтобусы нямецкай вытворчасці. Першыя перавозкі пасажыраў ажыццяўляліся па двух маршрутах: Слуцк — Старыя Дарогі і Слуцк—Ляхавічы. Адлегласць перавозак была адпаведна 51 і 94 кіламетры.
4. Першы грузавы аўтамабіль стаў ездзіць па Мінску ў 1911 годзе. Ён з'явіўся ў раёне Нямігі — на шпалернай фабрыцы Кантаровіча, якая месцілася, як і цяпер, на вуліцы Шпалернай (цяпер гэта тэрыторыя паміж станцыямі метро Няміга і Фрунзенская).
5. У 1912 годзе мінскія гарадскія ўлады дазволілі пасажыраперавозкі зноў. Забарона на іх існавала да гэтага таму, што паездка першай таксоўкі скончылася аварыяй, у якой моцна пацярпеў чалавек — рэпарцёры гарадскіх газет паведамлялі, што ён не меў шанцаў паправіцца. Па некаторых звестках, аварыя адбылася на схіле цяперашняй вуліцы Карла Маркса ў бок парку Горкага (тады — Аляксандраўская сада).
6. Са студзеня 1913 года ў Мінску працавала дзве таксоўкі, а першая стаянка іх месцілася «ля гарадскога сквера» — гэта вугал сквера насупраць гатэля «Еўропа». Менш чым праз год, напярэдадні Першай Сусветнай вайны, па горадзе ездзіла ўжо шэсць таксаматораў магутнасцю ад 20 да 35 конскіх сіл. Гэта былі машыны марак «Дарак», «Олдсмабіл», «Мерсэдэс», «Опель», «Форд». У таксі змяшчалася ад 4 да 6 пасажыраў.
7. Першыя пасажырскія аўтобусы пайшлі па Мінску крыху пазней — вясной 1914 года. Яны вазілі людзей ад цэнтра да Камароўкі, якая ў той час была ўскраінай горада.
8. Паводле розных крыніцаў, у 1915 годзе ў Мінску было ад 10 да 20 адзінак аўтамабільнай тэхнікі. Так званыя самаходныя экіпажы меліся ў мінскага губернатара А.Ф. Гірса, у камандзіра 4-га армейскага корпуса генерала Навасільцава, у арыстакрата-спартсмена Любанскага... Згодна з матэрыяламі Дзяржаўнага архіву, дзе захаваўся спіс беларускіх аўтаўладальнікаў на 27 студзеня 1916 года, 6 чалавек на той час мелі па аднай машыне. Князь Радзівіл з Нясвіжа і жыхар Мінска М. Пэрэльмутэр валодамі кожны двума аўто. Мінчук Васіль Цярэшчанка набыў тры аўтамабілі, а таксама пабудаваў для іх гараж і майстэрню.
9. У Беларусі машыны замаўлялі праз універсальную краму Левіна, а дастаўлялі іх праз Пецяргург, Рыгу і Маскву. Пакупнік меў нават магчымасць замовіць аўто разам з механікам-інструктарам.
10. Рост колькасці прыватных «самаходных карэт» стрымліваў не толькі кансерватызм і недавер да новага вынаходніцтва, але і высокія кошты. Згодна з гістарычнымі звесткамі, аўтамашына ў тыя часы каштавала больш за 2000 рублёў, у той час як карова — 5, ровар — 75, афіцэрскі скакун — каля 100 рублёў. Самая папулярная машына пачатку ХХ стагоддзя — амерыканскі «Ford T» — каштаваў у ЗША прыблізна 700 долараў. У Расійскай імперыі ён прадаваўся за 2500 рублёў.
11. Першыя беларускія перагоншчыкі 100 гадоў таму таксама прыганялі машыны з Германіі.
12. У 20-я гады ХХ стагоддзя (прынамсі, маюцца дакладныя звесткі пра 1928 год) бензінам гандлявалі... банкі. Паліва цалкам афіцыйна адпускалася са складу на вуліцы Грушаўскай, былі і іншыя падобныя склады. У той час гэта была звычайная гаспадарчая дзейнасць для банкаўскай сферы, якая прыносіла прыбыткі.
13. Першы ўгон аўтамабіля ў Мінску датуецца прыкладна 1912 годам. З ім звязана крыху смешная гісторыя. Абкрадзены багаты гараджанін вырашыў набыць новую машыну — і якое ж было яго здзіўленне, калі яму прадалі яго ўласную, скрадзеную!
14. Да рэвалюцыі і да пачатку 1930-х аўтамабілі часцей за ўсё ўганялі дзеля таго, каб... скрасці бензін. Паколькі машын былі адзінкі, вылічыць злодзея праваахоўным органам не складала праблемы. Вядома напаўлегендарная гісторыя пра тое, як на ўскраіне Мінска, капаючы катлаван для будаўніцтва, рабочыя знайшлі цэлую падземную сажалку з крадзенага паліва. Ці знайшлі яе стваральніка, гісторыя пакуль не ўдакладняе.



**Легендарны Форд Т**

**Таццяна Снітка**

# Ямайскі «Букер»

**Прэстыжная брытанская літаратурная прэмія «The Man Booker Prize» за 2015 год уручана пісьменніку з Ямайкі Марлон Джэймсу за твор «Кароткая гісторыя сямі забойстваў».**




44-гадовы Марлон Джэймс, які цяпер жыве ў ЗША, стаў першым ямайскім пісьменнікам, якога ўганаравалі гэтай узнагародай. Ён таксама стаў уладальнікам прэміяльнай сумы — 50 тысячаў фунтаў стэрлінгаў (каля 80 тысячаў даляраў ЗША). Іншыя пяць прэтэндэнтаў з шорт-ліста атрымалі па 2,5 тысячаў фунтаў.

«Кароткая гісторыя сямі забойстваў» апавядае пра выдуманы замах на знакамітага ямайскага спевака Боба Марлі ў 1976 годзе. Памер рамана — больш за 600 старонак, яго героі — 75 персанажаў.

На прэмію, акрамя кнігі М. Джэймса, таксама прэтэндавалі «Атласны востраў» брытанца Тома Макарці, «Рыбакі» нігерыйца Шыгазі Абіомы, «Сіняя шпулька» амерыканкі Энн Тайлер, «Год уцёкаў» брытанца індыйскага паходжання Санджыва Сахоты і «Маленькае жыццё» амерыканца Ханьі Янагіхары.

Букераўская прэмія была заснаваная ў 1968 годзе. З 2014 года на яе можа прэтэндаваць любы англамоўны пісьменнік, чые кнігі апублікаваныя ў Вялікабрытаніі. Раней узнагароду маглі атрымаць толькі аўтары з Вялікабрытаніі, Ірландыі і краінаў Брытанскай Садружнасці.




# Прэмія «Ніка»

**Лаўрэатам польскай літаратурнай прэміі «Ніка» стала грамадзянка Польшчы Вольга Такарчук, бацькі якой — выхадцы з Украіны.**

Кніга «Księgi Jakubowe» В. Такарчук прызнана лепшай за мінулы год. Пераможца прэстыжнай польскай літаратурнай прэміі была абвешчана ўвечары 4 кастрычніка. Акрамя статуэткі «Нікі» лаўрэатка атрымае фінансавую ўзнагароду ў памеры 100 000 злотых (каля 26 000 даляраў ЗША). Гэта ўжо другая ўзнагарода ў В. Такарчук. Першую прэмію яна атрымала ў 2008 годзе.

У фінал цяперашняй узнагароды ўвайшло сем кніг: шэсць раманаў і адзін зборнік вершаў. Арганізатарам прэміі з'яўляецца выданне «Gazeta Wyborcza».

# Чатыры «геніі Мак-Артура»

**У гэтым годзе спіс літаратараў-лаўрэатаў амерыканскай стыпендыі Мак-Артура, названай яшчэ «грантамі для геніяў», папоўніўся чатырма новымі імёнамі.**

Да слаўнай плеяды «залатых пёраў» далучыліся журналіст і мемуарыст Та-Нехісі Коўтс, празаік і паэт Бэн Лернер, паэт Элен Брайант Войт і драматург Лін-Мануэль Міранда.

Стыпендыя Фонда Джона Д. і Кэтрын Т. Мак-Артура ў памеры 625 000 даляраў ЗША штогод прысуджаецца самым таленавітым амерыканскім грамадзянам ці рэзідэнтам, якія праявілі сябе ў любой грамадска-значнай сферы дзейнасці. У гэтым годзе такіх шчасліўцаў аказалася 24, і сярод іх — чацвёра ўжо названыя майстры пісьменніцкага рамяства.

Асобнага слова заслугоўвае Та-Нехісі Коўтс. Гэты малады афраамерыканец, які працуе ў адным з выданняў Атланты, зарэкамендаваў сябе як аўтар кнігі мемуараў «Паміж светам і мной», якая ўвайшла ў лонг-ліст Нацыянальнай кніжнай прэміі жанру нон-фікшн і адзначанай самім прэзідэнтам Абамам у яго летнім спісе чытання. Гэты дакументальны раман выкладзены праз прызму ліста, напісанага Коўтс ягоным бацькам. У ім рупліва даследуецца гісторыя расавых адносінаў у ЗША — з моманту ўзнікнення рабства і сегрэгацыі ды самых апошніх падзеяў у Фергюсоне ды іншых раёнах краіны.

# Фрэдэрык Фарсайт — сакрэтны агент

**Найпапулярны празаік сучаснасці з Вялікабрытаніі, аўтар шпіёнскіх гісторый Фрэдэрык Фарсайт раскрыў галоўную таямніцу свайго жыцця.**



Спавядаючыся ў шматстаронкавай аўтабіяграфічнай працы пад назвай «Аўтсайдэр: Маё жыццё» англійскі раманіст прызнаўся, што амаль дваццаць гадоў быў сакрэтным агентам ангельскай спецслужбы МІ6. Празаік, якому цяпер 77 гадоў, распавёў у творы, як яго завербавала адзін з супрацоўнікаў ангельскай выведкі. Фарсайт працаваў у той час ваенным карэспандэнтам. Пачынаючы з 1967 па 1970 год ён знаходзіўся ў Нігерыі і пісаў рэпартажы пра вайсковыя падзеі, якія разгортваліся за самастойнасць невялікай непрызнанай дзяржавы, размешчанай на паўднёвым усходзе краіны. Яго дасведчанасць была вельмі карыснай спецслужбе.

Пра тое, як ён «адпрацоўваў» свой хлеб, Фрэдэрык Фарсайт распавёў пазней у сваёй першай кнізе «Гісторыя Біафры». Раман заснаваны на асабістым вопыце аўтара, але пра гэта стала вядома толькі цяпер. Дарэчы, пісьменнік запэўнівае, што ніколі не атрымліваў грошай за сваю працу рэзідэнтам. Зарабляў выключна журналісцкай і пісьменніцкай працай.

# Дорыс Лесінг: набелянтка пад выведкай

**Брытанская контрвыведка МІ5 каля 20 гадоў сачыла за «левай» пісьменніцай Дорыс Лесінг, якая была адным з ідэолагаў брытанскага фемінізму.**



МІ5 праслухоўвала тэлефонныя перамовы будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі, раскрывала яе карэспандэнцыю і ўважліва сачыла за перамяшчэннямі. Спецслужбам у тым таксама дапамагала спецыяльнае падраздзяленне паліцыі.

Д. Лесінг трапіла пад увагу спецслужбаў у пачатку 1940-х у Паўднёвай Радэзіі, калі яна — тады яшчэ Дорыс Тэйлер — выйшла замуж за камуніста Готфрыда Лесінга. У 1949 годзе пісьменніца развялася і пераехала з Афрыкі ў Вялікабрытанію.

У 1952-м служба знешняй выведкі МІ6 перадала МІ5 асабістыя характарыстыкі на ўсіх удзельнікаў групы брытанскіх аўтараў, якія наведалі Маскву. Сярод іх была і справа на Д. Лесінг. У ёй пазначаецца, што пісьменніца фанатычна верыць у камунізм і выступае супраць каланіялізму, захапляецца чарнаскурымі і лічыць заганным усё, што створана белым чалавекам.

Аднак у 1956 годзе пасля ўварвання «камуністаў» у Венгрыю Д. Лесінг пагадзілася падпісаць ліст супраць злачынстваў Савецкага Саюза. «The Daily Worker», друкаваны орган брытанскай кампартыі, адмовіўся друкаваць той ліст. Пасля гэтага пісьменніца выйшла з кампартыі. Аднак назіранне за ёй не спынілася.

У лістападзе 1962 года ў справе з'явіўся запіс аб тым, што Д. Лесінг працягвае падтрымліваць ультралевыя погляды, цікавіцца станам спраў у Афрыцы і выступае супраць расавай дыскрымінацыі. Таксама яна стала ўдзельнічаць у руху за ядзернае раззбраенне. Гэта апошні запіс у згаданай справе.

Некаторыя старонкі і абзацы ў рассакрэчаных дакументах адсутнічаюць — дзеля таго, каб абараніць інфарматараў. Магчыма, яны будуць рассакрэчаныя пазней.

У 2007 годзе Д. Лесінг стала лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры — па ўзросце самым сталым пісьменнікам, які калі-небудзь атрымаў гэтую прэмію (на той час ёй споўнілася 88 гадоў). Пры тым прысуджэнне ёй прэміі сама пісьменніца, якая неаднаразова крытыкавала Нобелеўскі камітэт, успрыняла як асабістую «катастрофу»...

Дорыс Лесінг памерла два гады таму, у лістападзе 2013 года, да канца жыцця застаючыся вернай сваім радыкальным поглядам.

# Кніга пра Крым

**Ва Украіне прэзентавалі зборнік навуковых працаў «Цірытака: Антычны горад Кімерыйскага Басфора».**

Ён стаў вынікам польска-украінскай экспедыцыі ў Крыме, якая вымушана была заўчасна спыніцца праз палітычныя падзеі 2014 года.

Кніга ўяўляе сабой справаздачу аб рабоце польскай археалагічнай місіі на раскопках антычнага горада Цірытака, які знаходзіцца каля сучаснай Керчы. Укладальнікам зборніка стаў Альфрэд Твардэцкі. Украінскія спецыялісты, сярод якіх Глеб Іванкін, Ала Буйскіх і Віктар Зінько, таксама дапамаглі з кнігай, якую прэзентавалі ў Нацыянальным мастацкім музеі Украіны. З 2008 года ўкраінская і польская місіі вялі раскопкі разам, пакуль палітычная сітуацыя не прымусіла спыніць працу. Не працягваць раскопкі вырашыў кіраўнік польскай археалагічнай місіі доктар А. Твардэцкі вясной 2014-га з-за небяспекі і неадназначнасці сітуацыі ды прававых нормаў.

Паколькі Крым прызнаны акупаванай тэрыторыяй, на яго землях нельга праводзіць раскопкі, акрамя выратавальных. Яшчэ адной прычынай сталі маральныя перакананні...




**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў (інфармацыя і фотаздымкі) Gazeta.ua, The Bookseller, Польскае радыё, The New York Times, The Guardian, Associated Press, Cultprostir, vsiknygy.net і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 6 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Вострасюжэтная драма «Зоя» (Расія).
**16.40** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.40** Зроблена ў Беларусі.
**18.00** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Зроблена ў Беларусі.
**22.05** Меладрама «Развітанне».
**23.45** Навіны.
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Вострасюжэтная драма «Зоя» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Чалавек з бульвара капуцынаў».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** Мой бізнэс.
**23.00** Трылер «Перш чым я засну».
**00.35** Легенды Live.
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Абсалютная ўлада».
**10.20** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Зялёны агурок.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Ашуканцы».
**22.10** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** «Сляпы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**11.05** Капейка ў капейку.
**11.40** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.55** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**18.55** Мастацкі фільм «Персі Джэксан і выкрадальнікі маланак».
**20.55** Хачу ў тэлевізар!
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.25** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.10** Рэпарцёр.
**00.55** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.10** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 5-я і 6-я серыі (СССР, 1977 г.).
**10.30** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм другі «Вялікая вайна. Фронт рускі. Фронт французскі». Дакументальны фільм.
**11.20** «Калейдаскоп».
**11.30** «Размаўляем па-беларуску».
**11.35** «Сіла веры».
**12.05** «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Кінааповесць (Беларусь, 1993 г.).
**13.35** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. Урачыстае закрыццё.
**14.45** «Калейдаскоп».
**14.55** «Размаўляем па-беларуску».
**15.05** «Палкоўніку ніхто не піша...» Драма (Іспанія, Мексіка, Францыя, 1999 г.).
**17.00** «Раман з лёсам». Пані Малкіна - чэшская Ранеўская.
**17.40** «У адзін цудоўны дзень». Лірычная камедыя (СССР, 1976 г.).
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.55** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 7-я серыя (СССР, 1977 г.).
**20.10** «Камертон». Народны артыст Расіі, рэжысёр Мікіта Міхалкоў.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм другі «Вялікая вайна. Фронт рускі. Фронт французскі». Дакументальны фільм.
**21.50** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 8-я серыя (СССР, 1977 г.).
**23.10** «Камертон». Народны артыст Расіі, рэжысёр Мікіта Міхалкоў.
**23.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. Чыкага - Аклахома.
**10.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**16.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама - Вільярэал.
**18.05** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**18.40** Піт-стоп.
**19.15** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**20.25** Хакей. Латвія - Беларусь.
**22.40** Еўрапейскі покерны тур.
**23.35** PRO спорт. Навіны.
**23.45** Баскетбол. НБА. Чыкага - Аклахома.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнамордава.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.05** Тбілісі ад золку да змяркання, д/ф.
**11.50** Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду, д/ф.
**12.45** Студыя «Белсат».
**13.15** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнамордава.
**13.45** Студыя «Белсат».
**16.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.25** Тбілісі ад золку да змяркання, д/ф.
**17.10** Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду, д/ф.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Беларусы ў Грунвальдскай бітве.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** Абязгучаныя, д/ф.
**23.50** Бубачкі, м/ф.
**01.25** Студыя «Белсат».

## 7 ЛІСТАПАДА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Існасць.
**07.50** Меладрама «Багатая Маша».
**09.00** Навіны.
**09.40** Трансфармацыя.
**10.15** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток шоў.
**12.50** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**13.25** Нацыянальная бяспека.
**14.25** Лістапад-2015.
**15.00** Навіны.
**15.15** Краіна.
**15.45** Меладрама «Знарок не прыдумаеш».
**17.45** Ваенная драма «Снайпер. Апошні стрэл».
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Зноў адзін на ўсіх».
**22.40** Дэтэктыў «Забыты».
**01.25** Дзень спорту.

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.30** Смак.
**11.10** Ідэальны рамонт.
**12.10** Разумніцы і разумнікі.
**12.55** Рэаліці-шоў «Аўтобус».
**13.45** Мастацкі фільм «Беражыце мужчын».
**15.15** Следства пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Канцэрт Пелагеі «Вішнёвы сад».
**18.20** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** Мастацкі фільм «Мілы сябар».
**00.20** Мастацкі фільм «Людзі ў цэменце».

### СТВ

**06.50** «Міколка - Паравоз».
**08.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**10.05** Сакрэтныя тэрыторыі.
**11.20** «Мінск і мінчане».
**12.15** «Здабытак Рэспублікі».
**13.30** «24 гадзіны».
**15.00** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**15.50** «Вялікі горад».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.40** «Наша справа».
**16.55** Дарагая перадача.
**17.05** «Дзяржаўная мяжа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Дзённік памяці».
**22.20** Дакументальны праект.
**00.30** «Здабытак Рэспублікі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**07.45** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**08.15** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**10.20** Азбука густу.
**10.55** Серыял «Прыгоды Дзіна».
**11.10** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**12.25** Тэлебарометр.
**12.30** Капейка ў капейку.
**13.10** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**15.00** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**16.00** Фільм «Непадкантрольны».
**17.50** Бітва экстрасэнсаў.
**18.00** Ваша лато.
**19.50** «Панаехалі». Рэаліці-шоў.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Меладрама «Чужаземка».
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.35** Хачу ў тэлевізар!
**23.40** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**00.40** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 7-я і 8-я серыі (СССР, 1977 г.).
**10.50** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм трэці «Галгофа Расійскай імперыі». Дакументальны фільм.
**11.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.10** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. «Усё лепшае - для вас».
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Раба кахання». Меладрама («СССР, 1975 г.).
**15.05** «Камертон». Народны артыст Расіі, рэжысёр Мікіта Міхалкоў.
**15.35** «Русь былинная». Канцэрт казачага ансамбля «Атаман».
**17.10** «Дэпутат Балтыкі». Драма (СССР, 1936 г.).
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.55** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 9-я серыя (СССР, 1977 г.).
**20.00** Леанід Млечын прадстаўляе. «Ад Лютаўскай рэвалюцыі да Кастрычніцкай контррэвалюцыі». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм трэці «Галгофа Расійскай імперыі». Дакументальны фільм.
**21.45** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 10-я серыя (СССР, 1977 г.).
**23.00** «Бард-парад».
**23.40** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.20** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Баскетбол. НБА. Сакрамэнта - Х'юстан.
**08.50** Формула-Е. Гран-пры Малайзіі.
**10.05** Хакей. Латвія - Беларусь.
**11.40** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**13.30** Піт-стоп.
**14.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**16.00** Баскетбол. НБА. Сакрамэнта - Х'юстан.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Юнайтэд - Вэст Бромвіч.
**19.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**20.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Сток Сіці - Чэлсі.
**22.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**23.25** PRO спорт. Навіны.
**23.35** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Беларусы ў Грунвальдскай бітве.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Вада.
**10.20** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.25** Між намі, буслямі, мультсерыял.
**10.50** Машына зменаў, тэлесерыял.
**11.20** Канцэрт N. R. M.: ч. 2.
**12.20** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнамордава.
**12.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.15** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж.
**13.30** Бубачкі, м/ф.
**15.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.40** ГУЛаг схаваны ў памяці, дакументальны фільм.
**16.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.55** Беларусы ў Польшчы.
**17.15** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**18.00** Ратаўнікі, серыял.
**18.45** Загадкі беларускай гісторыі: Гарадзенская Троя.
**19.00** Гітлер, Сталін і я, д/ф, 2001 г., Чэхія.
**19.55** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Мова нанова: Зоркі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Форум (ток-шоу): Другая хваля.
**21.55** Невядомая Беларусь: Лінія Сталіна на дзіцячай далоні, д/ф, 2015 г., Беларусь.
**23.00** Цырк «Каламбія», драма.
**00.54** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**01.20** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**01.55** Студыя «Белсат».
**02.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 8 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.25** Меладрама «Там, дзе ёсць шчасце для мяне».
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Гісторыя рамонту.
**10.20** 50 рэцэптаў першага.
**11.00** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона Х.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Камедыя «Масква - Лапушкі».
**17.20** Вострасюжэтная драма «Тры таварышы».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Знарок не прыдумаеш».
**00.55** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».

### НТВ

**06.30** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**06.20** Сардэчна паскардзіцца.
**07.40** Аўтапанарама.
**08.10** «Сірано дэ Бержарак».
**10.10** Чысты праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 6». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Бітлз. На дапамогу!».
**15.25** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** «Аўтапанарама».
**17.20** Ваенная таямніца.
**19.30** Тыдзень.
**20.25** «Дрэнная мамачка».
**22.10** Дакументальны праект.
**23.05** «Бітлз. На дапамогу!».
**00.35** Дакументальны праект.

### СТВ

**06.20** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** «Спецыяліст».
**09.25** Бітва закінутых сусветаў.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Культурная сталіца.
**12.15** Далёкія сваякі.
**12.35** «Салдаты 5». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Таткі».
**15.20** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Аўтапанарама.
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Галодныя гульні: І ўспыхне полымя».
**22.50** «Званая вячэра».
**00.35** «Таткі».
**02.05** «Масква. Дзень і ноч».

### 2 Беларусь

**07.00** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.15** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**10.10** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.25** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.00** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**15.05** Фільм «Персі Джэксан і выкрадальнікі маланак».
**17.10** Фільм «Непадкантрольны».
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда 2» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.20** Хачу ў тэлевізар!
**23.25** Меладрама «Чужаземка».

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Размаўляем па-беларуску».
**08.20** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 9-я і 10-я серыі (СССР, 1977 г.).
**10.35** «Полымя і попел першай сусветнай. Сёстры неміласэрнай вайны». Дакументальны фільм.
**11.00** «Калейдаскоп».
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: Алесь Камоцкі, Аляксандр Баль, Вольга Залеская.
**12.00** «Наперад у мінулае».
**12.25** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**13.20** «Справы фамільныя». «Цукровы магнат».
**13.50** «Музеі Беларусі». Музей беларускага кнігадрукавання і Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага.
**14.15** «Азёрная Адысея». Возера Атолава, Крывое, Чарбамысла і Глыбокае.
**14.45** «Калейдаскоп».
**14.55** «Размаўляем па-беларуску».
**15.05** «Гітара па крузе». Валерый Чэчат, выканаўца бардаўскай класікі.
**16.05** «Па галоўнай вуліцы з аркестрам». Трагікамедыя (СССР, 1986 г.).
**17.35** Тэлеверсія адкрыцця XXII Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад-2015».
**18.05** «Калейдаскоп».
**18.15** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 11-я і 12-я серыі (СССР, 1977 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Міхаіл Таніч: Усё добрае - не забываецца..». Канцэрт.
**22.00** «Блуканне па пакутах». Гістарычная драма. 13-я серыя, заключная (СССР, 1977 г.).
**23.10** Леанід Млечын прадстаўляе. «Ад Лютаўскай рэвалюцыі да Кастрычніцкай фконтррэвалюцыі». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**23.50** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.20** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Сток Сіці - Чэлсі.
**09.20** Баскетбол. НБА. Чыкага - Мінесота.
**11.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Жухай.
**13.00** Формула-Е. Гран-пры Малайзіі.
**13.30** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**13.55** Футбол. Матч апошняга тура.
**15.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**16.25** Баскетбол. НБА. Цмокі - Німбурк.
**18.20** Фактар сілы.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Арсенал - Тотэнхэм.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Астан Віла - Манчэстэр Сіці.
**22.55** Авертайм.
**23.20** PRO спорт. Навіны.
**23.30** Баскетбол. НБА. Кліўленд - Індыяна.

### Белсат TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Вада.
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Між намі, буслямі, мультсерыял.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Уладзімір Валодзін і Валерыя Чарнаморцава.
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.35** Загадкі беларускай гісторыі: Гарадзенская Троя.
**10.50** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Як людзі навучыліся чытаць і пісаць.
**11.00** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.05** Букаландыя, мультсерыял.
**11.30** Машына зменаў, тэлесерыял.
**12.00** Мова нанова: Зоркі.
**12.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.00** Гітлер, Сталін і я, д/ф.
**14.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.00** Форум (ток-шоу): Другая хваля.
**15.45** Цырк «Каламбія», драма.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.55** Кіеў ад золку да змяркання, дакументальны фільм.
**18.40** Невядомая Беларусь: Лінія Сталіна на дзіцячай далоні, дакументальны фільм.
**19.45** Сведкі: «Мартыралог».
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Людзі з мячыкамі, м/ф, 2013 г., Венгрыя.
**21.25** Кінаклуб: «Анжэль і Тані».
**21.40** Анжэль і Тані, м/ф.
**23.10** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**00.00** ГУЛаг схаваны ў памяці, дакументальны фільм.


# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА
ф. ПС 112
ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД
№ ______ (вход. по карте отправки)
ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐
(сумма цифрами) (сумма прописью)
ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926
КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)
ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС
Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное
(назначение платежа)
(письменное сообщение)
Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ
ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)
Вид платежа | Дата | Сумма
Период подписки указывает абонент
Плательщик
Пеня ______
Всего ______
Кассир

Новы час
novychas.info
Твой час — твой лёс!

# Ці паўстане Чацвёртая Рэч Паспалітая?

Алег НОВІКАЎ

**Кансерватыўная партыя «Права і Справядлівасць» (PiS ) — пераможца польскіх парламенцкіх выбараў 25 кастрычніка, абяцае палякам новую Канстытуцыю. Што за дзяржаву плануюць пабудаваць Яраслаў Качыньскі і яго аднапартыйцы?**

Аб праекце новай канстытуцыі польскія правыя кажуць даўно. Цяперашні варыянт Асноўнага закону яны разглядаюць як вынік кампрамісу, які быў заключаны ў рамках Круглага стала — перамоваў камуністаў і «Салідарнасці» ў 1989 годзе. На перамовах была прынятая дарожная карта польскай трансфармацыі, у тым ліку абмеркаваныя контуры канстытуцыі посткамуністычнай Польшчы. Сама Канстытуцыя Трэцяй Рэчы Паспалітай, што была прынятая ў 1997 годзе, на першы погляд, мала адрозніваецца ад асноўных законаў еўрапейскіх дзяржаў з парламенцка-прэзідэнцкай сістэмай.

Але, на думку правых партый, у гістарычнай перспектыве гэты тэкст заклаў прававы фундамент для прыватызацыі на карысць экс-камуністаў, дазволіў ім пазбегнуць адказнасці за былыя злачынствы. Тая Канстытуцыя, маўляў, таксама дазволіла абмежаваць суверэнітэт Польшчы ў рамках еўраінтэграцыі, адкрыла допуск іншаземнаму капіталу, які скупіў польскую гаспадарку і г.д. А слабая роля дзяржавы ў эканоміцы спрыяла росту эміграцыі.

У 2010 годзе, калі PiS знаходзіўся пры ўладзе, быў распрацаваны праект альтэрнатыўнай Канстытуцыі. Яе пісалі пад новую дзяржаву — Чацвёртую Рэч Паспалітую. Дакумент, які складаецца са 199 пунктаў, пасля публікацыі выклікаў шмат заўваг.



Фота www.rts.ch

**Упершыню за 25 гадоў пасля краху камунізму ў адной з польскіх партый з'явілася магчымасць самастойна сфармаваць кабінет**

На думку крытыкаў, браты Качыньскія вырашылі стварыць у Польшчы нейкі гібрыд клерыкальнай дзяржавы і цяперашняй Венгрыі, якой кіруе нацыянал-кансерватыўны ўрад Віктара Орбана. Варта адзначыць, што ідэя пісаць канстытуцыю ў польскіх правых узнікла ў хуткім часе пасля таго, як сваю канстытуцыю пралабіравалі іх венгерскія аднадумцы.

Прэтэнзіі да новага варыянту канстытуцыі пачынаюцца з прэамбулы, дзе некалькі разоў узгадваецца, што палякі — хрысціянская нацыя, а ўвесь лёс народу звязаны са справай божай. На думку юрыстаў, знак роўнасці паміж вернікамі і грамадзянамі супярэчыць прынцыпам дэмакратыі, паколькі свобода веры — гэта асабістая справа кожнага.

Акрамя таго, у варыянце канстытуцыі ад PiS няма прысутнага ў цяперашняй параграфу пра тое, што рэлігійная адукацыя не з'яўляецца абавязковай, а правы вернікаў і атэістаў у грамадстве маюць быць збалансаванымі. Гэта, на думку некаторых аналітыкаў, робіць рэлігійныя практыкі абавязковымі, а таксама дае магчымасць абмежавання ў правах таго, хто іх праігнаруе. Закладзеная ў асноўны закон дэкларацыя пра ролю царквы, быццам, будзе падставай для новых падаткаў на карысць Касцёла. Знік з Канстытуцыі і блок пра тое, што «ад нараджэння кожны чалавек мае годнасць».

Няма таксама ў тэксце слоў пра тое, што мужчына і жанчына маюць роўныя правы. Незадавальненне феміністак таксама выклікаў пункт пра тое, што дзяржава гарантуе права на жыццё «ад пачатку да натуральнай смерці». Такая фраза можа быць выкарыстаная для атакі на права на аборт. Таксама праект новай канстытуцыі падкрэслівае ролю сям'і, якая можа быць «выключна сувяззю мужчыны і жанчыны».

Не прайшлі крытыкі і міма пункту пра люстрацыю, з дапамогай якой польскія правыя абяцаюць ачысціць грамадства ад камуністычных злачынцаў і спадчыны камуністычнай Польшчы. Абстрактны характар прапісанай у праекце такой меры, як «барацьба з сімваламі камунізму і нацызму», прадстаўляе, на думку інтэлігенцыі, пагрозу для даследаванняў у сферы гуманітарных дысцыплін. Шмат каго перапужала, што «дзяржава дзейнічае ў імя агульнага дабрабыту». Зразумела, што барацьбой за агульны дабрабыт можна апраўдаць любыя ўчынкі.

«Атрымліваецца сістэма, у якой Касцёл не мае нейтральнай пазіцыі адносна дзяржавы і грамадства. Прапанаваная мадэль PiS — гэта яшчэ не тэакратычная дзяржава, аднак яна надае царкве галоўную ролю ў дзяржаве, або, лепш сказаць, дзяржаве польскага каталіцкага народу», — пісала ў 2010 годзе «Gazeta Wyborcza».

Так ці інакш, смаленская катастрофа, у выніку якой загінула ўся кансерватыўная эліта разам з прэзідэнтам Лехам Качыньскім, і прыход да ўлады лібералаў змянілі кан'юктуру. Тэма Чацвёртай Рэчы Паспалітай адышла на другі план грамадскай дыскусіі.

Але рэнесанс польскіх правых, што пачаўся гэтай вясной, зноў актуалізаваў пытанне прыняцця новай канстытуцыі. Яшчэ падчас прэзідэнцкай кампаніі Анджэй Дуда абяцаў канстытуцыйныя змены. Пасля 25 кастрычніка такая перспектыва падаецца непазбежнай. Электарат кансерватараў папросту не зразумее, чаму Дуда і Качыньскі не скарысталіся фантастычнымі ўмовамі для таго, каб пакончыць з ненавіснай ім Трэцяй Рэччу Паспалітай

Нагадаем, што ўпершыню за 25 гадоў пасля краху камунізму ў адной з польскіх партый з'явілася магчымасць самастойна сфармаваць кабінет і разам з іншымі правымі партыямі ў Сейме атрымаць канстытуцыйную большасць. Акрамя таго, калі верыць прэсе, цяперашні прэзідэнт Анджэй Дуда як адказны за прававы дэпартамент адміністрацыі Леха Качыньскага, асабіста курыраваў працу над праектам асноўнага закону.

Сёння на старонках левых і ліберальных СМІ пануе татальная паніка. Адзін з публіцыстаў ліберальнага часопісу «Polityka» ўвогуле піша, што «дэмакратычны эксперымент у Польшчы закончыўся». Аднак пакуль паддавацца панічным настроям, думаецца, рана. У тым ліку таму, што Анджэй Дуда раней абяцаў, што кожная папраўка ў Канстытуцыю будзе прымацца праз рэферэндум.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі адбіліся ў армянскіх медыя толькі лічбамі разгромнай перамогі Аляксандра Лукашэнкі. «А што, у Беларусі былі выбары?», «Там усё нармальна, не тое, што ў нас», «Народ любіць Лукашэнку», «Бацька не дазваляе красці», «Ён і на Расію агрызаецца», «Сюды б такога»… Так рэагавалі людзі на мае спробы загаварыць аб выбарах у Беларусі на вуліцах Ерэвана, у транспарце, спартзале, са знаёмымі. Атмасфера страху, цэнтралізацыя ўлады, масавыя рэпрэсіі ў дачыненні да іншадумцаў, адсутнасць незалежных тэлеканалаў, судовыя і міліцэйскія бясчынства, татальны кантроль эканомікі, савецкая інерцыя, расійскі ўплыў — аказваецца, агульных тэмаў паміж рэспублікамі, якія Расія ў чарговы раз аб'яднала, менш не стала.

**«Экспресс» (Арменія)**

Калі б Кіеў у цяперашняй сітуацыі мог дазволіць сабе выступіць правакатарам, яму абавязкова варта было б звярнуцца да беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з просьбай аб рээкспарце газу ва Украіну. Абавязковая ўмова тут — прыцягненне да працэсу Еўрасаюза, які мог бы паставіць умовай продажу паліва Украіне поўную адмену санкцый. Відавочна, што беларускі прэзідэнт у гэтай сітуацыі прыме рашэнне, найбольш выгаднае для Масквы, паколькі альтэрнатыў у рэспубліцы, якая залежыць ад РФ, пакуль няма. Аднак ускалыхнуць сітуацыю, у тым ліку падвергнуць праверцы ролю Лукашэнкі ў Мінскіх пагадненнях, можна было б грунтоўна.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Эксперты яшчэ да выбараў казалі пра тое, што цяпер у беларускім урадзе моц набірае рынкавае лобі, на чале якога Кірыл Руды, 37-гадовы доктар эканамічных навук, які стажыраваўся ў ЗША і шмат прапрацаваў у Кітаі. Аналагічных поглядаў прытрымліваюцца ў Нацбанку, куды прыйшлі працаваць з камерцыйных банкаў адукаваныя фінансісты. (…) Але галоўная перашкода на шляху рэформаў — гэта, вядома, Лукашэнка. У ходзе нарады наконт эканамічнай палітыкі ўсе прапановы рыначнікаў ён назваў «кабінетнымі праектамі», якія «будуюцца на падручніках эканомікі з ВНУ». Паводле інфармацыі «НГ», рынкавае лобі спадзяецца, што здаровы сэнс пераможа. Да гэтага падштурхоўвае сітуацыя ў краіне і адсутнасць сродкаў для далейшага падтрымання неэфектыўнай эканамічнай мадэлі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Шыльды, транспаранты, указальнікі — вуліцы беларускіх гарадоў апошнія гады «паціху» перажываюць дэрусіфікацыю. І самае дзіўнае, што насельніцтва да гэтага прывыкае і ставіцца некрытычна. Спробы перацягнуць званне «незалежнік» з Пазняка, Статкевіча і каго заўгодна з беларускіх апазіцыянераў на сябе наўрад ці характарызуюць Лукашэнку з лепшага боку. Але што яшчэ горш — меры, якім ён як мінімум не перашкаджае, вядуць да падрыву дзяржаўнасці і распрацоўкі глебы для празаходняга перавароту. Нават калі ён надзене вышыванку і будзе гаварыць толькі на мове, гэта ўсё роўна не дадасць Бацьку сімпатый з боку вечна незадаволеных апазіцыянераў. Засталося толькі ненадакучліва растлумачыць яму гэты факт.

**«Военное обозрение» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Жанчына-прэзідэнт ужо была

Першыя дэбаты прэтэндэнтаў у кандыдаты ад Дэмакратычнай партыі на прэзідэнцкіх выбарах 2016 года закончыліся перамогай Хілары Клінтан. З улікам таго, што ў лагеры рэспубліканцаў тон задаюць правыя папулісты, шмат хто прагназуе прыход у Белы дом першай жанчыны-прэзідэнта. Між тым, гісторыкі аспрэчваюць гэты тэзіс. У прэсе з'явілася шмат артыкулаў пра Эдзіт Вільсан — жонку прэзідэнта Томаса Вудра Вільсана. Менавіта яна, на думку аўтараў артыкулаў, па сутнасці была прэзідэнтам ЗША ў 1919 годзе. Справа ў тым, што яе муж настолькі моцна захварэў пасля туру па кране, што ў выніку аказаўся няздольны рухацца. У такой сітуацыі, паводле Канстытуцыі, функцыі прэзідэнта павінен выконваць віцэ-прэзідэнт. Аднак чамусьці Томас Маршал — тагачасны віцэ-прэзідэнт, спалохаўся адказнасці. У выніку кулуарна міністры вырашылі, што ад імя Вільсана можа дзейнічаць яго жонка. Нягледзячы на тое, што хутка чуткі пра жанчыну-прэзідэнта патрапілі ў прэсу, негатыўных рэакцый гэта не выклікала. У тым жа 1919 годзе Вільсан памёр, і «прэзідэнцтва» Эдзіт закончылася.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў не зразумеў жарт

У Казахстане спыненая справа супраць Мурата Целібекава, лідара эксцэнтрычнай групоўкі «Саюз мусульман», аўтара кнігі «Вецер з вуліцы», якую адпаведныя органы прызналі небяспечнай для грамадства. Кніга была напісаная ажно ў 1992 годзе. Паколькі аўтар не знайшоў выдаўца, ён папросту неяк выклаў тэкст у інтэрнэт і забыўся пра свае літаратурныя амбіцыі. І вось нарэшце знайшліся людзі, якія прачыталі «Вецер з вуліцы», адчулі сябе пакрыўджанымі і падалі на аўтара ў суд. Практычна ўсе згодныя, што справа Целібекава мае палітычны падтэкст. Найбольш папулярная версія — камусьці ў Астане (магчыма, самому Назарбаеву) не спадабалася нядаўняя ініцыятыва «Саюза мусульман», які заклікаў улады ўсталяваць максімальны ўзрост для прэзідэнта ў 80 гадоў. Саюз мусульман прапанаваў «у выпадку, калі кіраўнік дзяржавы па дасягненні 80-гадовага ўзросту імкнецца і далей кіраваць краінай, ён павінен быць смяротна пакараны». Паколькі ў гэтым годзе Назарбаеў адсвяткаваў 75-ты юбілей, то ў ініцыятыве мусульман яўна пабачылі жарт з гаранта. Пакуль не зразумела, чаму справу прыпынілі. Магчыма, улады вырашылі не сварыцца з вядучымі казахазнаўцамі замежжа, якія публічна патрымалі Целібекава.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. Распавесці праўду пра Стыва Джобса

У Нью-Ёрку ў рамках аднаго з фестываляў прайшла прэм'ерная дэманстрацыя фільма «Стыў Джобс», што распавядае пра стваральніка кампаніі «Apple». Прэм'ера выклікала гнеў прафсаюзных цэнтраў ЗША і грамадскіх актывістаў. На іх думку, стужка паказвае Джобса абсалютна аднабакова. Справа ў тым, што яе аўтарамі ігнаруецца роля, якую адыграла і дасюль адыгрывае карпарацыя «Apple» ў эксплуатацыі кітайскіх працоўных. Усім вядома, што прадукцыя «Apple» вырабляецца ў Кітаі, аднак мала каму вядома, што менавіта заводы кампаніі Джобса лічацца самымі кепскімі з пункту гледжання стандартаў працы. Паводле арганізацыі China Labor Watch, людзі працуюць па 12 гадзінаў. Відавочна, што Джобс ведаў пра сітуацыю на сваіх прадпрыемствах. Яго кампанія неаднаразова абяцала палепшыць стан рабочых, аднак у выніку ўсё засталося, як і раней. Акрамя таго, Джобс меў праблемы з падатковай. У 2013 годзе актывісты перадалі ў Сенат інфармацыю пра тое, што фірма схавала ад бюджэту 78 мільёнаў долараў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Дзень незалежнасці Чувашыі

Дваццаць пяць гадоў таму была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Чувашыі. Гэта быў адзін з самых радыкальных незалежніцкіх маніфестаў сярод аўтаноміў Расійскай Федэрацыі. «Чувашыя ёсць суверэнная дзяржава», — гаварылася ў дакуменце, які ўстанавіў у рэспубліцы вяршэнства Канстытуцыі і законаў Чувашыі. Законы СССР і РСФСР прызнаваліся «толькі ў тым выпадку, калі яны не супярэчаць законам Чувашыі». З улікам радыкальнасці заявы, нічога дзіўнага, што расійскія ўлады пра тую Дэкларацыю вырашылі забыць. У 2001 годзе парламент Чувашыі прыняў закон, па якім рэспубліканскае заканадаўства «прыводзілася ў адпаведнасць» з федэральным». Дэпутаты вырашылі лічыць, што Дэкларацыя аб суверэнітэце «страціла сваю сілу», бо гэты дакумент «носіць характар урачыстай праграмнай заявы». У цяперашняй Чувашыі пра 24 кастрычніка 1990 года (дзень прыняцця дэкларацыі) прынцыпова не ўзгадваюць. Але на дапамогу чувашам прыйшлі татары. Актывісты Саюза татарскай моладзі накіраваліся ў сталіцу Чувашыі, дзе распаўсюдзілі на цэнтральных вуліцах Чэбаксар тысячу чувашскай сцяжкоў у рамках салідарнасці цюркскіх народаў.

**Паводле расійскай прэсы**

# Балгарыя — за электронную дэмакратыю

*Алег НОВІКАЎ*



**На рэферэндуме 25 кастрычніка балгары прагаласавалі за ўвядзенне ў краіне інтэрнэт-галасавання. Гэтым ініцыятары рэферэндуму спадзяюцца надаць балгарскай дэмакратыі новае дыханне.**

Рэферэндум праходзіў адначасова з мясцовымі выбарамі, і таму яўка была дастаткова высокая. З тых, хто прыйшоў на ўчасткі, прыблізна 1,7 мільёна падтрымалі ідэю інтэрнэт-галасавання, або так званы I-Voting. Супраць прагаласавала 24 працэнты.

Гэта не значыць, што ў Балгарыі так шмат праціўнікаў інавацый. Хутчэй, кажучы «не», яны жадалі паказаць дулю ўрадавай партыі ГЕРБ, чыё кіраўніцтва падтрымала ў свой час незвычайную рэформу выбарчага кодэксу. Дарэчы, партыі ўрадавай кааліцыі — кансерватыўны ГЕРБ і правы «Рэфармісцкі блок» — у выніку перамаглі на выбарах.

Хаця партыі-пераможцы абяцаюць выбаршчыкам вялікія перамены, большасць каментатараў звязваюць надзею на лепшае не з палітыкамі, а менавіта з сістэмай I-Voting. Балгарская дэмакратыя перажывае не самыя лепшыя часы. Энтузіязм 1990-х гадоў саступіў месца татальнай фрустрацыі. Людзі расчараваныя ў дэмакратыі праз засілле алігархаў і палітычную карупцыю. Калі даць хабар выбарчай камісіі нельга, у ход ідуць брудныя выбарчыя тэхналогіі. Паводле тутэйшых газет, у Балгарыі напрацаваны цэлы вагон прыёмаў для атрымання патрэбнага электаральнага выніку. Самым экзатычным метадам падаецца штучнае стварэнне на тэрыторыі выбарчай акругі нейкай праблемы, напрыклад, экалагічнай. Пасля ў прысутнасці тэлекамер на дапамогу людзям у вырашэнні праблемы прыходзіць кандыдат-палітык, які сам гэтую праблему і замовіў.

Не выпадкова колькасць аматараў хадзіць да выбарчых скрыняў у Балгарыі стабільна скарачаецца. Адначасова грамадскі пратэст усё часцей набывае фармат радыкальных вулічных акцый, як гэта было ў 2013–2014 гадах. Тады, пратэстуючы супраць новых коштаў на газ, балгары нават публічна палілі самі сябе.

Такі трэнд каталізаваў дэбаты пра інстытуцыйныя рэформы. Пасля шматлікіх канферэнцый, ток-шоў і вывучэння замежнага вопыту, выйсце вырашылі шукаць у павялічэнні магчымасцяў кантролю з боку грамадзян. У студзені 2014-га парламент пачаў разглядаць канкрэтныя законапраекты. Прапаноў было шмат, аднак у выніку перамагла ідэя ўвесці I-Voting.

Важны аспект на карысць I-Voting звязаны з вялікімі маштабамі працоўнай эміграцыі з Балгарыі. Нагадаем, што сёння 2 з 7,2 мільёна балгар жывуць за яе межамі, што складае 20 працэнтаў электарату. Пры гэтым, як сведчыць статыстыка, толькі 10 працэнтаў балгар у замежжы ходзяць у пасольствы ў дзень выбараў на радзіме, каб выканаць свой грамадзянскі абавязак. За кошт інтэрнэта, на думку лабістаў I-Voting, балгары-гастарбайтэры маглі б удзельнічаць у палітычным працэсе.

Але сацыялістычны ўрад, які знаходзіўся тады пры ўладзе, заблакаваў праект. Зялёнае святло яму дала правая кааліцыя пад кіраўніцтвам Бойкі Барысава, якая перамагла на выбарах восенню 2014-га. У ліпені 2015-га ўсе супярэчнасці наконт закону пра I-Voting унутры кіруючай кааліцыі былі ўзгодненыя, і яго праз адпаведнае галасаванне адправілі на кастрычніцкі рэферэндум. Такім чынам, Балгарыя стала трэцяй краінай у свеце, дзе ў выбарчым заканадаўстве прысутнічае такая норма, як «электроннае галасаванне». Раней падобныя законы былі прынятыя ў Эстоніі і Швейцарыі.

Не паспелі ініцыятары закону адзначыць перамогу, як усё гучней сталі галасы песімістаў. Іх галоўныя аргументы тычацца палажэння канстытуцыі, што гарантуе балгарам права на таемнае галасаванне. Галасаваць праз электронныя лісты ананімна не атрымаецца, а значыць, палітычная сіла, якая прайграла выбары, атрымлівае аргумент, каб аспрэчыць афіцыйныя вынікі праз суд. Менавіта таму ў 2011 годзе сафійскі суд забараніў пілотны праект I-Voting, які спрабавалі арганізаваць на адной са сталічных акругаў. У дадатак магчымасць кантралявацца змест электроннага выбарчага бюлетэня адчыняе новыя гарызонты для подкупу выбарцаў.

Акрамя таго на Балканах праз невялікія заробкі і распаўсюджаны крымінал знайсці групу кампутаршчыкаў, гатовую атакаваць сайт балгарскага ЦВК, будзе не вельмі цяжка. Крытыкі галасавання праз інтэрнэт спасылаюцца таксама на той факт, што балгарская кампутарная сфера славутая сваімі хакерамі і аўтарамі кампутарных вірусаў. Самы іранічны контраргумент прапанавалі мясцовыя гумарысты. Па іх словах, краіна даўно ўжо не бачыла проста нармальных выбараў. Можа, паспрабаваць для пачатку правесці хаця б адно нармальнае празрыстае галасаванне без карупцыі і подкупаў, а пасля займацца тэхнічна складанымі мерапрыемствамі.

Адзін з самых незвычайных аргументаў супраць новага заканадаўства прапанавалі культуролагі. На іх думку, за гады масавай міграцыі балгар за мяжу там склалася камуна з абсалютна іншымі каштоўнасцямі і забабонамі, чым у Балгарыі. Іх уплыў на палітычны працэс на радзіме праз сістэму I-Voting можа мець самыя непрадказальныя наступствы. Напрыклад, балгарам-эмігрантам можа быць абсалютна не цікавы стан сацыяльнай абароненасці ў Балгарыі або нейкія інфраструктурныя праекты. У перспектыве гэта можа правесці не да адзінства балгараў, а, наадварот, да канфлікту.

Нарэшце, некаторыя палітолагі лічаць, што балгары вельмі хутка расчаруюцца ў лічбавай дэмакратыі. Так ці інакш, дэпутаты, якія будуць абірацца таксама праз інтэрнэт, трапляючы ў парламент, становяцца практычна аўтаномнымі ад выбаршчыкаў. У гэтым плане будзе набіраць папулярнасць такі метад ціску на ўладу, як масавыя вулічныя акцыі. Практыка сведчыць, што гэта цяпер больш эфектыўны сродак прымусіць палітыкаў слухаць людзей.

Што атрымаецца на самай справе з электронным галасаваннем у Балгарыі, мы даведаемся прыкладна праз тры гады. Раней запусціць электронную дэмакратыю папросту тэхнічна не атрымаецца.




# Ці дапамогуць ханы Елбасы?

Алег НОВІКАЎ

**У Казахстане скончыліся маштабныя афіцыйныя святкаванні 550-й гадавіны заснавання Казахскага ханства. Пра тое, навошта Назарбаеву спатрэбіўся культ ханаў і што ў выніку атрымалася, распавядае казахскі грамадскі актывіст Курман Канураў.**

***— Калі верыць інтэрнэту, час узнікнення Казахскага ханства застаецца прадметам спрэчак. Чаму менавіта 2015 год быў абраны юбілейным?***

— Яшчэ шмат незразумелага з тым Казахскім ханствам. Напрыклад, дасюль не лакалізаваная рэзідэнцыя першых ханаў. Само ханства нават на этапе ўздыму не мела акрэсленых межаў і рэгулярных войскаў. Тое, што замест правядзення гістарычных канферэнцый улады кінуліся святкаваць юбілей, тлумачаць высокай палітыкай.

Хапае спекуляцый, што ідэя святкавання юбілею з'явілася пасля словаў Пуціна аб тым, нібы ў казахаў у мінулым не было дзяржаўнасці. Маўляў, у Астане тыя словы ўспрынялі як намер паўтарыць на поўначы краіны, дзе жыве шмат рускамоўных, крымскі сцэнар. Менавіта пасля сентэнцыі Пуціна ў кастрычніку 2014 года Нурсултан Назарбаеў прапанаваў зрабіць наступны год «годам Казахскага ханства», якое выступае прадвеснікам дзяржаўнасці казахаў. Гэта выклікала лёгкі шок у грамадства, бо раней Елбасы сцвярджаў: «Казахская дзяржава нарадзілася разам з незалежнасцю краіны».

Акрамя таго, уладам так і не ўдалося выпрацаваць кансалідаваную «казахскую ідэнтычнасць». Краіну да гэтага часу ўмоўна дзеляць на Старэйшы, Сярэдні і Малодшы Жузы (каз. «жуз» — «саюз», аб'яднанне казахаў, што склалася гістарычна. — НЧ), і па гэтай лініі час ад часу адбываюцца канфлікты. Тэма ханства павінна была дапамагчы сцэментаваць казахскую ідэнтычнасць.

***— Пасля таго, як Назарбаеў анансаваў святкаванні, за год сітуацыя ў Казахстане значна змянілася. З-за падзення міжнародных коштаў на сыравіну нацыянальная валюта патаннела на 75%. Ці паўплываў кепскі стан эканомікі на канцэпцыю свята?***

— Безумоўна. Не дарма падчас адкрыцця ў Астане манумента з нагоды 550-й гадавіны Казахскага ханства Елбасы рэкламаваў казахскую стабільнасць і мір. Гэта павінна было неяк кампенсаваць эканамічную турбулентнасць. Юбілей перыядычна спрабавалі трактаваць як акцыю, накіраваную на паляпшэнне эканамічнай сітуацыі. Маўляў, міма такой падзеі не зможа прайсці казахская грамада ў замежжы. Яна адчуе адказнасць за лёс радзімы і будзе, у тым ліку фінансава, дапамагаць суайчыннікам. Нарэшце, сапраўды, буйныя святочныя мерапрыемствы адцягнулі ўвагу людзей ад паўсядзённых праблем.

***— Што ўяўляла сабой святкаванне?***

— Гэта была звычайная, вытрыманая ў лепшых савецкіх традыцыях кампанія. Сходы грамадскасці; урокі, прысвечаныя Казахскаму ханству, у школах; юбілейныя канцэрты; адкрыцці помнікаў; спартовыя турніры; тэатралізаваныя імпрэзы. Карацей, стандартны набор. Былі спробы стварыць тэматычныя фільмы, мульсерыял, і нават паставіць балет «Казахскае ханства», аднак на гэта не хапіла часу. Ну і, натуральна, на месцах з-за залішняга імпэту чыноўнікаў узнікалі камічныя сітуацыі. Так, Мінадукацыі рапартавала, што нейкі хлопчык у правінцыі ў гонар заснавальнікаў Казахскага ханства вырашыў зрабіць 550 адцісканняў ад падлогі.

***— Як грамадства Казахстана паставілася да незвычайнай акцыі?***

— Супярэчліва, паколькі тэма подзвігаў міфічных ханаў вельмі абстрактная, не звязаная з рэаліямі. З іншага боку, шмат каму спадабалася, што ў рамках святкаванняў практычна з нуля аднавілі горад Тараз на поўдні краіны, дзе праходзіла галоўная частка святаў. Незадаволенасць у сецыве выклікала тое, што на святкаванні, будаўніцтва помнікаў, здымкі фільмаў выдаткавалі некалькі мільярдаў тэнге. Называлася лічба ў 123 мільёны долараў ЗША. Некаторыя смяяліся, што дэмакратыі ў Казахскім ханстве было больш, чым у сучасным Казахстане. Не кажучы пра тое, што ханства стварылі ханы-бунтаўнікі, якія збеглі з-пад дыктату ўзбекскага хана.

***— Якой была рэакцыя казахскай апазіцыі на юбілейныя мерапрыемствы?***

— Шуміха вакол Казахскага ханства была ў тым ліку скіраваная на тое, каб прыцягнуць у праўладны лагер апазіцыянераў-нацыяналістаў. Частка нацыяналістаў сапраўды ўцягнулася ў гэтую тэму. Але збольшага апазіцыянеры намагаліся ігнараваць святкаванне юбілею. Яны ўзгадалі пра Казахскае ханства толькі зараз, пасля таго, як 24 кастрычніка ў Таразе (за савецкім часам Джамбул. — НЧ) нейкі юнак падпаліў сябе перад офісам прэзідэнцкай партыі «Нур Атан». Хаця матывам суіцыду быў канфлікт з паліцыяй з-за наркотыкаў, скандальны нюанс відавочны. Тараз, які ўлады зрабілі сімвалам дзяржаўнасці казахаў, аказаўся сімвалам таго, што казахі ніякіх правоў у сваёй дзяржаве не маюць.

***— Ці будзе мець працяг цяперашні інтарэс улады да гісторыі?***

— Гледзячы па ўсім, улады не будуць спыняцца на святкаванні юбілея Казахскага ханства. Прынамсі, паводле апошніх словаў Назарбаева, гісторыя казахскага этнасу сыходзіць глыбей, чым 1456 год, калі ўмоўна ўзнікла Казахскае ханства. Ён заклікаў шукаць вытокі казахаў у гісторыі гунаў, сакаў, цюркаў і іншых азіяцкіх намадаў. Афіцыйныя гісторыкі адразу агучылі версію пра тое, што казахам, магчыма, быў сам Чынгіз-хан. Так што можна смела чакаць новых гучных юбілеяў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сі Цзыньпін



Лідар кітайскай Кампартыі заклікаў да стварэння «5-й арміі Маа». «5-я армія Маа» — гэта структура блогераў, якія павінныя каментаваць у пазітыўным ключы ініцыятывы кіраўніцтва КНР. Аднак у гэтай галіне Кітай не стаў першапраходцам. Такія структуры, на думку экспертаў, маюць, напрыклад, Расія і Украіна. Аднак кітайскі выпадак асаблівы. Справа ў тым, што Пекін даўно і паслядоўна вёў вайну ў сецыве супраць палітычнай крамолы. Пры гэтым у ход ішлі такія прымітыўныя прыёмы, як блакада акаўнтаў, забарона сусветных сацсетак і стварэнне іх кітайскіх аналагаў, арышты папулярных блогераў. Тое, што камуністы вырашылі змагацца не забаронамі, на думку палітолагаў, вельмі паказальна і, магчыма, паўплывае на інтэнэт-палітыку іншых аўтарытарных рэжымаў. Так ці інакш, паўмільярда кітайскіх юзераў цяпер будуць больш ведаць пра курс любімай партыі і ўрада. Калі верыць афіцыёзу, на заклік запісвацца ў «5-ю армію Маа» ўжо адгукнуліся некалькі дзясякаў тысяч блогераў. Праўда, хапае і скептыкаў.

### Арсен Авакаў



Ва ўкраінскай прэсе з'явіліся першыя статыстычныя дадзеныя аб выніках рэформы, якую ініцыяваў дырэктар МУС Украіны. Гаворка пра замену службы ДАІ на Патрульную паліцыю, якая фармавалася фактычна з нуля: кожны ахвочы мог стаць патрульным пасля паспяховай здачы тэстаў. Як сведчыць статыстыка па Кіеву, дзе патрулі пачалі працаваць першымі ў краіне, колькасць ДТП за час іх працы вырасла на паўтара працэнты. Рост колькасці ДТП не можа кампенсаваць нават тое, што, патрулі паводзяць сябе вельмі карэктна і прыбываюць на месца здарэнняў за некалькі хвілін. Адсутнасць вынікаў фактычна ставіць пад удар, мабыць, адзіную рэформу цяперашняй улады, якую безумоўна прыняло і ў якую шчыра паверыла грамадства. Больш таго, раней на хвалі пазітыўнай рэакцыі грамадства на патрулі, было прынята рашэнне аператыўна рэфармаваць увесь МУС. У сувязі з гэтым шэраг СМІ заклікалі Авакава адмовіцца ад «шыльдачных» рэформаў і сканцэнтравацца на фармаванні кадравага складу сілавікоў. Як піша «Украінская Праўда», «ліквідацыя органа, які забяспечвае рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі ў сферы бяспекі руху, без перадачы яго функцый іншаму органу — крок, які мяжуе са злачынствам». Цяжка сказаць, што зробіць Авакаў. Між тым на гарызонце 6 лістапада — апошні дзень існавання ўкраінскай міліцыі. Паводле прынятага закону, з 7 лістапада на яе месцы пачне працаваць так званая «нацыянальная паліцыя».

### Ангела Меркель



На мінулым тыдні канцлер ФРГ, лідар кансерватыўнай партыі Саюз хрысціянскіх дэмакратаў (CDU), зрабіла сенсацыйную заяву. Па выніках перамоваў з турэцкім урадам Меркель паабяцала туркам сяброўства ў Еўрасаюзе, крэдыты і шмат іншых бонусаў узамен за тое, што яны возьмуць на сябе прыём мігрантаў, якія рухаюцца ў Еўропу з Блізкага Усходу. Туркі яшчэ не далі адказу на прапанову, затое нямецкі палітыкум раз'юшаны. Баварскія хрысціянскія сацыялісты (партнёр CDU па кааліцыі) заявілі, што абяцанне сяброўства Турцыі ў ЕС — гэта занадта. Супраць еўраінтэграцыі Турцыі выступаюць і нямецкія левыя партыі. Так, Зялёныя лічаць, што Турцыі трэба спачатку шмат папрацаваць над стандартамі правоў чалавека. Варта дадаць, што ў Меркель і без Турцыі хапае праблем. Яе рашэнне прыняць мігрантаў з Блізкага Усходу адмоўна паўплывала на рэйтынг. У самой партыі імкліва паўстала фракцыя, якая выступае за адстаўку канцлера. Між тым, Меркель гледзячы па ўсім, усур'ёз гатовая прывесці Турцыю ў ЕС, калі Анкара дапаможа ёй вырашыць крызіс мігрантаў. Як заявіў адзін з яе міністраў, «у цяперашніх умовах не час вучыць кагосьці правам чалавека. Турцыя — ключ да рашэння праблемы мігрантаў».

# Праз Сібір і Канаду пяяць

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**Гэтага спевака называлі другім Шаляпіным, пра яго пісалі газеты Аўстраліі, Вялікабрытаніі, ЗША, Італіі, Нямеччыны ды іншых краінаў. Аднак у Беларусі ён да сёння застаецца асобай малавядомай. Няма не толькі прысвечаных яму кніг, але і артыкулы можна пералічыць на пальцах. А між тым, ён праз усё жыццё пачуваўся беларусам, не хаваў свайго паходжання і марыў «пяяць для Бацькаўшчыны».**

Нядаўна ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва з нью-ёркскага БІНіМа Лявонам Юрэвічам былі перададзеныя лісты таго самага спевака — Пётры Конюха. Лісты не толькі дадаюць новыя цікавыя факты да яго біяграфіі, але і проста ствараюць добрую нагоду, каб згадаць славутага суродзіча.

Пётра Конюх нарадзіўся 8 сакавіка 1910 года ў вёсцы Турэц (сёння Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці. Пра дзяцінства, калі ў юнака выявіўся надзвычайны голас, ён згадваў у размове з карэспандэнтам газеты «Бацькаўшчына» ў 1954 годзе:

*«Змалку пасьвіў каровы. Не свае — чужыя. Трэба сказаць, што ўся сям'я была музыкальнай. Калі ў жніво, бывала, зацягнем песьню, усё поле пераставала працаваць. Летам даводзілася мне часта вадзіць коні на папас далёка за вёску — якіх 4 кілямэтры. Рабіць няма чаго, дык я пяю. А назаўтра бацькі расказваюць мне, што ўся вёска да поўначы прасядзела на прызьбе, слухаючы...*

*[...] Ужо ў юнацкія гады пачуў нястрымны пацяг да музыкі. У 16 гадоў меў нагоду ўступіць у аркестру. Граў на карнэце. Гэта й было першым пачаткам мае музычнае асьветы. Калі апынуўся ў войску, прынялі мяне ў палкавую аркестру. Больш за год гралі мы ў тэатры ў Быдгашчы. Вярнуўшыся дахаты, дырыгаваў духавой і струннай аркестрай. А часта зьбіраліся на вёсцы, каб проста папяяць [...] Колькі разоў даводзілася пасядзець у гмінная «кутузцы» за беларускія песьні...»* (Бацькаўшчына, № 17 (199). 02.05.1954)

Грошы Пётра Конюх зарабляў, працуючы экспертам па закупах ільну і канопляў для польскага войска, дзеля чаго скончыў адмысловыя курсы ў Вільні. На радзіме ён ажаніўся, нарадзіліся сын і дачка.

З пачаткам Другой сусветнай вайны ў жыцці спевака адбыліся істотныя змены. У 1941 годзе ён быў высланы ў Сібір, адкуль, як і тысячы іншых грамадзян Другой Рэчы Паспалітай, змог трапіць у Армію Андэрса. Прайшоў праз Іран, Ірак, Палесціну, Егіпет і апынуўся на Апенінскай паўвыспе. У бітве за Монтэ-Касіна быў паранены, пазней за ўдзел у ёй атрымаў адмысловы медаль і «Зорку Італіі».



**Пётра Конюх**

Тады ж у Італіі Пётра Конюх змог распачаць прафесійнае навучанне музыцы:

*«Папасьці на студыі памог мне выпадак. Аднаго разу ведамыя італьянскія артыстыя песьні (Neri й іншыя) выпадкова пачулі мой голас. Не чакаючы, яны пайшлі да Андэрса з просьбай пусьціць мяне на пробу ў Рымскі Teatro Reale. Доўга чакаць не давялося. Я дасюль яшчэ захоўваю пасьветку ў Teatro Reale, што гэткага галасавога матар'ялу яны яшчэ ня чулі. Пасьля гэтага стыпэндыю атрымаць было ўжо няцяжка. Праляцела пяць год. Тут надарылася нагода выступіць як Беларусу ў конкурсе песьні, дзе брала ўдзел 13 нацыянальнасьцяў. Я ўзяў другое месца. І вось, за «беларускасьць» выступу я згубіў стыпэндыю — «суседзі» пастараліся. Давялося прабівацца самому — цяжка было... Адна лекцыя ў прафэсара каштавала тысячы ліраў. Зарабляў, даваў лекцыі, але навукі ня кідаў. Урэшце, 27 лютага 1951 году я атрымаў дыплём з Akademia Mondiale degli Artisti e Professionisti з тытулам Cavaliere Academico. Аднак у меру магчымасьцяў і далей браў лекцыі ў ведамых рымскіх прафэсароў. Няраз пяяў ужо ў найбольшых залях Рыму — Castel Sant' Angelo, Palazzo Barberini, Circolo Artistico...»* (Бацькаўшчына. № 17 (199). 02.05.1954)

Менавіта ад таго часу, ад пачатку 1950-х гадоў, і захавалася ліставанне Пётры Конюха і Вітаўта Тумаша, які жыў ужо ў Нью-Ёрку. Трэба адзначыць, што тагачасныя суродзічы-эмігранты з павагай ставіліся да спевака і намагаліся яго падтрымоўваць. Пётру Конюха запрашалі для канцэртаў у розныя еўрапейскія краіны: Нямеччыну, Бельгію, Вялікабрытанію. Аднак фінансавае становішча спевака было даволі складаным. Ён вельмі хацеў трапіць у оперу, але больш як саракагадоваму немясцоваму самародку гэта аказалася вельмі складана зрабіць.

У лісце ад студзеня 1953 года Пётра Конюх пісаў:

*«Дзякую за Вашу памяць аба мне. Атрымаў ад Вас картку з пажаданьнямі вясёлых сьвят, у якой так сама знайшоў 5 даляраў, за што шчыра дзякую. Можа калісь у прышласьці мне Бог паможа аддзякаваць добрым людзям.*

*Я да гэтага часу не магу ўладзіцца добра. Цяжка дастацца ў Оперу. Несамавітая канкурэнцыя, бо ў Італіі толькі можна зарабіць у Оперы. Канцэртамі і Радыямі зарабляю толькі на пражыцьцё і на навуку.*

*У сучасны мамэнт не магу наракаць, хоць зарабляю мала, але хапае на все неабходнае. У мяне месяц таму быў імпрызарыё з оперы Метраполітэну, слухаў мяне, запісваў мой рэпэртуар, казаў, што будзя для мяне шукаць працы ў Амерыцы. Надто было б добра, каб выяхаць, бо тут можна навучыцца, але грошы трэба ехаць зарабляць да Вас. Мне, чужынцу, біз іх тут надта цяжка разпачаць кар'еру, гдзе не кінуся, то все трэба грошы. Можа з гэтага што і будзя, як удасца, то ў гэтым годзе дабачымся ў New York.*

*Ня гэтак даўно награў восім песянь у Ватыканскім Радіо. Кс. Татарыновіч у каждые пятніцы а 18.30 пасля свое мовы пушчая адну а то і дзве песні».*

Жадаючы дапамагчы таленавітаму спеваку, Вітаўт Тумаш, разам з іншымі амерыканскімі беларусамі вырашыў арганізаваць гастролі Пётры Конюха ў ЗША. З абмеркаваннем гэтага праекту звязаны наступны ліст:

*«Рым, 11-9-1954.*

*Дарагі Прафэсар Тумаш!*

*Шчыра дзякую за ліст і турботы аба мне. Што да заработку з маіх канцэртаў у Амэрыцы, на гэта я зусім ні лічу і з Вашым праэктам у паўні згаджаюся. На першы раз маяго побыту ў Амэрыцы добрым будзя, калі аплацім усе расходы. Тут усё безумоўна залежыць ад арганізацыі, і трэба пашукаць надто сведамаго чалавека ў гэтым кірунку, каторы бы ні пашкадаваў свае працы і здольнасьці ў сарганізацыі, бо іначай нічарто пачынаць, бо толькі наразімся на страты. Я насібе бяру толькі вакальную частку па за чым усе будзе спачываць на Вашых сілах.*

*Што да рэпэртуару, то я маю прышыкованы як оперныя, так жа і народныя песні, менш-больш каля семідісці рэчаў, так само пяю на мовах як італійскай, рускай, украінскай, польскай, ангельскай, французскай і нямецкай. Ніскажу, што я гэтыя ўсе мовы разумею добра, але рэчы каторые спеваю, то прыгатованы добра.*

*Я думаю, калі пойдзя добра, то будзям магчы так само арганізаваць ні толькі для публікі беларускай, але так само і для другіх нацый «канцэрты інтэрнацыянальные».*

*Дарагі Прафэсар, я даю сваю згоду, а Вы думайце і рабеце, як Вы прыдбачваеце. Як гэта прынясе карысьць і есьць на часе для нашае агульнае беларускае справы, то старайтесе, а як есьць рызыка і малая надзея, то можа лепшым было б пачакаць яшчэ з год і абмеркаваць ляпей, каб мець большыя шанцы».*

Няма звестак, чаму менавіта не атрымалася тады арганізаваць канцэрты Пётры Конюха ў ЗША, аднак дакладна вядома, што ўвосень 1956 года ён настала перабраўся ў гэтую краіну. Менавіта тут у 1958-м спявак пазнаёміўся з кіраўніком Хору данскіх казакаў Сяргеем Жаравым, і апошні запрасіў яго да сталай супрацы. У выніку, Пётра Конюх цягам 27 гадоў працаваў у тым славутым хоры. Штогод спявак ездзіў у еўрапейскія і нават сусветныя турнэ і з гэтых вандровак зноў дасылаў лісты свайму даўняму сябру Вітаўту Тумашу.

У 1959 годзе, відаць, адбылося адно з першых такіх канцэртных падарожжаў, з якога Пётра Конюх даслаў наступны ліст:

*«Koln 17 XII 59*

*Дарагі Вітаўт!*

*Шлю табе і тваёй сямейцы мае найшчырэйшыя пажаданьні вясёлых Калядных сьвятаў і шчасьлівага Новага 1960 году.*

*У заўтра 18.XII.59 адлятаем з Kolna ў Бэрлін і так кожны дзень. Жыцьцё праходзіць, як кажуць, на калёсах.*

*У гэтым турнэ яшчэ будзям у Францыі, Бельгіі, Галяндыі і Англіі, варочаемся ў USA на пачатку сакавіка.*

*Я чуюся надта добра, у гэтым годзе таксама награлі чатыры нямецкія песні на кружэлкі. Гэта ўсё. Пішы, што ў цябе чуваць, як задаволяны з машыны. 13.XII 59 апошні мелі канцэрт у Munchenie, бачыўся з беларусамі з каторымі надта прыемна правёў час.*

*Бывай здароў*

*Твой Пётра»*

Паспяховая канцэртная дзейнасць разам з Хорам Жарава прыносіла Пётры Конюху не толькі славу, але і грошы. У яго з'явілася ўласная студыя ў Гамбургу, дзе ён мог працаваць самастойна без хору. А яшчэ ў яго



HOTEL KETTERER STUTTGART

Inhaber H. J. Thurm

MODERNES HOTEL MIT 100 BETTEN, PRIVATBÄDER UND DUSCHEN, EIGENER PARKPLATZ, HOTEL-RESTAURANT IM 1. STOCK

7000 STUTTGART W
Marienstraße 3, Postfach 925
Fernsprecher 29 41 51 / 29 43 72
Fernschreiber 07 22340 (kettrh d)

Гамбург 10-VI-73

Дарагі Вітаўт.
Вельмі табе удзячны
за перасланага ліста
Гэта быў вельмі для мене
важны дакумент.
У мене ўсё па старому,
можа прыеду ў Нью-Ёрк
трохо раньней як пісаў табе.
Учора ўжо атрымаў для
цябе тваю кніжку, надта
прыгожа выглядае. Як
буду вяртацца то забяру
з сабою, а калі хочаш раньней
то пішы, вышлю поштай.
Вось гэта і ўсе.
Прывітаньне ўсёй твоей
сям'і і знаёмым
твой Пётра

**Ліст Пётры Конюха да Вітаўта Тумаша. Захоўваецца ў БДАМЛМ**

# для Бацькаўшчыны

з'явілася магчымасць аддзячыць сябры Вітаўту Тумашу за тую дапамогу, якую ён даваў у цяжкія для спевака часы. У кожным сваім еўрапейскім турнэ Пётра Конюх выконваў адмысловую «кніжную» місію, шукаючы паводле замовы кіраўніка БІНіМа тыя ці іншыя беларускія кнігі. Згадкі пра гэта прысутнічаюць у лістах, таксама як і звесткі пра кантакты з тымі ці іншымі беларусамі, ды цікавасць да беларускіх справаў:

*«Гамбург 19-IV-68*

*Дарагі Доктар!*

*Шчыра табе дзякую за твой ліст, а такжа за тваю ўслугу, што да маіх рэчаў. Спадарыні Навіцкай я сягодня таксама напісаў.*

*Пасля турнэ я рашыў астацца ў Гамбургу, штосьці ніцягня мяне ў гэтае пекла Нью-Ёрк. Тут я маю маленькае студыё і патрошкі нават зарабляю. Да Нью-Ёрку вярнуся якога 15-VIII-68, а можа і трохі раней.*

*Вельмі хочацца паглядзець на выстаўку Скарыны.*

*Дарагі Вітаўт, я аж думцы, браток, радуюся, што твая выбраная праца (што да Др. Скарыны) дала так вялікі плён. Ты гэтым зрабіў для Бацькаўшчыны больш, як мы ўсе на эміграцыі. Я асабіста шлю табе мае найлепшыя ўзнаньні і жадаю ад усяе мае душы быць другім нашым Скарынаю, а першым Др. Тумашам. Я знаю, што ты гэтым ёсьць і будзяш. Я, братка, пакуль што мушу працаваць на казакоў, бо ня бачу другога выхаду, але пакуль што не заламаўся і веру ў свае сілы. Учора вярнуўся ад [Алеся] Карповіча, быў у яго два дні, ён таксама напісаў добрую музыку пад загалоўкам «Зубры», так што працы ёсьць многа і штонібудзь напэўно награяем.*

*З дому атрымаў лісты, усё пастарому, памагаць як заўсёды трэба, але ўжо якось даюць сабе рады.*

*Пішы, браток, можа ў чым магу табе памагчы, нісаромяйся, бо ты мне першы памагаў, чаго ніяк німагу забыць.*

*Будзь здароў*

*Твой Пётра»*

*«Гамбург 31-III-69*

*Добры дзень, Вітаўт!*

*Хацеў бы пачуць, што добрага ў цябе, а таксамо што чуваць на беларускім фронцэ. У мяне нічога цікавага. 23-III-69 закончылі турнэ, хор вярнуўся ў USA, а я пакуль што астаўся ў Гамбургу. Як надоўга яшчэ не рашыў, залежыць, як пайдуць мае справы.*

*У гэтым сэзоне с хорам Жарава награў на кружэлку «Магутны Божа» Равенскага, думаю, што на восянь ужо будуць у продажы.*

*Калі маяш з банку да мяне ліст, то будзь ласкаў, перашлі мне яго.*

*З нагоды Вялікодных Сьвят шлю табе і тваёй сямьі мае найлепшыя пажаданьні.*

*Будзь здароў*

*Твой Пётра»*

*«Amsterdam 15-5-70*

*Дарагі Вітаўт!*

*Хачу цябе запытаць, ці німаяш для мяне ліста із банку.*

*Калі-бы яно было то прашу, будзь ласкаў перашлі мне яго. Мне яно будзя патрэбно для адчоту.*

*У сучасны мамэнт сядзім на эрадроме в Амстэрдаме, чакаям на самалёт, адлятаям у Нарвэгію, у Осло і Штакгольм у Швэцыю. Шкадую, што ў гэтым сызоне ні будзям у Гішпаніі, а так бы меў бы нагоду пабачыцца з тваім сынам.*

*Пасьля турнэ я застануся на нейкі час у Еўропе. 21-II-70 буду в Парыжы. Пастараюся бачыцца с [Міколам] Абрамчыкам, кажуць, што ён моцна хворы, калі нісможа ён прыйсці на канцэрт, то я пастараюся яго наведаць.*

*Што чуваць у цябе добрага? Калібы мог чымсь табе прыслужыць, то пішы. Прывітаньні для ўсёй тваёй сям'і.*

*З пашанай*

*Твой Пётра»*

*«25-I-72*

*Дарагі Вітаўт!*

*Шчыра дзякуй за ліст. У мяне ўсё ідзе добра, у сучасны мамэнт находзімся ў Галяндьі, канцэрты праходзяць зь вельким посьпехам, мэнаджар нават мусіў на цэлы месяц прадоўжыць турнэ. Так што вярнуся ў Нью-Ёрк трохі пазьней, як думаў.*

*Так само дзякую за перасланы ліст з банку. Ён мне патрэбны для адчоту пры налогах.*

*Ты пішаш, што я шчасьлівы. Хто ведая? Можа гэта тваё шчасьце, бо фактычна гэта была твая ідэя, але галоўнае, што выйгралі.*



Партрэт Пётры Конха з дарчым надпісам а. Ч. Сіповічу. Лондан, 1954 г.

*Перасылаю гэты чэк табе і прашу цябе вельмі, зрэалізуй яго і будзь ласкаў разьдзялі грошы напалам, палавіну дай на кніжку Спд. Арсеньневай, а палавіну на зборнік песянь Спд. Зубковіч.*

*Што да тэйпрэкордэра, то я раджу купіць у Нью-Ёрку, я маю артыстычную лігітымацыю, і па гэтым дакумэнце пры куплі гэтых апаратаў маю ўсюды 20% скідку, так што найлепш зачакай.*

*З дому маю весткі нікепскія, дзеці ўжо ўладзіліся ў г. Стоўбцах, працуюць яко настаўнікі. Вось гэта і ўсё. Будзь здароў, прывітаньні ўсёй тваёй сям'і. Твой Пётра.*

*Пры нагодзе перашлі паквітаваньне ў Club Pahonia ў Canadzie».*

*«Бэрлін 25-III-72*

*Дарагі Вітаўт!*

*Дзякую за ліст і за ўсе турботы, што табе прычыніў. У сучасны мамэнт мы ў Бэрліне. Пры гэтай нагодзе хацеў табе купіць твае кніжкі, казкі і апавяданьні, у кнігарнях Заходняга Бэрліну іх ні найшоў. Я званіў у Усходні Бэрлін па тваяму адрэсу. То адну найшоў 108 Berlin Leipzigerstr 3-4 13-15 і другую Glinka str «Belorussische Erzahler».*

*28-III-72 наша турнэ канчаецца. Я астануся на які месяц у Гамбургу і праз кнігарню гэтые кніжкі выпішу і асабіста іх у маі месяцы табе прывязу.*

*Жадаю табе і тваёй сямьі Вясёлых Вялікодных сьвят*

*Твой Пётра»*

*«15-XII-72*

*Добры дзень дарагі Вітаўт!*

*Што добрага каля цябе, як праходзіць жыцьцё, якіе навіны ў беларускім жыцьці? Калі будзяш месць нагоду і ахвоту, то чаркані пару слоў.*

*У маім турнэ ў гэтым сэзоне зайшлі малыя перамены, а каторых хачу цябе таксама паведаміць. Отож Еврапэйскаё турнэ канчаецца 16-II-73 і потым пачынаем Японію, Аўстралію і Новую Зеландыю. Канчаем турнэ 20-IV-73 пасьля чаго хор варочаецца да Амэрыкі, я вярнуся да Гамбургу. Да Нью-Ёрку вярнуся ў канцы лета. Калі ты бы меў што-нібудзь залатвіць у гэтых краінах, то пішы, буду рад для цябе ўслужыць. Калі будзе ка мне якаясь почта, то калі ласка перашлі ўсё на Гамбург.*

*Будзь здароў*

*Твой Пётра»*

У 1975 годзе ў жыцці Пётры Конюха адбылася надзвычай важная падзея — ён змог спаткацца з сям'ёй, што засталася на Бацькаўшчыне. Незадоўга да спаткання спявак пісаў:

«Гамбург 3-XII-74

*Дарагі Вітаўт!*

*Шчыры дзякуй за ліст і фота (хай цябе Бог беражэ) напраўды ўдалая.*

*У мяне ўсё ідзе сваім чарадом добра.*

*Што тычыцца маяго конта, то я на даўжэй яго нібуду прадаўжаць. У мяне прадбачыцца вялікая сустрэча ў маімі сёстрамі, а такжа дзецьмі і жонкаю. Гэтая сустрэча шыкуяцца ў Польшы, прыблізна 20-VI-75. Так што гэтыя грошы лепш як будуць на бягучым канце, яны напэўна будуць для мяне патрэбны.*

*Што тычыцца да тваіх кніжок (сказкаў), то іх ужо ў каталёгу няма, але добра ты зрабіў, што падаў дакладны адрэс, кнігарня іх заказала 27-XI-74 за якіе тры тыдні павінны прыйсьці, як атрымаю, то адразу звычайнаю почтаю табе іх перашлю.*

*Я яшчэ маіх рэчаў табе ня высылаў, але ўжо ўсё маю запакована, хачу іх выслаць так, каб яны прыйшлі в NY тады, як і я прыеду. Я вярнуся ў пачатку марта.*

*Ці пісала Алена? Калі што патрэбна то пішы. У сучасны мамэнт зарабляю нікепска. У гэтым сызоне забралі трох маіх вучняў у тэатр так, што я ўжо ім не патрэбян, маюць у тэатры маэстраў лепшых за мяне.*

*Што тычыцца маяго награняя кружэлкі, то прызнаюся, што баюся рашыцца на гэта, вельмі дорага, але як за гэтые яшчэ 2 месяца мне ўдасца зарабіць добра, то можа рашуся. У гэтым годзе каштуя награньне кружэлкі многа даражэй, як у 1973. Скажу што цяпер у Эўропе на мой пагляд усё каштуя больш, як у Амэрыцы.*

*Доллар каштуя купіць 2,50 DM а прадаць 2,40 DM. Дакаціліся.*

*Прывітаньні Русакам. Жадаю ім вясёлых Калядніх сьвят і Шчасьлівага Новага 1975 г.*

*Будзь здароў*

*Твой Пётра*

*С Карповічам гаварыў па тэлефону, посьле Новага году прыедзе ка мне ў Гамбург напэўна і а табе ўспамянём».*

Падрабязней пра спатканне вядома ад дзяцей Пётры Конюха: Лёвы і Галіны. У 2009 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм» быў зняты дакументальны фільм, прысвечаны спеваку, дзе яго нашчадкі згадвалі сустрэчу з бацькам.

Нягледзячы на смутак па сям'і, Пётра Конюх так і не вярнуўся на радзіму. Ён працягваў працу з хорам да пачатку 1980-х гадоў.

*«Koln 15-XI-76*

*Добры дзень дарагі Вітаўт!*

*Здаецца, як учора з вамі ўсімі пажагнаўся, а ўжо трэцяя часьць турнэ праляцела.*

*У мяне браток нічога новага. Канцэрты, праходзяць вельмі добра. Жараў ужо на наступны сэзон даў сваю згоду, мне асабіста здаецца, што ён гэтаго не адолее, вельмі моцна кашляе.*

*Я чуюся надта добра, паю тоўста і моцна.*

*З дому меў ад сына ліст, з Вены выслаў пачку, патроху для ўсіх, ці застануся пасьля турнэ в Вене, яшчэ ні знаю, можа разам з хорам у сакавіку вярнуся в Нью-Ёрк, калі маяш якіе патрэбы то пішы.*

*Я яшчэ раз вам ўсім вельмі ўдзячны за так прыяцельскіе мае правады ў Еўропу.*

*Будзь ласкаў, прывітай ад мяне Русакоў і сваю сям'ю.*

*Твой Пётра».*

У БДАМЛМ захоўваюцца 24 лісты і паштоўкі, напісаныя ад 17 снежня 1959 года да 5 сакавіка 1977 года. Магчыма, былі лісты і пазней, але на пачатку 1980-х ліставанне, відавочна, спынілася праз хваробу Вітаўта Тумаша. Пётра Конюх жа працягваў браць удзел у беларускім жыцці амаль да канца свайго жыцця. Ён памёр у Канадзе 14 ліпеня 1994 года і пахаваны на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША), тамсама, дзе і яговы сябра.

Частку сваіх дакументаў і кружэлкі з запісамі спявак перадаў яшчэ пры жыцці сваім дзецям. Аднаўленне ж поўнай біяграфіі Пётры Конюха, асэнсаванне яго месца ў сусветнай музычнай культуры — яшчэ наперадзе. Таксама варта было б выдаць адмысловы дыск з песнямі ў выкананні Пётры Конюха, як выйшлі некалькі дыскі іншых эмігрантаў: Міколы Равенскага, Міхася Забэйды-Суміцкага. Прадстаўленыя ж тут і захаваныя ў БДАМЛМ лісты дадаюць каштоўныя дэталі да вобразу гэтага дзеяча.




Магіла Пётры Конюха на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША)

# «ХРАНАТОПь» Беларуская

Андрэй РАСІНСКІ

**Слова «хранатоп» азначае суплёт часу і месца, а «хранатопь» — адметнасць беларуская.**


Фота www.partisanmag.by

Жанчыны хаваюць старога, які быў юрліўцам для ўсяго наваколля — дый не прапускаў аніводнай спадніцы. Але каго ён кахаў найболей?

Легкадумныя аўтамабілісты натыкаюцца на лясных німфаў. Лепей бы яны гэтага не рабілі.

Бандыт прывозіць сябра ў карэ'ер, каб застрэліць, але ёсць яшчэ адна тайна, што перакуліць усё дагары нагамі.

Удава мастака знаходзіць малюнкі з палюбоўніцай мужа — і прыдумвае вытанчаную пасмяротную помсту.

Пакрыўджаны на жонку беларус вешаецца. Але, як вы разумееце, тут усё і пачынаецца.

Кароткія кінагісторыі аб'яднаныя ў праекце «Хранатопь», што пачаў збіраць Андрэй Кудзіненка. «Хранатопь» — гэта не звыклы кінаальманах, зроблены рознымі аўтарамі. Гэта — зрэз цяперашніх абрадаў, дзіўных выпадкаў і цырымоній, запрашэнне да супольнай творчасці, актуальная талака міфалогій і несвядомага. Гэта — фрэска-кінатвітэр, што пішацца ў партызанскіх умовах грувастка-мёртвай манаполіі старой студыі і спарахнелых ідэалогій.

Кінаальманахі здаўна былі папулярныя. Самыя першыя кінапаказы, дзе намяшана ўсяго з усім — такія пачатковыя, гарластыя і вольныя альманахі. Калі грошы, улада і фанабэрыстыя ідэі (марксізм, фашызм, лібералізм, дзяржавахвальства) яшчэ не ўсталявалі сваёй жорсткай формы, сеансы ў кінатэатрах былі тэрыторыяй свабоды, атракцыёнам з актыўным гледачом, які мог пабачыць сябе на экране, свістаў, пляскаў і радаваўся ад душы.

Нядаўнія альманахі, кшталту «Парыж, я кахаю цябе» — гламурныя, вылізаныя, пра вольніцу забыліся. «Хранатопь», які на пачатку мысліўся як стужка пра Менск, — поўная супрацьлегласць такому скаронаму альманаху.

«Хранатопь» — гэта былічкі, амаль праўдзівыя гісторыі пра неверагоднае, што адбываецца побач, але запоўненыя страхам, смехам і тайнай. Іх сваякі — фальклорныя запісы пра гарадскія легенды, дзіўныя выпадкі і пераўтварэнні. Гэта гратэскныя «Казкі» Адама Глобуса і «Тэлурыя» Сарокіна, які гуляе ў міфалогію на постсавецкіх руінах.

Першая ж гісторыя «Хранатопі», зрэжысаваная Кудзіненкам, адштурхоўваецца ад сапраўднага беларускага абраду «пахавання Сідоркі», што выклікаў захапленне ў фалькларыстаў. На Масленіцу старыя кабеты хаваюць ляльку дзеда з рухомым фаласам-морквай.

Кудзіненка запрасіў у эпізод слынных актрыс Таццяну Мархель, Любоў Румянцаву, Тамару Мужэнка. Народны гратэск агорнуты арыстакратычнай тугою і настальгіяй. «А цяпер спявайце!» — запрапанаваў рэжысёр. Актрысы ад усёй душы імправізавалі прыпеўкі, аднаўляючы рытуал.

**Сёння вялікія праекты Андрэя Кудзіненкі, якія маглі б годна прагучаць на міжнародных фэстах і захапіць публіку, пакладзеныя пад сукно. У гэтых умовах працаваць прыходзіцца малымі формамі**

Кудзіненка любіць працаваць з міфам і забытымі легендамі. Папярэдняя ягоная карціна «Hard Reboot» — гэта падарожжа на памежную тэрыторыі геаграфіі і несвядомага (фільм здымаўся на мяжы Беларусі), дзіўная кінатэрапія і страшная казка адначасова. Гурт знаёмага музыкі «Noisa MC» распадаўся. Кудзіненка запрасіў музыкаў у Беларусь — і ўлучыў у казачную гісторыю, свядома збудаваную згодна з ініцыяцыйнымі правіламі фалькларыста Уладзімера Пропа. Стужка знітоўвала дакументальныя здымкі з фантастыкай, мастакі — і ўся здымачная група — змяніліся.

Увогуле, сучасная беларуская культура чулая да міфаў і рытуалаў. Гэта могуць быць аскетычна-дакументальныя гісторыі савецкага мінулага, як у Святланы Алексіевіч, але міфы могуць адразу брацца за аснову — як у творчасці Кудзіненкі.

Праца рэжысёра заключаецца ў здольнасці арганізаваць творчую групу, прыслухацца да кожнага, выявіць лепшае — і скласці ў агульную, цэласную карціну.

Я бачыў, як працуе Андрэй Кудзінка, як падбірае падыход да кожнага акцёра, як тлумачыць яму задачы, як плённа выкарыстоўвае схаваную энергію ў акцёрскіх імправізацыях. Гэта рэдкі дар — аб'ядноўваць людзей, каб стварыць новае. Стварыць ва ўмовах, якія для творчасці не прыстасаваныя.

Што ж, калі грувасткая бюракратычная машына займаецца тым, каб «трымаць кожнага і не пушчаць», то адказам будзе партызанская кінавытворчасць, як сталася са слыннай карцінай «Акупацыя. Містэрыі». Здымалася яна ўласнымі высілкамі — з калегамі і сябрамі, якія ведалі, чаго дасягнуць.

Сёння вялікія праекты Андрэя Кудзіненкі, якія маглі б годна прагучаць на міжнародных фэстах і захапіць публіку, пакладзеныя пад сукно. Замарожаны барочна-лабірынтавы «Шляхціц Завальня», дзе эстэтыка Яна Баршчэўскага знітаваная з пытаннямі Дастаеўскага (ідэолагі злякаліся, што напрыканцы стужкі забіваюць «цара-бацюхну»). Незвычайны сцэнар пра Лі Харві Освальда, які жыў у Менску — і вядома, чым праславіўся, — таксама ні ў якім разе не пажаданы (і гэта нягледзячы на тое, што сцэнар ужо прывечаны на міжнародным кінарынку).

У гэтых умовах працаваць прыходзіцца малымі формамі — сціслымі кінатвітамі, па 5–7 хвілінаў кожны, па-партызанску, у фармаце, які пасуе для інтэрнэту, каб гісторыі можна было бы знітоўваць, перастаўляць, і, галоўнае — дадаваць. Да кінагутаркі запрашаюцца ўсе: творцы маладыя і сталыя, акцёры-пачаткоўцы і акцёры народныя, вынаходнікі і мастакі. Гэта талака, супольная творчасць, майстэрства, падтрымка і навучанне.

Свае гісторыі для «Хранатопі» прапанавалі ўжо Віктар Марціновіч і Павал Касцюкевіч, а гісторыя ад Адама Глобуса ўжо набыла экранную форму. Зрэжысаваў яе Аляксандр Дэбалюк. Як іграві паспрабаваў сябе і арганізатар кінафэсту «Бульбамуві» Януш Гаўрылюк (бандыцкі кінатвіт «Таямніца гарбатай ямы» ўжо адзначаны польскім кінапрызам). У твітах, акрамя знаных кінаакцёраў, цалкам удала паспелі зняцца музыка Аляксандр Памідораў і спявачка Naka, мастак Артур Клінаў — і журналіст «Белсату» Валеры Руселік.

Слова «хранатоп» азначае суплёт часу і месца, то «хранатопь» — адметнасць беларуская. Суплёт топіцца ў багне, людзі гойсаюць на купінах, дзесьці лятае цмок. Гутаркі і спевы ўзносяцца да нябёсаў. Разам са створанай талакой міфалогіяй будуецца новы свет.

# Пачынаецца новы сезон прэміі «Дэбют»

**Прэмія прысуджаецца штогод за найлепшую дэбютную папяровую ці электронную кнігу, напісаную на беларускай мове ці перакладзеную на яе, аўтару або перакладчыку ва ўзросце да 35 гадоў на момант выдання кнігі.**




«Дэбют» ушаноўвае маладых аўтараў, што пішуць у жанрах, у якіх працаваў Максім Багдановіч, і ўручаецца ў намінацыях «Проза», «Паэзія», «Мастацкі пераклад».

Для ўдзелу ў конкурсе трэба да 31 студзеня 2016 года даслаць заяўку. Для гэтага неабходна запоўніць электронную форму альбо даслаць заяўку на электронную скрыню ці на паштовы адрас: 220005, Мінск, вул. Залатая Горка, 2-101. Да заяўкі неабходна далучыць электронную версію кнігі, а таксама перадаць на офіс Беларускага ПЭН-цэнтра (Мінск, вул. Залатая Горка, 2-101) 2 асобнікі кнігі, калі яна выходзіла ў папяровым варыянце. Заяўкі без электроннай версіі і 2 асобнікаў кнігі разглядацца ў конкурсе не будуць.

У лістападзе будзе абвешчана журы сёлетняй прэміі.

Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ўручаецца з 2011 года. Сярод папярэдніх пераможцаў прэміі — Віталь Рыжкоў, Наталка Харытанюк, Антон Францішак Брыль, Віктар Марціновіч, Андрэй Адамовіч, Юлія Шарова, Ганна Янкута, Уладзь Лянкевіч, Кацярына Оаро, Кацярына Маціеўская, Аляксей Палачанскі, Таццяна Нядбай і інш.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Выконваючая абавязкі галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**
Карэктар і стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1387

Падпісана да друку 30. 10.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.